# НАШ КРАЙ

№ 2 (41) 1929



ЛЮТЫ

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц.Б. КРАЯЗНАЎСТВА

# ЗЬМЕСТ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІЇ НАВУК**

№ 2 (41) Люты 1929

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Вынікі II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.

На працягу шасьці дзён (з 7 па 12 студзеня) адбывалася праца II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Конфэрэнцыя мела мэтай вырашэньне пытаньняў двох відаў: падвышэньня кваліфікацыі па краязнаўству мясцовых краязнаўцаў і вырашэньне некаторых пытаньняў організацыйнага характару.

З прычыны абмежаванасьці сродкаў былі выкліканы Ц.Б.К. на мэтодычную частку конфэрэнцыі (курсы) толькі прадстаўнікі ад 30 раённых таварыстваў краязнаўства. Пры вызаве на конфэрэнцыю-курсы ў аснову быў пакладзены стан працы па краязнаўству ў тым ці іншым раёне: выкліканы былі прадстаўнікі ад тых раённых таварыстваў краязнаўства, дзе праца за папярэднія гады не пасунулася далей організацыйнага пэрыоду і мелася на ўвазе дапамагчы гэтым раённым організацыям у справе пераходу да больш паглыбленай працы па краязнаўству; апрача гэтага кожнаму Акруговаму Таварыству Краязнаўства было дадзена права за свой кошт паслаць на конфэрэнцыю чалавек 4—5. На конфэрэнцыі ўдзельнічала 29 прадстаўнікоў ад раённых Таварыстваў Краязнаўства, 13 акруговых і 3 ад Саюзных рэспублік. У першыя чатыры дні прапрацавана 16 тэм мэтодычнага характару і паказана практычна, як весьці працу па вывучэньні мовы раёну, укладаньні географічнага слоўніка раёну, зьбіраньні гэрбарый, апісаньні сялянскага двара і інш. Падагульняючы сваю працу конфэрэнцыя-курсы адзначыла каштоўнасьць такіх практычных курсаў і вынесла пастанову організоўваць іх і ў далейшым ня толькі ў цэнтры, але і акругах.

У апошнія два дні (11 і 12 студзеня) вялася праца па вырашэньні пытаньняў організацыйнага характару. Дзеля вырашэньня гэтых пытаньняў конфэрэнцыя працавала ў больш пашыраным складзе. На конфэрэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі навукова-дасьледчых і вышэйшых навучальных установ, прадстаўнікі партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый. Усяго разам з прадстаўнікамі раённых і акруговых краязнаўчых організацый удзельнічала 63 чалавека. Асноўнымі пытаньнямі на конфэрэнцыі былі: справаздача ЦБК аб стане краязнаўчай справы ў БССР і пытаньне падрыхтоўкі краязнаўцаў. Са справаздачы ЦБК выявілася, што краязнаўчая справа на мясцох за апошнія два гады пайшла ў глыб, значная частка мясцовых краязнаўчых організацый ад організацыйнага пэрыоду перайшла да навукова-дасьледчай справы па вывучэньні сваёй мясцовасьці. Гэтае палажэньне сьцвярджаецца тымі лічбамі, якія былі прыведзены на конфэрэнцыі. На працягу 1928 г. толькі 60 раённымі і акруговымі краязнаўчымі

організацыямі, якія далі справаздачы, сабрана экспонатаў для музэю 4378, запоўнена анкет 786, зроблена апісаньняў розных 208, апісаньняў для географічнага слоўніка 699, запоўнена фэнолёгічных картак 1098, гідролёгічных 88, запісаў мэтнагляданьняў 2997, фольклёрных запісаў 9815, сабрана слоў 8827, запоўнена програм асаблівасьцяй мовы 122, праведзена экспэдыцый і экскурсій 104 і запоўнена розных іншых матар'ялаў 856. Запісы па ўкладаньні географічнага слоўніка, а таксама праца па апісаньні тых ці іншых об'ектаў ёсьць навукова-дасьледчая праца. Апрача гэтага організавана толькі ў гэтых 60 організацыях 22 краязнаўчых музэі, у якіх налічваецца 15233 экспонаты. У галіне выдавецкай выпушчаны: II ч. Віцебшчыны, III ч. Аршаншчыны, Мазыршчына, II ч. апісаньня „Асіпавіцкі раён", Горацкі раён, Слоўнік Віцебшчыны і друкуюцца слоўнік Чэрвеншчыны, Мазыршчыны, а таксама шмат матар'ялаў па апісаньні тых ці іншых пунктаў падрыхтавана да друку. Усяго асоб, якія зрабілі тую ці іншую краязнаўчую працу выяўлена на 6500 членаў гэтых краяэнаўчых організацый каля 1500 чал. Глыбей за ўзё разгортваецца краязнаўчая праца на Мазыршчыне. Склад членаў па партыйнасьці і нацыянальнасьці расьце больш-менш нормальна: членаў КПБ 7,8%, КСМ 16, беспартыйных 76,2. Заўважаецца рост КСМ. Па нацыянальнасьці зьмен у параўнаньні з данымі папярэдніх гадоў амаль няма. Па профэсіі: асьветнікаў 52%, вучняў 35% і іншых 13. Паступова расьце краязнаўчы рух за лік моладзі.

Конфэрэнцыя констатавала: а) што краязнаўчая праца ідзе ў глыб; б) што яна пачынае граць вялікую ролю ў мясцовым жыцьці; г) што ў шмат якіх раёнах мясцовыя органы ўлады зразумелі карысьць краязнаўства і робяць грашовую дапамогу. Побач з гэтым зазначаны факты адмоўных адносін да краязнаўства там, дзе праца пастаўлена слаба. Асноўнымі мерапрыемствамі ў справе далейшага разгортваньня і паглыбленьня краязнаўчай справы на мясцох зьяўляюцца: усьведамленьне ўсёй савецкай грамадзкасьцю значэньня пытаньняў краязнаўства; матар'яльнае падтрыманьне мясцовага краязнаўчага руху па мясцовым каштарысе; падрыхтоўка краязнаўцаў-організатараў. Конфэрэнцыі-курсы па падрыхтоўцы краязнаўцаў у далейшай працы краязнаўства павінны заняць пачэснае месца, бо толькі ў такім выпадку ўвесь масавы краязнаўчы рух зможа перайсьці да больш паглыбленай краязнаўчай працы па вывучэньні сваёй мясцовасьці.

У канцы працы конфэрэнцыі былі праведзены выбары ЦБ Краязнаўства, у склад якога ўведзены прадстаўнікі навукова-дасьледчых установ, вышэйшых школ БССР, савецкіх і грамадзкіх організацый, акруговых таварыстваў краязнаўства і прадстаўнікі трох раённых краязнаўчых таварыстваў — Слуцкага, Горацкага і Барысаўскага, усяго 37 чалавек. Апрача таго былі праведзены выбары Прэзыдыуму ЦБК.

Увесь час на конфэрэнцыі прымалі ўдзел прадстаўнікі краязнаўчых організацый РСФСР т. т. Сегаль і Лазарыс і прадстаўнік Камітэту Краязнаўства Украіны т. Зайцаў, якія значна дапамаглі ажыцьцяўленьню працы конфэрэнцыі, дзелячыся вопытам пастаноўкі краязнаўства ў сваіх Рэспубліках.

Каб даць магчымасьць азнаёміцца з вынікамі працы конфэрэнцыі ўсім мясцовым краязнаўчым організацыям прынята зьмясьціць увесь ход працы конфэрэнцыі ў час. „Наш Край". Пастанова гэта амаль поўнасьцю выканана: працы конфэрэнцыі зьмешчаны ў № 1 час. „Наш край" за 1929 г.

Конфэрэнцыя закончыла сваю працу з аднэй думкай перайсьці да паглыбленьня працы па вывучэньні свайго краю дзеля перабудовы яго на карысьць працоўных.

Усе краязнаўчыя організацыі БССР павінны ў далейшай сваёй працы стаць на шлях, вызначаны II Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыяй, на шлях паглыбленага краязнаўчага вывучэньня сваёй мясцовасьці.

*А. Казак.*

---

Ул. Падарэўскі.

# Краязнаўчыя організацыі і абручкаваньне (кальцаваньне) птушак.

Інтэнсыўнае разьвіцьцё краязнаўчага руху ў СССР у апошнія гады высоўвае вельмі сур'ёзнае пытаньне аб распрацоўцы мэтодаў колектыўнага дасьледваньня, бо ўсе мэтодолёгічныя ўстаноўкі дарэволюцыйнага пэрыоду мелі на ўвазе пераважна дасьледчыка-адзінку. Пры вядомым недахопе распрацаваных колектыўных дасьледчых тэм мы лічым асабліва своечасовым зьвярнуць увагу беларускіх краязнаўцаў-орнітолёгаў на тыя магчымасьці, якія адчыняе для іх праца абручкаваньня птушак. Лёгкая ў тэхніцы, захапляючая ў сваёй абстаноўцы, праца гэта ў самай сутнасьці сваёй зьяўляецца працай колектыўнай і ўжо дзеля гэтага заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі з боку ўдзельнікаў масавага грамадзкага руху.

У падставе сваёй абручкаваньне птушак зьяўляецца, як вядома, навуковай працай, якая вырашае выключна цікавыя пытаньні аб пералётах і вандроўках птушак. Абручкаваньне ўпяршыню пачаў у 1899 годзе даньчанін Мортэнсон, і з таго часу яно шырака распаўсюджваецца ва ўсіх краінах Эўропы, у Паўночнай Амэрыцы і ў некаторых Азіяцкіх дзяржавах. З эўропейскіх краін толькі адна Італія, наколькі нам вядома, упарта не праводзіць абручкаваньня птушак, як мэтод орнітолёгічнага дасьледваньня.

У СССР абручкаваньне праводзілі проф. Кайгарадаў, Фальцфэйн, Орнітолёгічны Камітэт (проф. Расінскі). Аднак да апошняга часу справа гэта ў нас яшчэ мала пашырана, і мы ня маем дакладных вестак аб маштабе правядзеньня абручкаваньня і аб выніках яго.

Пасьля рэволюцыі працу абручкаваньня, узгадніўшы з Орнітолёгічным Камітэтам, разгарнула Бюро Кальцаваньня пры Цэнтральнай Біостанцыі юных натуралістых імя К. А. Ціміразева. З 1924 году на тэрыторыі Саюзу азначана абручкамі Бюро больш за 10.000 птушак. З гэтага ліку да 1 лістапада 1928 г. здабыта абручкаваных птушак, паводле атрыманых намі вестак, 180 экзэмпляраў.

У 1927 годзе зоолёгам М. Д. Зьверавым (у Сібіры) ужываўся мэтод абручкаваньня для вывучэньня перасоўваньня суслікаў, які ўжо ў першы год даў цікавыя вынікі (гл. час „Листки Биостанции" М. 1928, № 9). У сучасны момант мы карыстаемся дапамогай больш за сотню метнікаў, раскіданых па ўсёй тэрыторыі СССР. Лік гэты зьяўляўся-б вельмі вялікім для многіх іншых краін, але ён, зразумела, ня можа быць задавальняючым ні для нашых прастораў, ні для вырашэньня тых практычных, гаспадарчых задач, якія мы цяпер перад сабой ставім.

Справа ў тым, што шэраг практычных пытаньняў нашай паляўнічай гаспадаркі застаецца да гэтага часу ня вырашаным або вырашаецца зусім нездавальняюча з прычыны нашага малога знаёмства з многімі асноўнымі пытаньнямі біолёгіі паляўніча-прамысловых відаў. Мы, зразумела, ведаем, што нашы качкі штогодна робяць правільныя пералёты, а нашы курыныя вандруюць на вельмі шырокіх прасторах, але колькасны бок гэтых зьяў застаецца да гэтага часу ў большасьці выпадкаў, няясным, і лёгка сабе ўявіць, колькі ўсьвядомленасьці можна было-б унесьці ў організацыю заказьнікаў, ахоўных зон зімовак, калі-б пры вырашэньні ўсіх гэтых пытаньняў мы мелі дэталізаваныя, добра абгрунтаваныя карты пралётных шляхоў і шляхоў вандровак нашых паляўніча-прамысловых парод.

І ў гэтым выпадку чыста навуковая праца ў сваіх выніках можа быць скарыстанай для чарговых організацыйна-гаспадарчых мерапрыемстваў,—і гэтая акалічнасьць павінна яшчэ больш прыцягнуць зацікаўленасьць краязнаўчых організацый да справы абручкаваньня.

Тэхніка абручкаваньня нескладаная. Злоўленую птушку бяруць у левую руку чэраўцам уверх і хвастом ад сябе, двума пальцамі гэтае рукі—вялікім і паказальным або сярэднім—трымаюць выцягненую ножку, а правай рукой надзяюць на заступак (плюсну) крыху рассунуты абручок, пасьля чаго беражкі абручка набліжаюцца да спатканьня „на стык“ пры дапамозе пальцаў правае рукі або плосказубцаў. Калі маюць справу з буйнай птушкай, а абручкі ўжываюцца „з замком“, тады патрэбна дапамога другой асобы, прычым без плосказубцаў тутака ўжо не абыйсьціся.

Абручкі нашы робяцца з алюмінія і маюць надпіс, як паказана на малюнку. БЮН азначае скарочаную назву: „Биостанция юных натуралистов“. Паасобныя літары справа паказваюць сэрыю абручка. Абручкі вырабляюцца наступных сэрый.

А. Арліныя.

В. Гусіныя.

С. Качыныя (вуціныя).

D. Варонавыя.

Е. Чайкавыя. Абручкуюцца чайкі рачныя (кнігаўкі), крыжанкі (крачкі), чыркі, галкі і інш.

F. Шпаковыя.—Шпакі, дразды, амялушкі і інш.

G. (Літара на абручку адсутнічае).—Усе дробныя птушкі ня большыя за гіля.

Пры выкананьні гэтай працы патрэбна пільна трымацца наступнага:

1) Абручок павінен зусім вольна варочацца па заступцы, ні ў якім разе ня сьціскаючы нагі.

2) Абручкаваць можна толькі тую птушку, *відавая* назва якой метніку зусім дакладна вядома.—Бо здабываецца абручкаваная птушка часта мала пісьменнымі ў орнітолёгіі людзьмі, і таму ня можна чакаць ад іх правільнага, дакладнага азначэньня здабытай птушкі. Дзеля гэтага запіс у справаздачнай ведамасьці, што абручкавана „качка“, „чайка“, „кулік“, „ластаўка“, „верабей“ і да т. п., ні ў якім выпадку не дапушчаецца: неабходна абавязкова паказаць, якая менавіта качка, які менавіта з чыркоў, які менавіта кулік або голуб былі ў даным выпадку абручкаваны.

3) Не патрэбна абручкаваць птушак, якія даўно злоўлены і сядзелі ў няволі.—Доўгая няволя можа настолькі спыніць або сказіць ін-

стынкты птушкі, што яе далейшыя перасоўваньні ня будуць характэрнымі для данага віду і могуць прывесьці да няправільных вывадаў.

Звычайна праца тых установ, якія праводзяць абручкаваньне, выяўляецца ў тым, што яны дасылаюць абручкі ўсім жадаючым, абы гэтыя асобы былі досыць сьвядомы ў відавым складзе авіё-фаўны свайго краю. Аднак практыка папярэдніх гадоў пераканала нас у тым, што трата матар'ялу і чалавечай энэргіі на бяссыстэмнае абручкаваньне выпадкова здабытых птушак зусім непрадукцыйная. Трэба мець




1. Абручык сэрыі В з замком. Натуральнай велічыні.
2. Абручык сэрыі Е без замка. Натуральнай велічыні,
3. Поўны штамп абручкоў БЮН.

на ўвазе, што з ліку заабручкаваных птушак у рукі чалавека пападзе вельмі нязначны процант. Таму, калі нават метнік і атрымае паведамленьне аб здабычы аднэй з заабручкаваных ім птушак, калі нават гэтае паведамленьне і будзе сьведчыць аб залёце данай птушкі ў нязвычайную, супроць нашых уяўленьняў, краіну, дык і ў гэтым выпадку зрабіць якія-колечы вывады біолёгічнага або зоогеографічнага характару будзе немагчымым, з прычыны недахопу і недакладнасьці матар'ялу.

Толькі заабручкаваўшы аднначасова досыць вялікую колькасьць прадстаўніка якога-колечы віду, можна разьлічваць на атрыманьне больш-менш цікавых вынікаў.

Выказанае можна пацьвердзіць шэрагам фактаў. Так, заабручкаваная ў 1926 годзе каля Масквы берасьцянка (зяблик — Tringilla coelebs, L.) была здабыта ў Францыі. Гэта вестка вельмі цікавая, бо можна было думаць, што нашы берасьцянкі ляцяць па шляху на ўсход ад Францыі. Але ці можна, грунтуючыся на гэтым факце, уявіць сабе карціну пералётаў нашых берасьцянак? Зразумела, не. Калі-ж юнымі натуралістамі БЮН у чэрвені 1927 году было заабручкавана на возеры Кіёво, каля Масквы, 1332 чайкі рачных (Larus ridibundus, L.), так да канца году ў Бюро прышло ўжо 38 паведамленьняў аб здабычы ў розных мясцох Саюзу і па-за межамі заабручкаваных чаек. Такім чынам атрымалася магчымасьць уявіць сабе зусім закончаную карціну васеньняга пералёту гэтага віду, месц зімовак, тэрмінаў пералёту праз паасобныя раёны і да т. п.

Выходзячы з вынікаючай адсюль неабходнасьці сконцэнтраваць максімальную ўвагу магчыма большага ліку метнікаў на нямногіх відах, мы і пераходзім у сучасны момант да сыстэмы масавых кампаній у абручкаваньні. Такім чынам мы ня толькі павялічваем колькасьць заабручкаваных птушак выбраных відаў, але праз організацыю аднначасовага паўсюднага лову прадстаўнікоў якраз гэтых відаў, мы бязумоўна павінны атрымаць і большы супраць звычайнага процант спатканьняў.

На зіму 1928-29 г. намі абвешчана кампанія абручкаваньня наступных відаў, якія лёгка здабываюцца і пазнаюцца:

1. Гіль.—Снегирь.—Pyrrhula pyrrhula, L.
2. Чачотка.—Aeguthus linaria, L.
3. Аўсянка.—Emberiza citrinella, L.
4. Сініца вялікая.—Parus major, L.

(Гл. часопіс „Юный натуралист“. Масква, 1928, № 6 і наступныя).

Для лета 1929 году мы падрыхтоўваем організацыю масавага абручкаваньня па Саюзу паляўніча-прамысловых птушак:

1. Крыжак.—Утка кряковая.—Anas boshas, L.
2. Чырок-сьвістунок.—Anas crecca, L.
3. Чырок-траскунок.—Anas circia, L.
4. Кнігаўка.—Чибис.—Vanellus vanellus, L.

Таксама вельмі важна вывучэньне вандровак нашых курыных, і мы заклікаем беларускіх краязнаўцаў прыняць удзел таксама і ў гэтай працы. Але абручкаваньне цецярука, шэрай і белай курапаткі трэба організаваць інакш за абручкаваньне качак.—Калі ў апошнім выпадку зусім досыць паказаць толькі географічны пункт абручкаваньня, дык пры метцы курыных неабходна падрабязна апісаць стацыю, г. зн. абстаноўку, асяродзьдзе, у якім быў заабручкаваны ў пэўны час кожны экзэмпляр, а таксама і апісаць абстаноўку, сярод якой затым была здабыта заабручкаваная птушка. Мэтодолёгічнае паказаньне гэтае справы ў выглядзе адпаведна разграфлёнай карткі (накшталт прапанаванай па іншым выпадку ў № 7 час. „Юн. натур.“ за 1928 г.) будзе абвешчана намі ў паляўнічым друку.

Здабыча ўсіх гэтых птушак у выстарчальнай для абручкаваньня колькасьці не выклікае цяжкасьцяй, калі ў чэрвені-ліпні організаваць лоў вадаплаваючых відаў пры дапамозе рыбалоўных сетак, а курыных,—накрываючы проста кутнай сеткай вывадкі з-пад сабакі. (Аб здабычы цецярукоў для абручкаваньня глядзі: В. Подаревский.—Кружки юных натуралистов и охотничье хозяйство. Сборник „Юный охотник и рыболов“. Выд. „Молодая Гвардия“ М. Л. 1928).

У гэты час ужо можна абручкаваць птушанят, бо ў далейшым таўшчына заступка (плюсны) у іх амаль што не зьмяняецца, але зразумела пры гэтым, як і заўсёды, трэба будзе пільна сачыць за ўжываньнем для кожнага віду абручкоў адпаведных сэрый.

Апрача непасрэднага ўдзелу ў абручкаваньні намечаных відаў, беларускія краязнаўцы павінны будуць правесьці ня меней важную працу—укараненьне ва ўсіх пластох мясцовага насяленьня, асабліва паляўнічага, правільнага ўяўленьня аб тым, што павінен зрабіць кожны, здабыўшы заабручкаваную птушку. Здаецца, што гэта справа відавочная і для ўсіх зразумелая, а між тым кожны год прыходзіцца затрачваць многа лішняй энэргіі на тое, каб атрымаць неабходныя датковыя весткі да дасланых паведамленьняў, і ўсё-ж такі некаторая частка матар'ялаў аб спатканьнях заабручкаваных птушак гіне бясьсьледна.

Таму мы вельмі просім настойліва ўсьведамляць здабытчыкаў абручкаваных птушак, што аб кожным такім выпадку неабходна, не адкладваючы, даслаць павядамленьне альбо па нашым адрасе, альбо ў сваё паляўнічае таварыства, альбо ў мясцовую краязнаўчую організацыю, пры гэтым у паведамленьні абавязкова павінна быць паказана:

1) Усе літары і знакі, якія ёсьць на абручку. Іх патрэбна сьпісаць у тым выглядзе і парадку, як яны там пастаўлены, бо можа-ж быць здабыта птушка з абручком іншай абручкавальнай станцыі.

2) Час здабычы птушкі (чысло, месяц, год).

3) Месца здабычы (бліжэйшы пункт, які можна знайсьці на карце).

4) Свой адрас (для патрэбных дадатковых справак.

5) Паказаньне здабытай птушкі пажадана. Яшчэ лепш, калі пры гэтым паведамленьні будзе даслана лапка або крыло, а таксама і самы абручык, але гэта, зразумела, не зьяўляецца абавязковым.

6) У тых-жа выпадках, калі здабываецца заабручкаваная птушка жывой, вельмі пажадана паведаміць нас аб надпісу на абручку, а птушку з тым-жа абручком зноў выпусьціць, але выкананьне гэтага пажаданьня ні ў якім выпадку, зразумела, ня будзе абавязковым.

Паміж іншым, у некаторых беларускіх газэтах было паведамленьне, быццам корэспондэнцыя па справе абручкаваньня не падлягае аплаце.—Гэта недарэчнасьць, але паведамленьні аб спатканьнях мы просім дасылаць нам і даплатным лістом, калі дасылаючаму аплата цяжка. Лапкі, зьнятыя абручкі і іншае можна ўкладваць у ліст.

Па ўсіх пытаньнях, датычных абручкаваньня, належыць зварочвацца па адрасу: *Москва, 14. БЮН, Бюро Кольцевания.*

Абручкі дасылаюцца ўсім, хто распазнае мясцовыя пароды птушак, пасьля запаўненьня імі нашае анкеты, пры ўмове дакладнага выкананьня інструкцый і паказаньняў Бюро.

Пры організацыі працы ў колектыве неабходна вызначыць адказнага метніка на імя якога запісваюцца дасылаемыя абручкі, і які пэрсанальна адказвае за іх правільнае скарыстаньне і сваечасовыя дасылкі справаздачных ведамасьцяй.

---

**В. Самцэвіч.**

# Экспэдыцыйныя досьледы ўстаноў ІБК па вывучэньні прыродных багацьцяў і народнае гаспадаркі Б. С. С. Р. у 1928 г.*).

Для разьвіцьця нашае соцыялістычнае прамысловасьці і буйнае сельскае гаспадаркі нам неабходна добра ведаць нашы нетры, нашы карысныя выкапні, глебавае акрыцьцё зямной паверхні, нашы расьлінныя згуртаваньні і характар гэтых згуртаваньняў, а разам з тым нам патрэбна ведаць характар і стан нашай прамысловасьці, коопэрацыі, напрамак разьвіцьця паасобных галін народнае гаспадаркі, бо бяз веданьня ўсіх прыродна-гаспадарчых рэсурсаў і вытворчых сіл краіны нельга плянова будаваць соцыялістычную гаспадарку. Між тым да апошніх гадоў Беларусь была вельмі мала і слаба дасьледвана як з боку яе прыродных багацьцяў, гэтак, і з боку асаблівасьцяй яе народнае гаспадаркі і ўмоў яе разьвіцьця. Толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, пасьля ліквідацыі ўсіх нападаў на Беларусь з боку яе імпэрыялістычных ворагаў, Савецкая ўлада змагла прыступіць да плянавага будаўніцтва гаспадаркі, а разам з тым і да сыстэматычнага дасьледваньня ўсіх багацьцяў Рэспублікі. Дасьледчую працу на Беларусі ў 1923 г. пачынае Дзяржплян, стварыўшы для гэтае мэты Камісію па вывучэньні прыродных вытворчых сіл Беларусі (КПВСБ),

*) Артыкул, напісаны паводле справаздач катэдраў за 1927, 28 г. г. і матар'ялаў 2-й сэрыі КПВСБ.

а потым працу гэтую вядзе ІБК цераз адпаведныя катэдры і ўстановы сумесна з рознымі дзяржаўнымі органамі і навуковымі ўстановамі Рэспублікі.

Задачы індустрыялізацыі краіны, разьвіцьця буйнай і дробнай прамысловасьці, рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі, якія пастаўлены для неадкладнага вырашэньня Камуністычнай партыяй і Савецкай уладай, высунулі на першы плян вывучэньне нашых нетраў. Рэкогнасцыйныя геолёгічныя досьледы ўжо праведзены па Менскай, Бабруйскай, Магілеўскай, Віцебскай, Аршанскай і Полацкай акругах, дзе зарэгістравана больш 286 пунктаў розных карысных выкапняў (крэйда, гліна, торф, чырвоны і буры жалязьнякі, вапняковыя валуны, фасфарыты, маргель, пяскі, жалезістыя крыніцы і інш.), але гэтыя багацьці яшчэ да гэтага часу дакладна ў колькасных і якасных адносінах ня вывучаны ў такой меры, каб на праведзеных досьледах можна ўжо было плянава будаваць нашую прамысловасьць, для гэтага патрэбны яшчэ далейшыя дэталёвыя досьледы на працягу некалькіх гадоў.

Улетку 1928 г. Беларускім Геолёгічным Інстытутам праведзены наступныя экспэдыцыйна-палявыя досьледы. У Полацкай акрузе па запрашэньні Полацкага Акрвыканкому (і часткова на адпушчаныя ім для гэтай мэты сродкі) працавалі 4 падпартыі: 1) у паўднёвай частцы (па чыгунцы Ворша-Лепель, па р. Вулла і ў ваколіцах Вушачу, дзе існуюць мінэральныя крыніцы); 2) у паўночнай частцы вывучаўся вадазбор р. Дрысса, р. Полата і раён Дрэтуні (радыюсам у 15 клм.); 3) раён г. Полацку (родыюсам 15 клм.) і абодвы берагі Зах. Дзьвіны; 4) проф. Шчапоцьцеў проводзіў вывучэньне плянктону вазёр, балот і адкладаў торфу на поўначы Полацкае акр. і ў раёне Асінбуду. Вывучэньне адкладаў торфу мае вялікае значэньне ў вырашэньні проблемы апалу. Партыяй, якая працавала ў ваколіцах Полацку (М. Е. Кавалёў) выяўлена, што гутавых пяскоў каменнага вугалю і коаліну (на якія спадзяваліся мясцовыя гаспадарчыя органы) у памянёным раёне няма, але затое знойдзена ў значнай колькасьці добрай якасьці керамічная гліна.

Асноўная геолёгічная партыя (пад кіраўніцтвам проф. Блюдухо) працавала на Магілеўшчыне ў тых раёнах, дзе ВСНГ было запроектавана пабудова фосфарытнага і цэмэнтнага заводаў. Партыяй вывучаны адклады крэйды і фосфарытаў у ваколіцах в. Гразь і Бахарэўка; праведзены досьледы вадазбору р. Асьлёнкі і вызначаны карысныя выкапні: адклады розных глін, крэйды, пяскоў, фосфарытаў, выяўлены значныя адклады вапняковых туфаў. Пры дасьледваньні вадазбору р. Астра (ад в. Іванаўшчына да в. Каралінка) вывучаліся адклады крэйды, розных глін і пяскоў, а таксама ў першы раз знойдзеныя на тэрыторыі БССР эпохі турыйскага часу.

Досьледы адкладаў фосфарытаў у некаторых месцах паказалі, што адклады гэтыя досыць багатыя (з 1 кв. саж. можна дабываць да 150 пуд. фосфарыту), прычым значныя плошчы фосфарытаў мажліва скарыстоўваць ужо зараз у прамысловасьці пры сучаснай нашай тэхніцы *).

Праведзенае проф. Сіроціным дасьледваньне радыоактыўнасьці нашых выкапняў з глыбіні да 12 мэтр. паказалі, што найбольшаю радыоактыўнасьцю адзначаюцца гліны (у тры разы больш сярэдняй velі-

*) Паведамленьне проф. М. Т. Блюдухо на пленуме КПВСБ 1—4 сьнежня 1928 г.

чыні радыоактыўнасьці для горных пород), крэйда дае адхіленьне ў адваротны бок (у 2 разы менш сярэдняй велічыні), пяскі-ж наагул паказваюць сярэднюю велічыню радыоактыўнасьці.

Экспэдыцыйнымі геомагнэсавымі здымкамі (пад кіраўніцтвам проф. Сіроціна) у раёне г. Менску і па палудзеньніках між Жлобінам і Магілевам (усяго ў 26 пунктах) выяўлена, што ў розных месцах Беларусі наглядаюцца магнэсавыя аномаліі, што сьведчыць аб магчымай прысутнасьці ў нашай глебе жалезных руд.

Вывучэньне глебавага акрыцьця зямлі мае надзвычайна вялікую навуковую вартасьць і практычнае значэньне для аграноміі. Глебавыя досьледы распачаліся з 1923 г., але толькі з 1925 г. яны сталі сыстэматычнымі і плянавымі. Да сучаснага моманту праведзена вывучэньне Менскай, б. Барысаўскай, Аршанскай, Мазырскай, б. Слуцкай [1]) і Бабруйскай акругі. Улетку 1928 г. закончана дасьледваньне б. Слуцкай прыведзена вывучэньне Зах. часткі Бабруйскай акругі [2]).

Паверхня Случчыны, паводле экспэдыцыйных досьледаў партыі, прадстаўляе собой 3 асноўныя раёны (провінцыі) [3]): 1) павышанае слаба хвалістае плято на захад ад Слуцку з павышаным цэнтрам каля м. Копыля; 2) павышаная ўзгаркаватая ўсходняя акраіна акругі (ад Старыя-Дарогі да мяжы з Бабруйскай акругай; 3) паніжаная даліна паміж першымі двумя раёнамі, а таксама і на пэрыфэрыі першага раёну на поўнач і поўдзень. Глебатворчыя пароды першага раёну лёэсавідныя суглінкі, падасланыя блізка морэнай (толькі ў 6 невялікіх плямках у падсьціланьні знойдзена крэйда), у другім раёне пашыраны камяністыя пяскі і супяскі, блізка падасланыя морэнай; у трэцім раёне— глыбокія пяскі і блізкія грунтовыя воды. Глебы раёнаў характарызуюцца наступнымі асаблівасьцямі: у першым раёне пашыраны моцна ападзоленыя глебы з падзоламі і карбанатавымі саланчакамі па паніжэньнях, у другім раёне пераважна моцна ападзоленыя глебы, у трэцім раёне на высокіх месцах пашыраны слаба падзолістыя глебы, а далей пры паніжэньні рэльефу ідуць падзоліста-болоцістыя і забалочаныя глебы; на поўдні і поўначы ідуць травяна-тарфяныя балоты. Па думцы П. П. Рагавога высокая ўраджайнасьць глеб першага раёну тлумачыцца параўнальным багацьцем гэтае глебы карбанатамі.

У Заходняй частцы Бабруйскай акругі [4]) экспэдыцыяй вызначаны гэткія асноўныя глебавыя адмены:

1) няразьвітыя, слаба ападзоленыя глебы на камяніста гравельных пяскох;

2) слаба падзолістыя на сыпкіх пяскох, добра сартаваных, глыбокіх і безвалунных;

3) слаба падзолістыя на зьвязаных пяскох (5—10% фізычнай гліны); звычайна валунныя, часта падкладаюцца морэнай;

4) сярэдне і слаба аподзоленыя глебы на пескаватых супесках (10—20% фізычнай гліны), заўсёды валунныя;

---

[1]) Пад непасрэдным кіраўніцтвам П. П. Рагавога і пад агульным кіраўніцтвам проф. Я. М. Афанасьева.

[2]) Пад непасрэдным кіраўніцтвам А. Р. Медзьвядзёва і пад агульным кіраўн. проф. Афанасьева.

[3]) Характарыстыка рэльефу і глеб даецца па справаздачных матар'ялах П. П. Рагавога на пленуме КПВСБ 1—4 сьнежня 1928 г.

[4]) Паводле справаздачы А. Р. Медзьвядзёва на Пленуме КПВСБ 1—4 сьнежня 1928 г.

5) „моцна падзолістыя“ палявыя на пескавых суглінках (20—30% фізычнай гліны), заўсёды валунныя, з 20—40 см. пераходзяць у пясок; заняты ральлёй альбо яловымі лясамі;

6) падзолы і подзоліста-балотныя глебы на розных пародах (па нізінах і па краёх балот);

7) подзоліста-балотныя з ортштэйнавым бура-цынамоновым паземам „В“ (па балотцах, па краёх балот і тарфянікаў);

8) тарфяна-балотныя і няглыбокія моцна перапрэлыя тарфянікі ольсаў, прычым тарфяністы пласт подсьцілаецца перагнойным паземам.

Апрача гэтых адмен, на папярэдне складзенай карце Л. Р. Медзьвядзёвым вызначана яшчэ 7 адмен, як, напр., тарфянішчы і г. д.

Цікава адзначыць, што ў 1928 г. катэдрай глебазнаўства пад кіраўніцтвам проф. Я. М. Афанасьева зроблены цікавыя спробы зарысовак ляндшафтаў замест фотографаваньня іх, як гэта практыкавалася да гэтага часу. На пленуме КПВСБ у Менску (1—4 сьнежня 1928 г.) удалыя зарысоўкі горных мініятур, канцавых морэн, Кабеляцкіх парогаў і розных мясцовасьцяй Аршанчыны зрабілі досыць вялікае ўражаньне на прысутных. Зарысоўкі град і вазёр характарызуюць дзейнасьць вады ў мінулыя часы, зарысоўкі Кабеляцкіх парогаў — паказваюць выхады дэвону ў прарывах Дняпра і г. д.

Пачынаючы з 1924 г., на Беларусі праводзіліся геоботанічныя здымкі, якія ў 1928 г. ўжо закончаны дасьледваньнем Бабруйскай і Мазырскай акруг і да канца 1929 г. будзе зломана геоботанічная карта дзесяцівёрснага маштабу (О. С. Палянскай). Для агульнага, ляснога і сельска-гаспадарчага раёнаваньня, для пабудовы плянаў ляснойгаспадаркі, для мэліорацыйнае справы, для складаньня плянаў нашай прамысловасьці, што орыентуецца на мясцовую лясную сыравіну, вывучэньне расьліннасьці Беларусі мае, бязумоўна, вялікае значэньне. З заканчэньнем геоботанічных здымкаў у далейшым будуць вывучацца паасобныя тыповыя вучасткі расьлінных згуртаваньняў (лясы, балоты і інш).

Улетку-ж 1928 г. праведзены экспэдыцыйныя досьледы па геоботанічным і флёрыстычным вывучэньні ваколіц Менску (паўночны сэктар на 15—20 клм. ад Менску і плямгас імя Калініна (парк Ігнацічы) на поўдні ад Менску). Экспэдыцыяй абсьледваны наступныя пункты ў паўн. сэктары: 1) фольв. Казіміраўка, дзе зроблена геоботанічнае апісаньне лясоў, поплаваў і балот і 2) в. і саўгас Сёмкава (геоботанічныя і паркавыя апісаньні); 3) саўг. Банцараўшчына (апісаньне поплаваў); 4) саўг. Сьляпянка[1]); 5) саўг. Дараўкі (поплавы) і 6) фольв. Цна (вывучэньне імшары, поплаваў). Азначаныя досьледы між іншым мелі сваёй задачай даць дакладны нарыс флёры, які-б мог быць дапамогай пры правядзеньні школьных краязнаўчых экскурсій у ваколіцах Менску, а таксама высьветліць пытаньне аб месцы для Беларускага Цэнтр. Ботанічнага Саду. Адначасна праводзілася вывучэньне паркавых дрэвастанаў.

Краязнаўчым Гідробіолёгічным гуртком студэнтаў БДУ пад кіраўніцтвам проф. М. М. Гайдукова і пры ўдзеле асыстэнта Акімавай праводзілася вывучэньне мікрофлёры р. Сьвіслачы, а разам з гэтым высьвятлялася пытаньне аб уплыве гораду на забруджваньне вады ў Сьвіслачы. Высьветлена, што забруджваньне вады ў р. Сьвіслачы

[1]) Вучастак вывучаўся ў сувязі з думкай організацыі там Беларускага Цэнтрал. Ботан. Саду.

ў межах гораду ідзе ў гэткай паступовасьці: Старажоўка, вусьце Нямігі, скураны завод, бойня. Забруджваньне вады ў рацэ выяўлена нават на адлегласьці 30 клм. ад гораду (уніз па рацэ), што гаворыць аб патрэбнасьці вялікай увагі да забясьпечаньня чыстай вадой як ваколіц самага Менску, гэтак і ваколічных вёсак уніз па плыні ракі. Па рацэ знойдзена 201 від водарасьляй, 4 віды сера-бактэрый, 5 відаў грыбоў.

Катэдрай географіі ў ліпні 1928 г. была праведзена экспэдыцыя для вывучэньня Днепра-Дзьвінскага вадападзелу ў ваколіцах Асінбуду, які ў будучым будзе адыгрываць надзвычайна вялікую ролю ў зьмене тыпу і характару мясцовай гаспадаркі і нават ў зьмене самага характару краявіду. Экспэдыцыяй дакладна вывучаны г. Ворша (цікавы па сваім выгодным географічным палажэньні), густазаселеныя з інтэнсыўнай гаспадаркай раёны пад Воршай, лясныя і балотныя абшары Аршанскае „Палесіцы" (сярод якое будуецца Асінбуд), вазёрныя групы ў даліне Вярхіты (каля м. Бабінавічы) і Лязьненскі льнаводны раён. Другі маршрут прайшоў ад ст. Краснае ўздоўж „Палесіцы" цераз Асінбуд, Дзьвінскі с/с. да Багушэўскае вазёрнае групы. З мэтай вывучэньня тыпу паўночна-беларускае чыстае папарнае трохпалёўкі быў дасьледваны Сеньненскі раён. Гэтае дасьледваньне насіла рэкогнасцыйны характар і ў будучым пастаўленае пытаньне вывучэньня трохпалёўкі павінна быць праведзена больш грунтоўна. Экспэдыцыя сабрала багаты матар'ял аб Днепра-Дзьвінскім вадападзеле, апісана шмат паселішчаў і паасобных тэрыторый, праведзена 30 апісаньняў сялянскіх гаспадарак (у шасьці гнёздах). Апрача таго, запісана некалькі сот падворных статыстычных картак, зроблена звыш 300 фотоздымкаў і сабраны матар'ял для ўкладаньня экономічнай карты.

Шпаркі рост нашай прамысловасьці, рост рабочае клясы і інтарэсы ўсіх працоўных мас Беларусі патрабуюць ад нашых урадавых установ, грамадзкіх організацый і навуковых інстытуцый вырашэньня пытаньня аб разьвіцьці ў нас мясцовага курортна-санітарнага будаўніцтва. Гэта тым больш патрэбна, што наша Беларусь па сваіх прыродных багацьцях, кліматычных і іншых умовах знаходзіцца ў лепшых абставінах, чым шмат якія курортныя мясцовасьці СССР. Мясцовае курортнае лячэньне дае, як сьведчаць паказаньні спэцыялістых, лепшыя вынікі, чым, напр., паездкі ў Крым, і захоўвае сродкі працоўных мас Беларусі. Праведзенымі курортнай Камісіяй досьледамі 1927-28 г. выяўлена вялікая каштоўнасьць для лячэньня прыродных сіл у Баркаўшчызьне (Полацк. акр.). Тут вельмі добрае месца для пабудовы санаторыя для нэрвовых (якіх на Беларусі досыць шмат), бо ёсьць добры хваёвы лес, пескавая глеба, вазёры, прыгожыя ваколіцы і лекавыя крыніцы. Баркаўшчызна можа стаць курортам шырокага маштабу; тут можна пабудаваць санаторыю як для нэрвовых, гэтак і для сухотных, а таксама і гразелячэбную санаторыю для лячэньня працоўных усяго Саюзу. Добрыя курортныя мясцовасьці ёсьць на Віцебшчыне, Меншчыне, Гомельшчыне; дасьледваньне іх будзе праводзіцца і далей. НКАЗ ужо распачаў і будуе санаторыю для нэрвовых у Баркаўшчызьне.

У мэтах вывучэньня становішча і пэрспэктыў разьвіцьця нашай мясцовай прамысловасьці праведзены наступныя экспэдыцыі: 1) па вывучэньні смалярства на Беларусі; 2) па вывучэньні браварнай прамысловасьці і ўплыў яе на сялянскую гаспадарку і 3) па вывучэньні экономікі і тэхнікі народнага ткацтва.

Экспэдыцый па вывучэньні смалярства (Я. К. Троська) у Гомельшчыне і Мазыршчыне ўстаноўлена дынаміка росту сеткі смалярных прадпрыемстваў на Палесьсі за апошнія гады, агледжана 9 смалярань (13 катлоў) у часе іх вытворчага процэсу з вывучэньнем ёмістасьці катлоў, умоў загатоўкі карчоў і інш.; вывучаны запасы сыравіны ў розных раёнах для высьвятленьня ўмоў далейшага разгортваньня смалярства на Палесьсі; здабыты першыя даныя аб тэхнічных якасьцях хваёвых карчоў розных пунктаў Палесься, прычым выявілася, што процант смольнасьці карчоў Калінкавіцкае дачы (сьвежы бор) перавышае самую высокую смольнасьць хваёвых корчоў паўн. РСФСР (33,4—33,7 процантаў супроць 14—30 проц. па даных проф. Ногіна для паўн. РСФСР).

Экспэдыцыя па вывучэньні браварнай прамысловасьці (у складзе т.т. Бандырчыка і Ярмашэвіча) па плянах і програмах, узгодненых з ВСНГ, Белдзяржсьпіртам і Белсельтрэстам абсьледвала наступныя найбольш тыповыя бравары з іх раёнамі: Камаровіцкі (Петрыкаўскі р. Мазыр. акр.), Чалюшчавіцкі (Капаткевіцкі р. Мазырск. акр.), Салтанаўскі (Рэчыцкі р. Гомельск. акр.), Бялынкавіцкі (Касьцюковіцкі р. Магілеўск. акр.), Задабрасьцянскі (Крычаўскі р. Магіл. акр.), Ленінскі (Горацкі р. Аршанск. акр.), Янаўскі (Багушэўскі р. Аршанск. акр.), Абольскі (Сеньненскі р. Віцебск. акр.). Паданых экспэдыцый у сучасных межах БССР у даваенныя часы было больш за 330 бравароў, якія перакурвалі ў год каля 17,5 міл. пуд. бульбы і каля 75 тыс. пуд. кукурузы, выганяючы да 330 мільён. градусаў сьпірытусу (сырцу). У 1926-27 г. г. на Беларусі працавала толькі 53 бравары з гадавой продукцыяй у 86 міл. град. сьпірытусовага сырцу; на гэтых заводах перакурвалася каля 4 міл. пуд. бульбы і больш за 410 тыс. пуд. кукурузы (у сярэднім каля 80 т. пуд. бульбы і 8 т. пуд. кукурузы на 1 бровар.). Загатоўка бульбы па ўсіх браварох з 2043 тон у (1925-26 г.) ўзрасла да 5141 тоны (у 1927-28 г.), прычым на браварох Белдзяржсьпірту загатаўляецца выключна сялянская бульба, на браварох-жа Белсельтрэсту загатоўка сялянскай бульбы зьніжаецца (у 1925-26 г.— 426 тон альбо 90,7%, а ў 1927-28 г.—393 тон. альбо 47,6%). На браварох Белдзяржсьпірту завоз кукурузы не памяншаецца (у 1925-26 г.— 1961 тона, у 1927-28 г.—1972 тоны), на браварох-жа Белсельтрэсту наглядаецца некаторае паніжэньне завозу кукурузы (у 1925-26 г. — 600 тон, у 1927-28 г.—каля 485 тон.). Большая колькасьць бульбы загатаўляецца ў раёне 15 вёр., дзе наглядаюцца і найбольшыя засевы яе, але наогул раёны загатоўкі бульбы пашыраюцца да 50-вёрснага радыюсу (супроць 25-вёрснага радыюсу, вызначанага Наркамгандлем). Наогул, браварная прамысловасьць у дасьледваных раёнах стаіць ніжэй, чым яна была ў даваенныя часы.

Экспэдыцыяй па вывучэньні ткацтва на Беларусі (у Аршанскай акр.) дасьледвана 22 паселішчы ў Талочынскім, Аршанскім, Дубровенскім, Горацкім і Мсьціслаўскім раёнах. Дасьледваньне праводзілася ў напрамку вывучэньня экономікі і тэхнікі прадзеньня і ткацтва, прычым выявілася, што Аршанская акруга ў сэнсе народнага ткацтва можа быць падзелена на 3 часткі (раёны): усходнюю, цэнтральную і заходнюю. Асноўнымі характэрнымі раёнамі ў кожнай частцы зьяўляюцца: у ўсходняй—Горацкі, у цэнтральнай—Аршанскі, у заходняй— Талочынскі раён. Вельмі характэрным зьяўляецца Горацкі раён, насельніцтва якога амаль на 100% адзяецца ў тканіны ўласнага вырабу. Тут пашырана тканьне надзвычайна цікавых і прыгожых паясоў;

у Ленінскім сельсавеце гэтага раёну пашырана „ляхаваньне“ (шырокая мярэжка). У Аршанскім раёне латышы ткуць цікавыя суконныя коўдры і хусткі. Экспэдыцыя выявіла нерэнтабельнасьць народнага ткацтва пры сучаснай яго тэхніцы. Рыначны кошт продукцыі ў 3-4 разы ніжэй сабекошту і толькі зусім танная жаночая праца ўзімку ды недахоп фабрычнай тканіны ў вёсцы прымушаюць яшчэ вясковую жанчыну займацца хатнімі вырабам палатна пры вельмі прымітыўнай ткацкай тэхніцы.

Надзвычайна вялікае значэньне мае коопэрацыя ў соцыялістычным будаўніцтве вёскі і таму навуковы падыход да вывучэньня разьвіцьця нашае коопэрацыі і ўплыву яе на сялянскую гаспадарку мае вялікую вартасьць. Коопэрацыйнай камісіяй у 1928 г. і быў праведзены першы досьлед па вывучэньні накладных выдаткаў у малочнай коопэрацыі і ўплыву коопэрацыі на організацыю рыначнай малочнай гаспадаркі. Дасьледвана 5 найбольш буйных на Беларусі малочных арцеляй у Віцебскай акрузе (Астровенская і Уладзімірская—Віцебск. р., Дыманоўская—Высачанск. р., Міхайлаўская і Лязьнянская—Лязьнянск. р.) і каля 400 сялянскіх гаспадарак. Матар'ялы экспэдыцыі яшчэ не апрацаваны і пакуль не даюць мажлівасьць судзіць аб тым, які ўплыў коопэрацыя робіць на разьвіцьцё рыначнае малочнае гаспадаркі.

Канчатковыя вынікі экспэдыцыйных досьледаў стануць вядомы толькі пасьля апрацоўкі значных матар'ялаў, якія набыты ў часе экспэдыцый, калі на падставе навукова праверaных даных можна будзе будаваць пляны тых ці іншых гаспадарчых мерапрыемстваў для разьвіцьця нашае прамысловасьці, сельскае і наогул соцыялістычнае гаспадаркі.

---

**М. Касьпяровіч.**

# Вывучэньне гісторыі сялянскіх сем'яў.

Дзе-ні-дзе замежамі, як напр., у Фіншчыне, даўно лічылася, што аднэю з задач краязнаўчай працы моладзі і студэнцтва зьяўляецца „собирание семейных преданий“ (А. М. Тальгрен. Родиноведение... СПБ, 1913, ст. 28) і тамака вырасла цэлая літаратурная школа з уласнажыцьцяпісаў і жыцьцяпісаў сялян („Маладняк“, Менск. 1927, № 9, ст. 94). УРСФСР таксама было даўно заўважана, што „до сих пор при изучении местного края сравнительно мало интересовались систематическим собиранием и изучением данных биографического характера, относящихся к жизни местных деятелей. Тщательно собирались черепки, остатки орудий, домашней утвари и т. д. Очень редко в параллель этому делались систематические попытки собрать биографические данные о тех или иных местных деятелях, уроженцах местного края“ (Н. Рыбников. Биографический Институт, ст. I). Там было прызнана, што без мясцовых краязнаўцаў гэтая праца ня можа быць выканана, што „необходимо обратить внимание интересующихся изучением родного края на важность собирания биографических данных. Важно с самого начала работы это собирание сделать систематическим и планомерным“ (Н. Рыбников). Разам з тым у РСФСР быў выпрацаваны і пэўны погляд на самую мэтодолёгію працы. Лічылася, што „прежде всего“ трэба „способствовать пробуждению интераса ко всякого рода биографическим данным, в той или иной форме говорящим о жизни людей местного края. Пусть это будут даже средние, обыкновенные, ничем не выдаю-

щиеся люди. Для науки, по-скольку, она интересуется найболее типичным, этого рода человеческие документы представляют особенный интерес". (Вопросы краеведения, 1923, ст. 136). Таму навука павінна асабліва клапаціцца зьбіраньнем і вывучэньнем жыцьцяпісаў і гісторыі сем'яў работнікаў і сялян, аб якіх „мир и не думал и не слышал, но которые тепер исполняют главную долю его работ и от которых мы можем лучше всего научиться как исполнять их" (Рескин). Задачы мясцовых краязнаўцаў былі вызначаны таксама даволі дэталёва. „Дело изучающего местную жизнь отыскивать всякого рода человеческие документы, хранить, систематизировать их, вызывать их к жизни, побуждать к их собиранию и т. д. Такога рода материалами могут быть: биографии, автобиографии, дневники, семейные архивы, записки, воспоминания, письма, некрологи, легенды, песни, прибаутки, относящиеся к определенным лицам, пометки на календарях, фотографии, почерки, продукты творчества и т. д." (Биографический Институт. О собирании и изучении биографии местных деятелей, ст. 2). Па думцы заснаваўцаў гэтай навуковай плыні жыцьцё чалавека прадстаўляе вялізную цікавасьць. „Неужели жизнь человеческая зафиксированная в форме биографии — менее ценный материал сравнительно со всем тем, что собирают и изучают краеведы? Неужели этот материал дает нам менее чем изучение черепков утвари и т. д. Неужели при собирании памятников прошлого мы не поинтересуемся мыслями, чувствами — вообще переживаниями тех, кто творил ту внешнюю материальную культуру, которой на этом с'езде уделено столь внимания", — казаў у свой час адзін з іх (Конференция научных обществ по изучению местного края в Москве в декабре 1921 года. Сборник докладов... 1923, стар. 133). Але разам з гэтым вывучэньне гісторыі сем'яў і жыцьцяпісаў мае вялікае практычнае значэньне. „На ряду с психологией изучение огромного числа человеческих личностей различных времен, народов, классов, положений и т. д. окажется весьма ценным для истории, экономической науки, педагогики, для истории быта, культуры, торговли, техники, а также для истории наук вообще. Не мало поучительного в этой области можно будет найти для решения проблемы наследственности и одаренности, для патологии". Гэта праца „может иметь и чисто практическое значение: изучение жизни многих деятелей на различных поприщах может учесть их жизненный опыт и для будущих поколений. Сохранение возможно большего числа биографий будет способствовать накоплению этого жизненного опыта для будущего". Биографический Институт. Цели, задачи, стар. 1). Псыхолёгія, „dusza narodu to najszczytniejsze muzeum pamiątek", — казаў адзін польскі вучоны" (Al. Janowski. O kulcie postaci historycznych w muzeum regionalnem. Muzea regionalne, Warszawa, 1928, ст. 261). Але „человеческая личность несомненно является самым сложным из об'ектов, подлежащих нашему изучению" (А. И. Колодная. Психографическая схема, Орел, 1924, ст. 4) і таму ў РСФСР клапаціліся заснаваньнем цэлага Біографічнага Інстытуту ў Маскве, які-б займаўся вывучэньнем вызначаных вышэй пытаньняў і выпрацавалі вельмі добрыя програмы апрацоўкі біографічнага матар'ялу. Ініцыятары (Н. А. Рыбников, Москва, 1 Мещанская, д. 14, кв. 11 і інш,) ахвоча і зараз рассылаюць гэтыя програмы зацікаўленым. У нас-жа, на Беларусі, яшчэ не ўсьвядомілі ўсёй важнасьці працы ў данай галіне.

Паміж тым гэта адна з найбольш лёгкіх і даступных мясцовым краязнаўцам прац. Нашы краязнаўцы жывуць сярод работнікаў і ся-

лян, ды і самі амаль усе паходзяць з сялян. Вось таму ім і лёгка паказаць у сваіх працах па гісторыі работніцкіх і сялянскіх сем'яў усе дробязі быту і яго зьмены на працягу доўгага часу, выявіць усе адценьні соцыяльнага і нацыянальнага ўціску на мясцох у мінулым і наогул даць надзвычайна шмат карысных краязнаўчых матар'ялаў. А калі кожны краязнаўца дасьць за год адну такую працу, то Беларусь будзе за кароткі час мець багатую літаратуру гэтага роду.

---

**А. Н. Ляўданскі.**

# Археолёгічныя помнікі Беларусі.

У папярэднім артыкуле „Краязнаўчыя організацыі і археолёгія", які надрукаваны ў „Нашым Краі", № 12 за 1928 г., я застанавіўся, аалоўным чынам, на працы краязнаўцаў па вучоту, ахове і досьледах грхеолёгічных помнікаў за мінулыя дзесяць год. У гэтым-жа артыкуле я коратка спынюся на тых галоўных археолёгічных помніках, якія сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі і якія падлягаюць папярэдняму абсьледваньню з боку краязнаўцаў.

На тэрыторыі Беларусі знойдзена вялікая колькасьць прадметаў, якія сьведчаць аб тым, што быў такі час, калі тут жылі пляменьні



Мал. 1. Выгляд гарадзішча каля в. Чаркасова, Аршанскага р.

першабытных грамад, якія для сваіх прылад і зброі ўжывалі толькі камень, косьць і дрэва. Гэты пэрыод, які адносіцца далёка за мяжу гістарычных часоў, у навуцы завецца каменным.

Пэрыод каменя падзяляецца на некалькі эпох, з якіх у СССР ужо знойдзена шмат помнікаў палеоліту і яшчэ больш нэоліту. Помнікаў палеоліту ў БССР надта мала (выяўлена пакуль што толькі адна стаянка), помнікаў нэоліту—вельмі многа.

Палеолітычная эпоха, калі вызначаць яе даўнасьць геолёгічнымі данымі, адносіцца да канца чацьверцічнай, ці дылювіяльнай — эпохі разьвіцця земляное кары. Час гэты адзначаецца вельмі буйнымі фі-

зыка-геолёгічнымі зьменамі паверхні зямлі і ўзьнікненьнем існуючага віду чалавека (homo sapiens). Палеолітычны чалавек, які раней перажыў шмат буйных зьмен у прыродзе, вышаў з барацьбы з імі ня толькі не аслабленым, а яшчэ больш разьвітым і моцным і больш прыстасаваным да барацьбы за сваё існаваньне. Ён у гэты час навучыўся здабываць агонь, рабіць з касьцей, дрэва і каменя зброю і прылады працы і нават маляваць і выразаць малюнкі на касьцёх пераважна жывёл, на якіх чалавек паляваў (маманта, насарога, аленя

*Гарадзішча каля в. НОВАСАДЫ, Койданаўскага раёну.*




Мал. 2.

каня, быка і шмат інш.). Агонь грэў чалавека, бараніў ад дзікіх зьвяроў, якія ў вялікай колькасьці абкружалі чалавека.

Нэолітычная эпоха адносіцца да таго часу, калі ў прыродзе Эўропы, і ў прыватнасьці ў СССР мала-па-малу ўстанавіліся такія ўмовы, якія існуюць цяпер. Эпоха палеоліту з часам паступова зьмянілася нэолітам. За гэты доўгі час выпрацаваліся і розныя віды культур нэолітычнага чалавека. Эпоха нэоліту характарызуецца ўменьнем чалавека шліфаваць, а ў канцы эпохі сьвідраваць і пілаваць каменныя прылады (кліньні, сякеры). У гэтую эпоху чалавек навучыўся ляпіць гліняную пасуду і стаў прыручаць жывёл. Памяшканьнем нэолітычнага чалавека былі пячоры, зямлянкі і шалашы.

Нэолітычная эпоха паступова пераходзіць у пэрыод мэталю, які характарызуецца ўменьнем чалавека рабіць прылады з мэталю. Сьпярша чалавек рабіў прылады з медзі, пасьля з бронзы (сплаў медзі і волава), а ўрэшце і з жалеза.

Цяпер пяройдзем да апісаньня самых археолёгічных помнікаў.

*Стаянкі.* Стаянкамі называюцца тыя месцы, на якіх жылі людзі ў каменным і бронзавым пэрыодах. Знаходзяцца яны па берагох рэк, вазёр і часта пры ўтоцы аднэй рэчкі ў другую. Да рэволюцыі на Беларусі было вядома толькі некалькі стаянак, а за гэтыя 10 год іх адкрыта каля 200.



Мал. 3. Выгляд курганоў XI ст. каля в. Чаркасова, Аршанскага р.

Самыя старадаўнія стаянкі—палеолітычныя (стара-каменнага пэрыоду). На Беларусі К. М. Палікарповічам у 1926 годзе знойдзена пакуль што адна такая стаянка, якой налічваецца да 20 тысяч год. Знаходзіцца яна на р. Сажу, каля в. Бердыж, Чачэрскага раёну, Гомельскае акругі. Пры раскопках 1926-28 г. г. на стаянцы знойдзены косьці ад некалькіх дзесяткаў мамантаў, пячорнага мядзьведзя, пясца, быка і некалькі дзесяткаў крамнёвых прылад (скрабкоў, нажоў і інш.). Такія стаянкі ў БССР могуць быць знойдзены і яшчэ. Надворных прымет стаянкі гэтыя ня маюць. Можна знайсьці іх, галоўным чынам, па знаходках касьцей маманта і інш. жывёл таго часу.

Нэолітычных (нова-каменнай эпохі) стаянак на Беларусі за апошнія тры гады знойдзена звыш сотні. Асабліва многа іх адкрыта К. М. Палікарповічам па берагох р. Сажа і менш па р. Дняпры. Надворных прымет (у выглядзе валоў, рвоў) стаянкі ня маюць. Выявіць іх можна толькі па крамнёвых абломках, стрэлках, пласткох і абломках глінянай пасуды, часта аздобленай усякімі ямкамі, зубчыкамі, вяровачкамі і інш. рысункамі. Асабліва лёгка знаходзіць стаянкі на выдутых пяскох і размытых берагох. Такім спосабам многія краязнаўцы (Я. Р. Калодкін, С. С. Шутаў, А. Зьм. Каваленя, К. І. Кернажыцкіі і інш.) знайшлі некалькі дзесяткаў стаянак на Прыпяці, Дняпры і Беседз.

Стаянкі бронзавай эпохі (3—5 тысяч год таму назад), г. зн. тых часоў, калі чалавек разам з каменнымі прыладамі стаў ужываць медзяныя і бронзавыя, на тэрыторыі БССР сустракаюцца ў вялікай колькасьці. Асабліва многа іх знойдзена тым-жа Палікарповічам на р. Сажу.




Мал. 4. Плян кургана № 7 — групы II у м. Заслаўі, Менскай акр. Мужчынскае пахаваньне XI ст.

Знадворныя прыметы і матар'ял—тыя-ж што і нэолітычных стаянак, толькі зрэдку сустракаюцца бронзавыя рэчы.

Зразумела, што многа нязнойдзеных стаянак ёсьць і ў іншых мясцох Беларусі.

*Гарадзішчы.* Гарадзішчамі ў навуцы называюцца старадаўныя, штучна ўмацаваныя ўзгоркі, мысы і астраўкі. На Беларусі яны ў мясцовага насельніцтва носяць назву за́мкаў, замчышч, гарадкоў і гарадзішч. Звычайна гарадзішчы знаходзяцца пры ўтоках аднэй ракі ў другую, на берагох вазёр і рэдка на балотных ці лугавых астраўках, водаль ад вады.

Форму і памер гарадзішчы маюць розныя і часьцей за ўсё сустракаюцца гарадзішчы овальныя, блізкія да трохкутніка, зрэдку круглыя і яшчэ радзей—чатырохкутныя (мал. 1 і 2). Гарадзішчы ўмацаваны валамі і рвамі (часам па некалькі разам), а ў старадаўныя часы яны мелі і драўляныя ўмацаваньні. Гарадзішчы адносяцца да розных

часоў жалезнага пэрыоду. У нас на Беларусі ёсьць звыш 1000 гарадзішч (падрабязны вучот іх яшчэ ня зроблен) і больш за ўсё яны адносяцца да даславянскіх (раней VIII ст.) і менш да пазьнейшых (IX—XVI ст.) часоў.

Гарадзішчы ў розныя часы мелі і розныя прызначэньні. Да XII ст. яны былі як-бы „крамлём“ сярод вакольных насельнікаў і служылі часта як для абароны, гэтак і для ўсякага роду абрадава-рэлігійных і грамадзка-культурных мэт. Сярод гэтых гарадзішч сустракаюцца і




Мал. 5. Мужчынскае пахаваньне XI ст. ў кургане № 8 — групы II у м. Заслаўі.

такія, якія служылі толькі альбо для абрадава-рэлігійных, альбо для грамадзка-культурных мэт, альбо, урэшце, для абароны.

Старадаўныя гарадзішчы часта перабудоўваліся іншымі насельнікамі, якія прыходзілі з іншых месц. З прыходам славян на тэрыторыю Беларусі многія старадаўныя гарадзішчы таксама былі перабудованы апошнімі. Такім чынам мы ў іх маем некалькі культурных слаёў.

Пазьнейшыя гарадзішчы (XIII—XVI ст.) у большасьці мелі прызначэньне толькі вайсковае. Да гэтага часу ўмацаваньняў можна аднесьці гарадзішчы ў самым мястэчку Заслаўі і м. Лагойску, Менскай акр. і інш.

Гарадзішчы вельмі цікавы для навукі, бо ў іх захаваліся, як сказана вышэй, культуры розных часоў і насельнікаў. У гэтых гарадзішчах часта сустракаецца вогнішча, зямлянкі і інш. пабудовы, многа бітай і цэлай глінянай пасуды, жалезныя і бронзавыя прадметы (сякеры, нажы, стрэлкі, косы, бранзалеты, пярсьцёнкі і шмат інш.), косьці жывёл—хатніх і дзікіх, абгарэлыя хлебныя зярняты і г. д. Па гэтых рэштках можна меркаваць аб ступені разьвіцьця, культуры тых альбо іншых насельнікаў, аб іх гандлёвых зносінах, сельскай гаспадарцы, паляваньні і іншых заняткаў. Такіх гарадзішч на Беларусі за апошнія 3—4 гады дасьледвана звыш 60 (да рэволюцыі іх зусім не вывучалі). З іх асабліва багата рэчамі аказалася Банцараўскае даславянскае гарадзішча пад Менскам, раскопанае С. А. Дубінскім.

*Селішчы.* Селішчамі называюцца тыя месцы, дзе знаходзілася жыльлё чалавека ў дагістарычныя і гістарычныя часы жалезнага пэрыоду. Знаходзяцца яны часта каля вышэйпамянёных гарадзішч, як ранейшых гэтак і пазьнейшых часоў. Шмат якія селішчы знаходзяцца

і далёка ад гарадзішч, але больш за ўсё яны знаходзяцца блізка рэк і вазёр.

Селішчы, як і стаянкі, ніякіх земляных умацаваньняў ня мелі. Іх можна выявіць толькі па абломках пасуды, жалезных і інш. рэчах, якія сустракаюцца на паверхні, часта развораных селішчаў. Сярод поля селішчы часта адменна вызначаюцца сваім чорным культурным слоем, які сьведчыць аб тым, што тут доўга жылі людзі. На селішчах, як і на гарадзішчах, ёсьць часта наслаеньні розных культур, па якіх можна меркаваць аб прабываньні тут як даславянскіх, гэтак і славянскіх народаў. У селішчах сустракаюцца такія-ж прадметы, як і ў гарадзішчах.

*Курганы.* Курганамі ў навуцы называюцца магільныя насыпы больш круглай і зрэдку прадоўжнай, ці чатырохкутнай форм. (мал. 3.). На тэрыторыі БССР курганаў налічваецца дзесяткі тысяч. У сялян яны завуцца курганамі, капцамі, валатоўкамі і сопкамі. Часта сяляне, краязнаўцы і нават людзі з вышэйшай асьветай памылкова лічаць курганы магіламі швэцкіх, францускіх і інш. войн. Адносяцца курганы да паганскіх часоў і належаць розным насельнікам (і больш славянам), якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў дагістарычныя і часткай у гістарычныя часы. Больш за ўсё курганы адносяцца да XI—XII ст. і менш—раней гэтага часу.

Да X ст. ўключна ў курганох больш сустракаюцца трупаспаленьні. У курганох XI ст. і пазьнейшых часоў зьмешчаны ў большасьці звычайныя пахаваньні і часам па 2—3 і нават па 4 чалавекі разам, мужчын, жанчын і зрэдку дзяцей. Бываюць курганы і ахвярныя, без пахаваньняў.

У курганох з трупаспаленьнем зьмешчаны часта гліняныя гаршкі з паленымі касьцямі людзей, а часам і жывёл. Рэчы ў гэтых курганох часта папсаваны агнём.

У курганох са звычайным пахаваньнем нябожчыку мужчыне ставілі часта гліняныя гаршкі са стравай, клалі жалезныя сякеры, нажы, коп'і і інш. (мал. 4 і 5), а жанчыне вешалі яе аздобы: шкляныя і інш. пацеркі, бронзавыя бляшкі, надзявалі на шыю жалезныя і бронзавыя абручы (грыўны), на рукі бранзалеты, пярсьцёнкі і інш. і ставілі таксама гаршкі. Бывалі пахаваньні і бяз рэчаў, асабліва XII ст.

Абрад пахаваньня і прадметы з курганаў даюць шмат цікавага матар'ялу для вывучэньня жыцьця (і асабліва матар'яльнай культуры) чалавека, як у дагістарычныя, гэтак і ў гістарычныя часы.

Акрамя курганаў часта сустракаюнца на Беларусі грунтавыя магілы бяз насыпаў, якія адносяцца як да дагістарычных гэтак і да гістарычных часоў, але яны таксама маюць вялікую каштоўнасьць для навукі аб мінулым, асабліва першыя.

Сустракаюцца часта на Беларусі і каменныя крыжы XII—XVI ст. і вельмі рэдка каменныя фігуры людзей. Усе яны цікавы для навукі, і асабліва апошнія. Некаторыя з іх былі ідаламі.

Ёсьць яшчэ цэлы шэраг археолёгічных помнікаў, але яны альбо зусім не сустракаюцца на Беларусі, альбо сустракаюцца надта рэдка, як напр., палі пахавальных урнаў, г. зн. гліняныя гаршкі з паленымі касьцямі людзей, якія часта знаходзяцца няглыбока ў зямлі.

У заключэньне трэба адзначыць, што большасьць з пералічаных археолёгічных помнікаў Беларусі яшчэ ня толькі не абсьледваны, але і ня ўзяты на вучот. Бліжэйшая задача раённых і акруговых краязнаўчых арганізацый—гэта выявіць і апісаць (а калі магчыма зрабіць

пляны, зарысоўкі і фотографіі) па магчымасьці, усе археолёгічныя помнікі на сваёй тэрыторыі, скласьці карткавы каталёг на археолёгічныя помнікі, нанесьці іх на карту і ўсе гэтыя даныя прадставіць праз ЦБК ці непасрэдна ў Катэдру Археолёгіі Беларускай Акадэміі Навук.

Асабліва гэта важна зрабіць па магчымасьці за гэты год для таго, каб можна было на Ўсесаюзным Археолёгічным Зьезьдзе, які мае быць у сьнежні 1929 г., паўней прадставіць колькі і якія археолёгічныя помнікі ёсьць на Беларусі і што дагэтуль зроблена па іх вывучэньні. Краязнаўчыя організацыі самі павінны быць зацікаўлены ў памянёных досьледах, бо дасягненьні краязнаўцаў у галіне вывучэньня археолёгіі БССР будуць адзначаны на Ўсесаюзным Зьезьдзе[1]).

---

[1]) Аб тым, як рабіць абсьледваньні археолёгічных помнікаў, ёсьць цікавая кніжка А. А. Сьпіцына „Разведки памятников материальной культуры". Пособие для краеведов. Изд. Центр. Бюро Краевед. Ленинград—1927 г. 141 стр. и 176 рис.

Аб стаянках, курганах і часткова гарадзішчах Беларусі надрукована ў 1-м томе „Прац" Катэдры археолёгіі ІБК за 1928 г. (многа малюнкаў, плянаў і чарцяжоў).

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

Ів. Т. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч.

## Мястэчка Койданава.

*(Гістарычныя весткі).*

Мястэчка Койданава знаходзіцца на 53° 41′ 28″ шырыні,—3° 11′ 56″ ад Пулкава і 24° 41′ 20″ ад Парыжа даўжыні і на 222³/₄ мэтра вышыні над роўнем мора, на ўзгаркаватай мясцовасьці над невялічкай рэчкай Нецеч, а не на рэчцы Вусе, як паказана ў географіі Беларусі А. Смоліча і не над р. Узьдзянкаю, як паказана ў Сямёнава (Россия т. IX).

Гэта адно з старэйшых мястэчак Беларусі. У даўныя часы яно называлася, як кажа народнае паданьне, „Крутагор'ем". Гэта можа сьцвярджацца яшчэ тым, што ў старой Койданаўскай праваслаўнай царкве (згарэла ў 1850 годзе) быў абраз з надпісам: „Крутагорье 1149 г." [1]).

Зьмена назвы Крутагор'е на Койданава напэўна адбылася пасьля вядомай перамогі ў 1249 годзе Мендаўга над татарамі, на чале якіх стаяў Кайдан. У народзе дагэтуль захавалася паданьне, у якім імя якогасьці Кайдана зьвязваюць з заснаваньнем Койданава, што ён быццам быў тут пахаваны. Тое самае сьцвярджае і П. Шпілеўскі, які піша: „народ сохранил в предании имя какого то Койдана, только не знает, когда он существовал, говорит, однако, что пришедши с этим Койданам татары поселились в местечке и живут до настоящаго времени" [2]).

У канцы мястэчка з заходняга боку, на высокай горцы, якая звалася ў даўных докумэнтах „Гаштольдова", а людзі звалі „Крутогор'е", захаваўся да гэтага часу стары кальвінскі збор, пабудаваны на месцы былога замку. Хто і калі пабудаваў гэты замак, ні паданьні ні гістарычная літаратура не дае адказу. Ёсьць паданьне [3]) нібы яшчэ да пабудаваньня замку на гэтай горцы было паганскае капішча. Трэба думаць, што замак быў тут пабудаваны ў XII ці XIII стагодьдзі калі і ў шмат іншых мясцовасьцях Беларусі ў гэтыя часы будаваліся такія замкі беларуска-літоўскімі князямі для абароны гарадоў. І магчыма, што толькі дзякуючы гэтаму замку, літоўскім князям Скірмунту і Мен-

---

[1]) П. М. Шпилевский. Путешествие по Полесью и Белорускому краю, изд. 1858 г., стр. 78—80.

[2]) Там-жа.

[3]) Slownik Geograchiczny Krolewstwa Polskiego.

даўгу ў 1241—49 г. г. удавалася адбіваць татарскія навалы і ня пусьціць іх далей м. Койданава.

Пры Ўсяславе Чарадзею м. Койданава належала да Полацкага княства, знаходзілася амаль на самай яго заходняй граніцы, якая ішла па рэчках Вусе і Суле [1]). Пасьля яго сьмерці (1101), Полацкае княства было падзелена на два ўдзелы — Полацкі і Менскі. Койданава апынулася ў Менскім княстве пад панаваньнем Глеба, сына Ўсяслава, які вызначаўся сваім тыранствам і страшэнным уціскам насельніцтва.

Паводле гістарычных зьвестак, пад м. Койданавым, пачынаючы з 40-х гадоў XIII стагодзьдзя, адбылося некалькі вялікіх боек паміж літоўска-беларускімі князямі і татарамі. Першая бойка пад Койданавым памінаецца некаторымі гісторыкамі ў 1241 годзе, калі літоўскі князь Скірмунт разьбіў татарскіх князёў Гаюка і Кайдана, якія прышлі з свайго Давід-Гарадоцкага стану, і прагнаў іх назад [2]).

Другая бойка пад Койданавым адбылася ў 1249 годзе паміж войскамі літоўскага князя Мендаўга і татарскага—Балаклая, у якога далучыліся і войскі поўднёвых рускіх князей Даніла і Васілька. Рускія князі хацелі разам з татарамі пакараць літоўцаў за грабяжы іхніх княстваў; гэтая бойка была няўдалая, як для татар, таксама і для іх памоцнікаў—рускіх, яны былі разьбіты літоўцамі.

У запісках Кацярыны II [3]) пад 1276 гадам апісана трэцяя бойка з татарамі пад Койданавым: „в том же году (1276) Балаклай, хан орд крымскіх, паслал послы ко князю Туровскому, Пинскому и Мозырскому и тым требовать платежа дани, кои не исправно давали по неже области сии не задолго до того много потерпелі от набегов Литвы. С послами татарскими пришли ханские баскаки. Послы, не получив удовольствительнаго ответа, ни дани возвратились. Узнав о сем, хан пошол с великою силою на князи руския они же на границе в Койданове встретили его совокупными силами своими и литовскими. По упорной битве татары обратились в бегство а князи русские со многим пленом и добычею возвратились во свояси. Князь же Рохвольд литовский (сей князь Рохвольд назван и Скирмонт и Ромонд и Дромонт от князей Полоцких яко ниже явствует [4]), имея особенные не согласия со Черниговским князи с войском своим литовским пошел через Днепр до Северской земли и занял Стародуб, Чернигов и Мозыр и в оных городах посадил сыновей своих“.

Аб гэтай бойцы Скірмунта з Балаклаем прыводзяць летапісныя паданьні П. Шпілеўскі і Нарбут, у якіх гаворыцца аб заволскім цару Балаклаю, а ня крымскім, як гэта паказана ў запісках Кацярыны. Падругое, П. Шпілеўскі адносіць гэта паданьне да 1174 году, а Нарбут да 1176 году. Трэба думаць, што тут скарэй за ўсё хронолёгічная памылка, бо зьмест гэтага паданьня супадае з вышэйпаказаным 1276 г. у запісках Кацярыны.

У 1445 годзе вялікі князь Літоўскі Казімір Ягайлавіч, выклікаўшы да сябе з Мазоўша свайго стрыечнага брата Міхаіла Зыгмундавіча, аддаў яму ўдзел яго бацькі, у які ўваходзіў паміж іншых гарадоў і горад Койданаў [5]). Праз 12 гадоў мы бачым, што сялянства ўжо на-

[1]) Довнар-Запольский.—Очерк Истории Кривических и Дриговических земель, стр. 15.

[2]) Игумен Анатолий.—Древняя Туровская Епархія. Стр. 40.

[3]) Екатерина II.—Исторические Записки т. IX, ст. 40.

[4]) Там-жа, стр. 45.

[5]) Narbut.—t. I, стр. 55, § 108.

заўсёды граматаю Казіміра прымацоўваецца да панскіх двароў, што забаронена прыватным уласьнікам прымаць да сябе сялян вялікага князя, які таксама абяцаўся ня прымаць чужых сялян.

Праз некаторы час мястэчка пераходзіць ва ўладаньне Васілія „Верейскага“, (бацька яго Міхаіл меў горад Верою, Маскоўскай губ.), ён быў жанаты на грачанцы Марыні, пляменьніцы жонкі вялікага кн. Іоана III і быў прычынаю сваркі ў сям'і вялікага князя: Іоан вельмі задаволены тым, што нарадзіўся ўнук Дмітры ад яго нявесткі Елены, хацеў ёй падарыць „драгацэннае узарочье“, але даведаўшыся што яго жонка перадала гэтае ўзароч'е Вярэйскім, ён раззлаваўся, адабраў усю маёмасьць Васілія і пагражаў пасадзіць яго ў турму [1]). Васіль спалохаўся, уцёк у Літву, дзе яго прыняў вялікі князь Казімір і даў яму на права ўладаньня Койданавым наступны ліст: „1483 г. Окт. 2. лист к Койдановским слугам, людям путным и всем людям. Тому жь данина на Койданов у вотчыну. Ко всим слугам и путным людем и всим людем Койдановъцом. Дали есмо князю Васил Михайловичу Койданов со всим по тому, как есмо сами мели и как на нас держано тыми разы, а дали есмо во отчыну. Писано у Троцех октяб 2 день иньдикт 2“ [2]). Так мы бачым, што князі, якім прыходзілася цяжка ў адным месцы, уцяклі ў другое, там іх прымалі, давалі на ўладаньне маёмасьць з усім насельніцтвам. Пасьля сьмерці Казіміра яго сын кароль Аляксандар выдаў Васілю пацьвярджальную грамату на гэтае-ж самае Койданава разам з іншымі мясцовасьцямі. Гэта грамата дадзена ў Вільні ў 1499 г. Апр. 18. „Потвержене князю Василью Верезкому на замок Любеч и на дворы Койданов з Рубежевичи, Усу. Старынки, Ислочь, Воложын и Радошковичи вечностью [3]).

У гэтыя часы Койданава было ў Луцкім павеце.
Васіль Вярэйскі памёр у 1501 годзе і Койданава засталося яго жонцы Марыі да 1505 году. Тут зноў мы бачым, што за гэтыя часы, у 1502 годзе ўвосень татары нахлынулі на гэтую мясцовасьць і спалілі ўсё дашчэнту, а калі што дзе і пазаставалася, дык даканалі вясною ў наступным 1503 годзе [4]). Ім усё хацелася, каб як-небудзь дабрацца да Менску. Яны даходзілі да Койданава, каля яго затрымліваліся і са злосьці зьнішчалі ўсё навакол і зьвярталіся назад.

Пасьля сьмерці Марыі Койданава перайшло яе дачцы Софіі, якая вышла замуж за Альбрэхта Мартынавіча Гаштольда і вось ад гэтага пачыналася ў некаторых докумэнтах і назва „Гаштальдова“. Гаштольд уладаў Койданавым да 1539 году і пасьля яго сьмерці (ня было дзяцей) Койданава пераходзіць „до Короны“ і робіцца староствам.

Праз дзесяць гадоў, у 1550 годзе, кароль Зыгмунд Аўгуст (стары), выказваючы ласку Радзівілам, іх сястры Барбары Гаштальдовай, дараваў Койданава з акалічнымі вёскамі Міхаілу Рудому і апошні ўстанавіў тут ужо замест староства — Койданаўскае графства, якое было часткай уладаньня (dżedzinctwa) лініі Радзівілаў Біржанскіх.

Радзівілы пачынаюць прыводзіць у парадак сваё ўладаньне і скупляць акалічныя маёнткі. Так, праз два гады мы маем купчую крэпасьць баяр Жыдовічаў Мікалаю Радзівілу на фальварак Старынкі [5]).

[1]) Карамзин — т. VI, гл. II., стр. 113.
[2]) Литовская Метрика, атд. I, ч. I, стр. 391.
[3]) Архив Юго-Западнiй России, ч. VIII, стр. 120—122.
[4]) Нарбут, ст. 73, §§ 148, 149.
[5]) Акты Виленськой Комиссии, т. XXIV, ст. 130.

І як відаць з купчай, Жыдовічы станавіліся падуласьнікамі Радзівілам, яны для пабудовы маёнтка давалі Жыдовічам месца на сваёй зямлі і абяцаліся захоўваць сваёй узброенай сілай, а захоўваць трэба было, бо ўвесь гэты час вяліся бойкі з казакамі і татарамі, якія дзе праходзілі, там пакідалі руіны.

Больш за ўсіх мучылася сялянства, яно не магло схавацца ў тагочасныя крэпасьці-гарады і вось іх сотнямі палілі ў сваіх хатах, альбо душылі, падняўшы сьцены хат, паміж бярвеньняў, або садзілі на кол, не шкадуючы дзяцей і жанчын [1]).

Усё гэта выклікала тое, што кароль Зыгмунд у 1568 годзе сабраў вялікае войска для вайны з маскоўцамі, прышоў у Радашковічы і ў Койданове меў прыпынак у багатага магната і кіраўніка войска Радзівіла [2]).

Праз некалькі гадоў Кароль Зыгмунд III (1574 г.) даў прывілеі татарам на права ўладаньня зямлёю і іншыя свабоды, прыраўнаваўшы татар да іншага насельніцтва, шляхты. Гэты-ж кароль з 1588 году дараваў Койданаву адзін кірмаш у тыдзен і два вялікія гадавыя кірмашы: 23 красавіка на „Юр'я“ і 1 кастрычніка, на „пакровы“ [3]), якія захоўваюцца і да гэтага часу.

У 1649 годзе, князь Радзівіл, патомак першага з Радзівілаў уладара Койданава, які меў тытул акрамя князя Койданаўскага, „князя на Біржах, Дубінках, пан на Неўлі ў Себежу, воевода Віленскі, гетман Велькі Велікага княжства Літоўскага, Казімерскі, Борысаўскі, Велькійскі, Рэтоўскі, Любецкі, Жозоўскі староста“ [4]), зьбіраў узброеную сілу для вайны з казакамі. У гэты-ж час казацкі старшыня Багун паліў паселішчы сялян [5]). Праз пяць гадоў рускія, разьбіўшы палякаў, у 1654 годзе вясною прайшлі ўсю Беларусь, дзе спалілі да 200 гарадоў, мястэчак і замкаў [6]). Камандуючы польскай і літоўскай арміямі, вышэйназваны гэтман літоўскі Януш Радзівіл, мала таго, што ў парадку загаду, але пачынае з сваёй галоўнай штаб кватэры — Койданава пісаць агітацыйнага характару адозвы да жыхароў сваіх ваяводзтваў. Такая адозва была паслана і да жыхароў Віцебскага ваяводзтва 23 кастрычніка 1654 году [7]).

У гэтай адозьве падкрэсьліваецца надта дрэннае становішча войска літоўскага, якое ня мела магчымасьці, седзячы ў Койданаве і ў ваколіцы, мець сувязь нават з сваімі ваяводзтвамі, будучы акружанымі казацкімі атрадамі. Паны пачалі ўжо прасіць дапамогі ад усяго насельніцтва, каб мець магчымасьць абараняць свае маёнткі.

На другі год, па загаду ўжо рускага цара, казакі, якія не маглі самастойна змагацца з панамі і аддалі вярхоўную ўладу цару, пачалі зноў руйнаваць мясцовасьці Беларусі, і, як відаць з лістоў тагочаснага кіраўніка казакоў, пахваляліся тым, што палілі паселішчы, і „пускалі пад меч“ жыхароў. Вядома, што ў першую чаргу пападала беднаму селяніну.

Радзівіл адступіў ад казакоў у глыб Літвы. І вось што аб зьдзеках казацтва над тутэйшым насельніцтвам кіраўнік казакоў наказны

---

[1]) Турчынович.—Обозрение Истории Белоруссии, стр. 97.
[2]) Карамзін. — Т. IX, гл. II, стр. 70.
[3]) Slownik geograficzwy krolewštna Polskiego, т. IV, стр. 246.
[4]) Акты Виленской комисии, т. XXXIV, стр. 26.
[5]) Маркевич. — История Малоросии, т. I, стр. 235.
[6]) Там-жа, стр. 355.
[7]) Акты истории Южной и Западной России, т. XIV, стр. 622-623.

атаман Золатарэнка піша цару Аляксею Міхайлавічу: „Также посылали есмя и другий под‘езд наш до города Койданава, и там по милости божией, город Койданов взяв, без остатку выпалили, а врагов и недругов вашего царскаго величества, которые в том городе были под меч пустили“ [1]).

У другім лісьце Залатарэнка дае больш падрабязнае апісаньне нападу на Койданава, у якім кажа, што казакамі кіраваў сотнік Фёдар Мцінскоў, што людзі, якія былі ў мястэчку, палякі і літоўцы пасечаны мячом, і што спалена ня толькі мястэчка, але і ўся ваколіца [2]). За гэты рабунак цар прыслаў Залатарэнку сваю царскую падзяку [3]).



Замак і Кальвінскі збор у м. Койданаве ў 19 8 г.

Пасьля выміраньня Біржанскай лініі Радзівілаў, Койданава перайшло ў 1669 годзе да Радзівілаў Нясьвіскай лініі, якія дадалі тады да свайго тытулу „ардынатаў Нясьвіскіх“ тытул „пана на Койданове“.

Дачка Багуслава Радзівіла, Людвіка-Караліна, выходзячы замуж за маргграфа Брандэнбурскага, павінна была атрымаць Койданава ў пасаг. Але дзеля таго, што завесьці ў Нямеччыну гэты „пасаг“ нельга было, дык аддала сваёй фаміліі ў заставу за 30 тысяч дукатаў. Гэтыя грошы Радзівілы выплачвалі немцам аж да ея сьмерці.

З пераходам Койданава да ўладаньня Радзівілаў (1550) Міхаіл Руды, (родны брат Мікалая Чорнага), заядлы кіраўнік літоўскіх протэстантаў, да якіх ён далучыўся ў 1564 годзе, каля гэтага часу пабудаваў на месцы замку кальвінскі збор для сваіх аднаверцаў. Пад гэтую будову былі выкарыстаны пляц і муры старога замку. Радзівіл дадаў яшчэ на патрэбы „службы божай“ невялічкую, але добрую вёску Чэрнікаўшчыну

[1]) Акты истории Южной и Западной России, т. XIV, стр. 750-751.
[2]) Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, т. XIV, стр. 752.
[3]) Там-жа, стар. 754.

(у 7 клм. ад Койданава). Маёмасьць збору складалася тады з гэтае вёскі з 40 сялянскіх двароў, больш як 10 валок фальварковай зямлі, некалькі пляцоў у мястэчку, а таксама фальварка Кулі.

Пабудову ўмацаванага збору на месцы замку можна тлумачыць тым, што ў тыя часы вялася заўзятая рэлігійная барацьба паміж протэстантамі і езуітамі, сьветкам чаго ёсьць крывавыя трагічныя выпадкі, якія мелі месца ў Вільні, Слуцку і г. д.,—кажа Сыракомля [1]). Невядома ці падобныя зьявішчы мелі месца ў Койданаве, але зразумела асьцярожнасьць кальвінскіх пастыраў і ўзмацненьне свайго касьцёлу якраз у XVII стагодзьдзі, калі ўжо нясьвіскія Радзівілы зьвярнуліся да каталіцызму, пацягнуўшы сваім прыкладам вакольную шляхту, а дзедзічы Койданава і абаронцы протэстанцтва Радзівілы Біржанскія Крыштоф, Януш і Багуслаў жывучы адсюль далёка, не маглі абараняць ад мясцовых гвалтаў сваіх аднаверцаў.

Пры Радзівілах да Койданаўскага замка належала да 4000 сямей шляхты, якая была грознаю сілаю ў руках Радзівілаў і якую добра выкарыстаў Радзівіл, „пане Коханку", у 1790 годзе ў час выбараў у сойм на Койданаўскім сойміку. Гэта ўжо быў апошні ўдзел Койданаўскае шляхты ў соймавых справах.

Пасьля нападаў на Койданава маскоўцаў і швэдаў уладар Койданава ў гэты час (у 1687 годзе), княгіня Людвіка-Караліна маргрфіня Брандэнбурская, пацьвярджае граматы, дадзеныя Койданаўскаму збору раней і страчаныя ў часы нападаў, на ўладаньне ўсёй вышэйпаказанай маёмасьцю [2]). У зьвязку з уціскам праваслаўных езуітамі, праз тры гады, у 1690 годзе, яна-ж дае грамату цэрквам, якія знаходзяцца ў яе маёнтках, аб абароне іх ад уціску каталікоў, у якой кажа: „из'яснив всем, кому знать должно, что церкви религии старой греко-российской, с незапамятных времен построенные и фундованные... в имениях ея Койдановском..." [3]).

Па пастанове Віленскага кальвінскага сыноду ў 1691 годзе, пачынаючы з гэтага году, кожны чацьверты год у Койданаве адбываўся сынод, ці провінцыяльны зьезд літоўскіх кальвіністых. Тут-жа існавала пабудаваная Багуславам Радзівілам у 1641 годзе двухклясавая кальвінская школа, якая праіснавала аж да паловы XIX стагодзьдзя [4]).

З прычыны адбыўшайся царкоўнай уніі, Койданаўская царква з 1711 па 1839 год была пераведзена на уніяцкую [5]) і набажэнства адбывалася на польскай і лацінскай мове. Пры ёй было ўтворана царкоўнае брацтва, якое мела права варыць 6 медніц мёду і мець 1000 польскіх злотых на Койданаўскую баню [6]).

Аб багацьці Койданаўскага збору можа сьведчыць тое, што жонка Віцебскага стольніка Кацярына Грабоўская ў 1729 годзе пазычае ў старэйшын Койданаўскага і Слуцкага кальвінскага збораў 8000 злотых пад заклад свайго двара Прошчыц з абавязкам выплачваць кожны год 10% у два тэрміны і ў выпадку нявыплаты ў тэрмін, павінна заплаціць пазычаныя 8000 злотых „зарукі" і адмовіцца ад двара [7]). Як ві-

---

1) Syrakomlja.—Węndrowki po meiscu niegdyś okolicach, стр. 202—11.
2) Архив Виленской Архивной Комиссии, т. XII.
3) Архимандрит Николай, Историч. сведения, ст. 40, § 24.
4) Slownik geograficzny krolewstwa polskego, т. IV, стр. 248.
5) Бантыш Каменской, Историч. известия о возникн. в Польше унии, стр. 363.
6) Акты Виленской архивной комиссии, т. VII.
7) Архимандрит Николай, Историч. и статист. сведения Минской епархии, стр. 179.

даць, кіраўнікі збору ўмелі ня толькі маліцца богу, а і добра гандляваць.

У 1793 годзе адбыўся другі падзел Польшчы і да Расіі было далучана разам з іншымі мясцовасьцямі і Койданава. Пачаўся рух за самастойную Польшчу пад кіраўніцтвам Касьцюшкі і вось ужо праз год пасьля далучэньня да Расіі, у 1794 годзе, некалькі атрадаў паўстанцаў, галоўным чынам шляхта, пад кіраўніцтвам палкоўніка Грабоўскага праз Койданава ўцякалі ў Польшчу.

Супроць іх былі высланы з Менску полк драгун і эскадрон казакаў і інш.

Сустрэча была ў Койданаве, але ад бойкі паўстанцы ўхіліліся і адступілі далей. Трэба сказаць, што сялянства падтрымлівала паўстанцаў супроць царскага ўраду, давала ім падводы, харчы, чым рабілася затрымка ў прасоўваньні царскага войску, за што вядома ні адна сялянская сьпіна зноў „пакаштавала“ казацкіх бізуноў.

Сялянства ўцісквалася абшарнікамі з кожным годам усё мацней і мацней, ня гледзячы і на зьмену ўраду польскага на расійскі. Усё заставалася амаль што так, як і было раней, толькі дабівілася новых паноў станавых, вураднікаў і г. д. Усе цягнулі з селяніна хто што мог, вынікам чаго ў 1800 годзе пачаўся страшэнны голад. Хлеб пяклі толькі з аднэй часткі мукі і пяці частак мякіны, ды і то ня было яго ўволю[1]). Абшарнікі прадавалі, прапівалі, прагульвалі ў карты цэлыя вёскі сялян.

Надыходзіў 1812 год. Армія французаў ішла, як казалі на аслябаненьне ад царскага ўраду прыгнечанага польскага народу.

Пятага ліпня войска генэрала Баграціёна пачало адступаць праз Нова-Сьвержань — Койданава на Менск[2]). Пасьля заняцьця Вільні, корпус французаў пад кіраўніцтвам маршала Даву ў ліку каля 50 тысяч чалавек пайшоў таксама на Менск, які і быў заняты імі 9 ліпня[3]). З гэтага корпусу праз Койданава праходзілі толькі невялікія часткі.

Мясцовасьць занялі французы, якія організавалі ў Койданаве падпрэфэктуру і пачалі наладжваньне свайго тылу. Праз Койданава праходзіў французскі так званы этапны шлях, які ішоў па дарозе з Вільні на Воршу і Менск—Нова-Сьвержань. Тут быў організаваны вялікі склад—магазын харчавога давольства арміі. К восені сюды-ж у Койданава быў перавезены і Менскі склад[4]).

У тылу французаў пачаліся рабункі, забіралі ў насельніцтва ўсю жывёлу. Сяляне, пасьля таго як паўцякалі абшарнікі, палілі іх маёнткі і нават свае вёскі. Не адставалі і французскія салдаты, яны заняліся грабяжамі і гвалтамі. Сяляне былі замучаны рознымі вайсковымі павіннасьцямі, галоўным чынам „нарядами“ на падводы, якія браліся без усялякага разбору і нават патрэбы.

Дунайская армія пад кіраўніцтвам Чычагова, у складзе 32 тысяч чалавек[5]), накіроўвалася ад Слоніма праз Койданаў на Менск. Французскі губэрнатар Менску Бранікоўскі паслаў насустрэчу Чычагову, думаючы, што гэта можа так толькі, невялічкія шайкі паўстанцаў, генэрала Касецкага з 5 тысячамі войска, якое складалася з палкоў сформаваных у Літве і на Беларусі, а таксама маршавых французскіх батальёнаў. Чычагоў, даведаўшыся, выслаў супроць Касецкага графа

1) Ігнатоўскі, Гісторыя Беларусі XIX і пачатку XX ст.
2) Богданович. История войны 1812 года, т. I, стр. 160.
3) Там-жа, т. II, стр. 104.
4) Акты Виленской комисии, т. XXXVII, стр. 359—406.
5) Михайлов-Данилевский. Описание отечественной войны 1812 г., ч. IV, стр.112-117.

Лямберга, які камандваў 10, 14, 38 егерскімі палкамі, татарскім, уланскім, Жытомірскім і Старадубскім драгунскімі, Аляксандраўскім гусарскім, казачым Барабашнікава, 12 коннаю ротаю[1]) і 12 арудзьдзямі коннай артылерыі[2]).

Галоўная спатычка была ў Койданаве 15 лістапада, калі войска Лямберга спаткала вайска Касецкага, якое хацела адступаць да Менску і Касецкі прасіў дазволу ў Бранікоўскага, але, атрымаўшы загад утрымаць Койданава[3]), прымушан быў прыняць бойку. Лямберг, убачыўшы, што праціўнік прыгатаўліваецца да бойкі, зашчышчаючы мястэчка, паслаў свае кавалерыйскія палкі па абодвых баках мястэчка, яны аб'ехалі кругом і зайшлі Касецкаму ў тыл, адрэзаўшы яму дарогу на Менск. Была бойка, у выніку якой вайска Касецкага былі разьбіты. Рускія захапілі тут 2 знамя, 20 арудзій, 10 зарадных скрынак і патронных фур, 65 штаб і обер афіцэраў і 3870 салдат і поўны хор музыкантаў[4]), а таксама з атраду Касецкага было забіта каля 1000 чалавек[5]). Удалася ўцячы да Менску ня больш як сотні чалавек. З боку рускіх страты былі звыш 48 чалавек[6]).

Вынікі вайны ў Койданаве і ваколіцах тыя-ж, як і ўсюды. Сялянства ўсё лета хавалася па лясох; на палёх ніхто нічога ня сеяў, не садзіў, а дзе хто што-небудзь і пасеяў, дык ня мог ім карыстацца з прычыны розных рэквізыцый, што ўчыняліся як французамі, так і рускімі. Жыта ўвосень таксама ніхто ня сеяў з прычыны розных спатычак войск і амаль што галоўнага праходу дзесяткаў тысяч войска. Вясною нельга было ўсё засеяць, бо ня было дзе ўзяць нават на хлеб, ня то што насеньня. Становішча сялянства было надта цяжкое. Як растаяў сьнег пачаліся розныя пошасныя хваробы як ад голаду, так і ад трупаў. А між тым вораг быў прагнаны, а ўрад даваў загад за загадам аб новых рэквізіцыях на справу вайны. Усе мясцовасьці былі запалонены вайсковымі гарнізонамі, якія ў той час былі замест паліцыі „содержали гарнизоны, оправляли полицейские обязанности, сопровождали пленных“[7]) і г. д. Усё гэта не давала магчымасьці сялянству ўзяцца за працу для палепшаньня свайго становішча, бо яно было яшчэ горшае як да вайны. Таксама і шляхта, якая раней падтрымлівала францускі ўрад, марачы праз яго атрымаць былую вольнасьць, засталася, як кажуць, з „носам“.

У 1840 годзе ў Койданаве, як і ваколіцах, была халера, якая шмат зьніштожыла люду галоўным чынам сялянства, якое жыло ў дрэнных абставінах ды яшчэ і ня магло аправіцца пасьля вайны 1812 году, ня мела ніякай дапамогі ад ураду для палепшаньня свайго становішча.

У тым-жа годзе, калі касавалася тэрыторыяльная маёмасьць духавенства, зямля кальвінскага збору перайшла ў казну, а ў замену царскі ўрад выплачваў кожны год кальвінскаму сыноду 500 рублёў. Аднак і пасьля гэтага мясцоваму духавенству збору пакінулі валоку зямлі недалёка да збору, прыбытак з некалькіх пляцоў, якія давалі 100 злотых, і засьценак Кулі з 40 маргамі. Гэта ўсё ў дадатак да грошай ад сыноду.

---

[1]) Богданович, История войны 1812 года, т. III, стр. 220.
[2]) Бутурлин, История нашеств. имп. Наполеона на Россию 1812 г., ч. II, стр. 215.
[3]) Там-жа, ч. II, стр. 216.
[4]) Михайлов-Данилевский, Описание отечественной войны 1812 г., ч. I, стр. 117.
[5]) Богданович, История войны 1812 года, т. III, стр. 224.
[6]) Бутурлин, История нашест. имп. Наполеона на Россию 1812 г., ч. II, стр. 216.
[7]) Михайлов-Данилевский, Война 1812 года, ч. I, стр. 47.

Паводле карты і інвэнтару, зробленаму ў 1837 годзе каморнікам Тадэушам Вараксам, усяго грунтаў было 2 валокі, 23 маргі, 55 прэнтаў і 10 прэнцікаў літоўскай меры [1]).

За зборам, у ўсходняй сьцяне валу, упрыгожваючы гэтую сьцяну, умураваны княскія палаты. Каля палат былі гаспадарчыя будынкі і невялічкі садочак.

Па-за мурамі і валам знаходзіўся шпітальны прытулак на 4 асобы, кваліфікаваныя бедныя мелі тут цёплае памяшканьне, невялікія гародчыкі і пажыцьцёвую пэнсію ад сыноду па 30 рублёў. Тут-жа зьмяшчаўся і арганісты збору, які атрымліваў 400 злотых грашыма і пад ворыва кавалак зямлі.

Трэба адзначыць, што дзякуючы вялікаму ўплыву даўных уладароў Койданава, кальвінскі збор ад часу пабудовы ніколі ня быў заняты іншымі рэлігіямі. Парафія да апошніх гадоў (1913) ахапляла тры паветы: Менскі, Ігуменскі і Наваградзкі і налічвала да 200 заможных протэстантаў.

Набажэнства ўвесь час адбывалася на польскай мове паводле старадаўняга парадку ў пэўныя сьвяты і па нядзелях. Толькі ў апошнія гады—адзін раз у год. Маліцца сюды прыходзілі і каталікі. Кальвінская парафія праіснавала тут да 1913 году, калі выехаў апошні яе пастыр у Вільню.

У сярэдзіне збору да апошняга часу былі арганы, набытыя каля 1866 году па касацыі Менскага касьцёлу бэрнардынак. На вежы былі званы і стары загарак, які хадзіў да 1909 году. У тылавой часьці збору, над аўтаром была жалезная харугвія з выбітым наскрозь радзівілаўскім арлом гэрбавым „godlem“, трубамі і год 1614, напэўна дата нейкай рэстаўрацыі. На аўтары была брэсцкая біблія, выданьня Радзівіла Мікалая Чорнага. Ня гледзячы на тое, што яна праслужыла некалькі вякоў протэстантам, усё-ж добра захавалася ў бронзавай цяжкай аправе, з пазалочанымі вугольнікамі, клямарамі і гэрбамі Радзівілаў (цяпер захоўваецца ў БД Музэі).

Скасаваньне паншчыны ў 1861 годзе прайшло тут амаль што няпрыкметна. Сялянства нават ня ведала ў чым справа, гнула сьпіну на пана, як і раней. Шляхта-ж ведала і, дзякуючы таму, што селянін быў занадта прыгнечаны царскім урадам рознымі станавымі ды чыноўнікамі, зноў пачала падгаварваць сялян, каб з іх дапамогаю вызваліцца з-пад царскай улады, да „вольнасьці“ за кошт селяніна. Пачалі арганізоўвацца паўстанчыя атрады, у якіх большасьць было шляхты, сялянства прымала малы ўдзел у паўстаньні.

Вясною 1863 году ў першых лічбах мая і ў Койданаве і ў ваколіцах зьявіліся паўстанчыя атрады „Почта на Койданава ня была одпраўлена“ [2]). На чале паўстанцаў у Менскім павеце былі: абшарнік Адам Ваньковіч, член губэрскага прысуцтвія Баляслаў Аскерка і чыноўнік Пажэрскі.

У пачатку мая вешацель Мураўёў выдаў загад аб увядзеньні ваеннага палажэньня [3]).

Самымі шчырымі прыхільнікамі паўстаньня былі жанчыны з шляхты і чыноўнікаў, якія для адзнакі насілі чорнае жалобнае адзеньне, чорныя пастэркі, мэталёвыя пражкі са злучанымі гэрбамі Польшчы і

---

[1]) Slownik geograficzny krolewstra Polsk t. IV, ст. 249.

[2]) Рок 1863 на Menszczyznie, ct. 23.

[3]) В. Ватч, сведения о польском мятеже 1863 года в С.-З. крае, стр. 226.

Літвы [1]). Яны зьбіралі ахвяры на паўстаньне, угаварвалі мужчын уступаць ў атрады і г. д., за што іх па загаду Мураўёва штрафавалі ў першы раз 25 руб., другі—50 і далей арыштоўвалі і судзілі як паўстаўцаў. Паўстанцы насілі высокія боты, і калі ў той час пападаўся чалавек у высокіх ботах, або жанчына ў чым-небудзь жалобным, дык яны лічыліся за паўстанцаў.

Паўстаньне было задушана.

У гэтым-жа годзе пачалася пабудова тут чыгункі, якая прайшла ў поўкілёмэтры ад мястэчка Койданава, была адчынена народная школа, на ўтрыманьне якой адпушчалася ў год 177 руб. 90 кап. і вылічвалася з збору б. дзяржаўных сялян 56 руб. 10 кап. [2]).

Койданава належала Радзівілам да 1831 году і мела свой асобны гэрб: галінка дубу і алівы. У 1878 годзе царскі ўрад аддаў Койданова двум чыноўнікам—Касакоўскаму і Сакалову, якія ўладалі ім аж да тэй пары, пакуль Чырвоная армія ня выгнала палякоў з Койданава, да 1920 году, і да таго часу сялянства плаціла ім арэнду за зямлю.

Жыхары мястэчка—мяшчане займаліся земляробствам, яўрэі выключна гандлем, а татары—вырабам скур.

У 1883 годзе ў мястэчку было 5000 чалавек і 400 будынкаў.

Каля 1890—95 гадоў у Койданове збудавалі купцы-яўрэі паравы млын, бровар і шчацінны зовод для сартыроўкі шчаціны і накіроўваньня яе ў розныя гарады.

Па перапісу 1897 году ў мястэчку налічвалася 4744 чал., з якіх пераважная частка (3154) было яўрэяў. У працягу апошніх 50 гадоў яўрэяў прыбавілася на 657 чалавек.

Вінакураныя бровары пачаў будаваць і абшарнік граф Чапскі ў Станькаве, Навасёлках, Суле і іншых мясцох.

Праз тры-чатыры гады, вінакураны бровар у Койданаве быў перароблены на фабрыку запалак. Спачатку ўласьнікам яе быў Вечарэвіч, а пасьля Стронгін. Тут працавала каля 150 чалавек рабочых, ня лічачы таго, што шмат жыхароў мястэчка брала работу да хаты (клейка скрынак для запалак).

У часы расійска-японскай вайны (1904), калі бралі запасных, у мястэчку былі невялікія пагромы.

Рэволюцыя 1905 году нічым такім асаблівы ў Койданаве не адзначылася акрамя таго, што амаль кожны тыдзень раскідваліся тут адозвы і невялічкія кніжачкі. Абшарнікі, як граф Чапскі, нават і маленькія „палупанкі“ як Ёдка, Вашчыніна, выклікалі казакоў для супакоеньня сялян, затое, што яны пачали пасьвіць скаціну на сэрвітутнай зямлі. У мястэчка прыгналі шмат казакоў, гарадавых і стражнікаў. Асабліва вызначаўся жандар Клышноў, які абслугоўваў мястэчка і стан.

Яўрэйскае насельніцтва, баючыся пагромаў, закупляла аружжа для абароны, і ў мястэчку быў організаваны яўрэйствам так званы „пагромны фонд“. Апрача дабраахвотных узносаў у гэты фонд, яны накладвалі налог на больш заможных яўрэяў, калі ў іх хто-небудзь паміраў. Да тэй пары, пакуль налог ня быў выплачаны, абшчына адмаўлялася хаваць нябожчыка.

---

[1]) Rok 1863 na Menszczyznie, ct. 41.
[2]) Памятная книжка Виленскаго Учеб. Округа на 1879 год, стр. 391.

У гэты час у мястэчку было заарыштавана, як і ў іншых мясцовасьцях, некалькі чалавек з яўрэйскага насельніцтва. Калі хто-небудзь пытаўся ў жандараў, за што гэтыя людзі заарыштаваны, дык яны адказвалі: „Мы знаем кожнага чалавека ў мястэчку, хто чэсны, а хто не; таго, хто ходзіць з пэйсамі, мы чапаць ня будзем“.

Летам 1905 году адбыліся сялянскія „беспарадкі“ ў маёнтку Станкаве графа Чапскага, дзе сяляне патрабавалі права пасьвіць быдла. Туды спэцыяльна прыехаў непраменны член губэрскага прысуцтвія фон-Брыкман з узводам казакоў[1]), які ў акалічных вёсках наводзіў „парадак“. Тое самае было і ў маёнтку Дзягільна абшарніцы Вашчынінай, куды выяжджаў земскі, іспраўнік, пристаў і ўзвод казакоў і дзе былі заарыштаваны 4 селяніна. Рабочыя сярніковай фабрыкі Стронгіна таксама трохі ўзварушыліся: патрабавалі павялічэньня заробку. Яны ў канцы лістапада наладзілі сходку і антыдзяржаўную дэмонстрацыю. За гэта Стронгін пагражаў зачыніць фабрыку, але ўсё-такі заробак трохі павялічыў. У пачатку студзеня паднялі „бунт“ і рабочыя ў вёсцы Ліцьвяны на лесапільным заводзе, а таксама сяляне, якія патрабавалі платы за страты ад затапленьня заводам іх сенажаці. Дзевятага студзеня была ўведзена „чрезвычайная охрана“. Усе гэтыя разрозьненыя падзеі спыніліся, хаця яшчэ вясною 1906 году дзе-ні-дзе адбываліся сялянскія „беспарадкі“, як у маёнтку Ёдка, куды таксама выяжджалі казакі.

Першае гарадзкое вучылішча было адчынена ў 1908 годзе 1 жніўня. У 1913 годзе 1-га студзеня яно было пераіменавана ў вышэйшую пачатковую школу, якая знаходзілася ў прыватным будынку Зінгера і атрымоўвала на сваё ўтрыманьне ад казны 6890 р., ад мяшчанскага вобчаства 500 р. і з спэцыяльных сродкаў 1780 рублёў у год[2]). Плата за навучаньне была 14 рублёў з вучня. Усяго вучняў было 167 чалавек.

Пачалася імпэрыялістычная вайна. Па вёсках і мястэчку загаласілі бабы, праважаючы з кожным годам усё больш і больш мужчын у бойку, якая вялася быццам таму, што немцы напалі на Расію. Сялянства казала: „няўжо ім мала зямлі; няўжо-ж яны не маглі падзяліцца і трэба ісьці за гэта гінуць, гінуць ня ведама за вошта і за якую ласку“. Але-ж ішлі, бо прыяжджаў ураднік і ўсё роўна забіралі ды яшчэ накладвалі штраф на гаспадарку.

Як пачалося адступленьне ад Варшавы і бліжэй сюды пацілася хваля адступаючых войск, першымі вяшчунамі гэтага адступленьня былі сотні тысяч бежанскіх падвод, якія ішлі па шляху праз Койданава (Маскоўска-Бярэсцкі шлях), падвода за падводаю; гналі скаціну. Па дарозе, ад нэндзы, ад хвароб, паміралі; іх тут-жа, побач, ля дарогі, або дзе-небудзь пры ляску хавалі і ехалі далей.

У мястэчку ў гэтыя часы нельга было прайсьці і пяці крокаў, каб ня сустрэцца з вайскоўцам. Зьмяшчаліся ў самым мястэчку толькі афіцэры, а салдаты былі па ваколіцах у палатках. На нівах, якія знаходзяцца ў левы бок ад дарогі з вакзалу ў мястэчка, усё было забудавана рознымі лазарэтамі, хврчовымі прыпынкамі, складамі, вакзалам коннай чыгункі, якая ішла ад Койданава на Рубяжэвічы і далей.

Казакі спалілі вялікую вёску Кукшавічы, „каб не пакінуць немцам“.

---

[1]) 1905 год на Беларусі, донесение Минской губарнатора па Менскай губ. Дело №/77 9 от 24-VIII, ст. 76.

[2]) Пам. книжка Виленского уч. Окр. на 1914 г., ст. 309.

У дадатак да ўсяго гэтага, з вясны 1916 году, амаль што кожную раніцу пачалі зьяўляцца нямецкія самалёты і кідаць бомбы, то на вакзалы, то на шэрагі фурманак бежанцаў. А то часьцей за ўсё ў балота на левым баку вакзалу. Пачалі ўздымацца курганы-магільнікі, як вынік гэтых налётаў, усё з тых-жа гаротных бежанцаў. Такія курганы мы маем каля вакзалу, у рагу лесу вурочышча „Рыжаўка“ і ў іншых мясцох.

---

**Усевалад Мікіцінскі.**

# Дванаццаць дзён краязнаўчага вандраваньня *).

*Матар'ялы з падарожы па Слуцкім, Грэскім, Пухавіцкім і Стара-Дароскім раёнах.*

ПРАЦЯГ.

## Грэскія лясы.

Працягваем сваю падарож. Невялічкае сухое балотца, як казаў Шклярэўскі, аказалася і мокрым і вялікім. Мабыць, мы пераблуталі наказы ляснога чалавека. Скачам з купіны на купіну, часам правальваючыся ў балота, каб як-небудзь дасягнуць канаўкі, паўзьберажку якой дайсьці да сухога месца. Каля канаўкі таксама мокра, а што яшчэ горш, ёсьць некалькі канавак, раімся і блутаемся ад аднае да другой. Нарэшце залезьлі ў такое багно, што правальваемся вышэй кален. На шчасьце, сяляне-касцы дапамагаюць нам выйсьці на сухое месца. Праходзім некалькі кілёмэтраў магістральлю і выходзім на лясную сьцежку. Адтуль трапляем на былую вузкакалейную дарогу, якая праходзіць сярод прыгожай мясцовасьці. Па дарозе там-сям відаць яшчэ шпалы.

Прыходзім у Неспадзянку, якая складаецца з двух будынкаў. Тут жывуць два лясьнікі і аб'езчык. Распаложана Неспадзянка каля былой вузкакалейкі, якая праходзіла з Вераб'ёва праз Веркалы на ст. Рудзенск. Уваходзіць Неспадзянка ў склад паселіш Палікарпаўскага сельсавету. Лясьнікі акрамя службы займаюцца земляробствам, маюць добрыя сенажаці на лясных палянах і балотах, трымаюць жывёлу, вульлі і жывуць наогул добра. Глеба тут пяшчаная, малаўраджайная, гэта прымушае насельніцтва вакольных вёсак займацца падсобнымі заняткамі.

У склад Палікарпаўскага сельсавету ўваходзяць 35 насельных пунктаў, якія ў большасьці не перавышаюць 5—10 двароў і толькі вёскі Палікарпаўка, Паўлаўка, Апаліны, Варонечы і некалькі іншых маюць ад 15 да 28 двароў. Параскіданы паселішчы невялічкімі выспачкамі сярод лесу. Пануючым відам саматужніцтва зьяўляюцца вырабы з дрэва, галоўным чынам, вырабляюць гонты і драніцы, а таксама брычкі, колы, абады, сталы, шафы, табурэткі і інш. Вёскі Палікарпаўка, Паўлаўка, Фадзееўка, Беразьніцы, Пераходы, Крушнікі і Задоўбы амаль цалкам вырабляюць гонты і драніцы. У сярэднім насель-

*) Гл. „Наш Край“ № 1, студзень, 1929 г.

ніцтва гэтых вёсак на працягу году вырабляе 1500 коп гонты і 200 коп драніцы. Гонты вырабляюць выключна з будаўнічага матар'ялу, хвоі альбо елкі, прычым лепшая і мацнейшая выходзіць з елкі. Адзін працоўны за 8 гадзін вырабляе да 7—8 коп. Пры вырабе ўжываюцца наступныя прылады: сякера, доўбня, струг, сталюга, фугаўнік. Продукцыю ў большасьці адвозяць у Слуцак. Вёска Пільня —займаецца гарбарствам, а некаторыя ткацтвам. Неспадзянка знаходзіцца ў прыгожай мясцовасьці, сярод вялізных лясоў і абшарных балот, якія даюць прытулак шмат якім зьвяром і птушкам. Тут сустракаюцца дзікі, мядзьведзі, сарны, лісы, рысі, ваўкі, зайцы і інш. Сярод птаства ў нязначным ліку на Варонецкім балоце можна сустрэць чорнага бусла; жураўлі і цаплі — зьявішча звычайнае. Чамусьці мала глушцоў, апошнія ў нязначнай колькасьці трапляюцца ў адамоўскай лясной дачы каля Захацінава і Каменя. Раней па рэчцы Случы да часоў імпэрыялістычнае вайны вадзілася многа баброў. Цяпер іх няма. Апошнія тры сямейства, ня гледзячы на забарону, прыкончыў некалькі гадоў таму назад селянін Адам Шкурскі. У нядаўныя часы, у лясох Грэшчыны, можна было сустрэць лася, але цяпер іх штось ня відаць. На коз, дзікоў і мядзьведзя паляваньне заборонена, яны знаходзяцца пад аховай. Паводле слоў лясьніка, ёсьць 7 старых мядзьведзяў, некалькі рысяў, 10 дзікоў, якія карыстаюцца аховай, і прыносяць шмат страт сялянству, асабліва дастаецца бульбе, якую яны выкопваюць цэльнымі барознамі. Быў адзін выпадак, калі дзік за ноч выплянтаваў 300 кустоў бульбы, прычым зрабіў гэта так старэнна, нібы абышоў сахой. Адзін з такіх шкоднікаў быў нядаўна забіты, важыў ён 18 пудоў.

Вераб'ёўская лясная дача займае 53.000 дзясяцін лесу, пераважна таварнага. Трапляюцца хвоі вышынёй да 35 мэтраў. Высякаецца лес па сыстэме гадавога прыросту; штогодна высякаюць 20 дзесяцін. Нагул гаспадарка вядзецца здавальняюча, хаця ёсьць і недахопы: прыкладам, маладняк, якім засаджваюць парубкі, дрэнна даглядаецца, глушыцца травой і дае дзеля гэтага рэдкія ўсходы. Штогодны выруб прадаецца мясцоваму насельніцтву са значнай скідкай, але апошняе чамусьці мала гэтым карыстаецца.

Лясы і балоты Грэшчыны маюць шмат цікавага. Вось урочышча „Каменнага Града", якое знаходзіцца ў некалькі кілёмэтраў ад Неспадзянкі. На прасторы 50 дзесяцін уся зямля пазакідана каменьнямі, з якіх некаторыя дасягаюць значнай велічыні. Ля самае дарогі ляжыць камень вагой прыблізна 15.000 пудоў. Тут-жа сустракаецца нейкі невядомы від хмызьняку, незнаёмы тутэйшым вучоным лесаводам. Яны адаслалі ўзор у Менск.

Пад Неспадзянку падыходзіць так званае Варанецкае балота, якое займае плошчу ў 8.000 дзесяцін, частка якога ўжываецца пад сенажаць. Сюды зьяжджаюцца сяляне вёрст за 30 — 35 касіць сена; умовы працы самыя цяжкія, косяць па калені ў вадзе, сярод плоймаў кусьлівай машкары. Каб ня прэлі ногі, касцы іх мажуць дзёгцем, абкручваюць анучамі. Так жывуць на балоце па некалькі дзён. Кепскае балотнае сена складаюць у стажкі на больш сухіх мясцох, робячы для гэтага з бярозавых жэрдак насьцілы. Вывозяць яго зімой, калі прамерзьне балота. Па канаўках на балоце сяляне ловяць двухгадовых шчупакоў, якія ў час веснавых паводак пападаюць у іх і разводзяцца. У гэтых мясцох на балоце шмат гадзюк. Грэскія лясы зьяўляюцца радзімай, славутай у мінулым, рэчкі Случ. Тут паміж Вежамі і Неспадзянкай з балота Верхняя Случ, ва ўрочышчы Калашова бярэ свой

пачатак галоўная рэчка Случчыны. Выцякае яна з невялічкага плёсна, аршыны тры шырынёй, на беразе якога стаіць ракітавы куст. Спачатку яна ўецца невялічкай істужкай сярод балот, паступова пашыраецца аж да самае Прыпяці, куды ўліваецца магутнай і шырокай ракою.

А вось яшчэ цікавыя мясьціны, навокол якіх людзі зложылі розныя паданьні і легэнды.



Пажарная каланча ў в. Шчыткавічы Стара-Дароскага раёну.

У нязначнай адлегласьці ад Неспадзянкі, каля пункту лясной варты Дубове, ёсьць высокая гара пад назвой „Стары Сыгнал“. Узвышаецца гара над роўнем мора на 94 саж. Тут, у далёкім мінулым на каменнай падмуроўцы была збудавана высокая вежа, зьверху якой вартаўнікі назіралі і паведамлялі аб розных небясьпеках з боку ворагаў. Фундамент часткова дагэтуль захаваўся, каменьні яго скарыстоўваюцца на тачыльні. З гэтае гары праз бінокаль відаць Слуцак. Супроць „Старога Сыгналу“ на другой гары пад назвай „Новы Сыгнал“ да часоў імпэрыялістычнае вайны знаходзілася драўляная вежа.

Ёсьць яшчэ гара пад назвой „Скамарошая“, наконт якой складзена легэнда нібы ў старыя часы па Беларусі вандраваў нейкі скамарох з вучоным мядзьведзем, пацяшаючы людзей. Аднаго разу скамарох начаваў на гэтай гары. Уначы мядзьведзь чамусьці ўзбунтаваўся і ўцёк. З тага часу гару завуць „Скамарошай“.

Яшчэ адна гара завецца „Пераступіца“. Яна калісьці была акапана валам і служыла быццам мяжой лясной маёмасьці Радзівіла ад іншых. Вось калі яе пераступіш, то трапіш у маёмасьць іншага ўладара. З Неспадзянкі рушылі ў напрамку да вёскі Шчыткавічы, Стара-Дароскага раёну.

Спачатку дарога праходзіла сярод добрага будаўнічага лесу, ачышчанага ад валежніку і дагледжанага. Усюды зроблены прасекі, пастаўлены слупы з нумарацыяй дзялянак, якія займаюць плошчу на 100 кв. дзесяцін. Прайшоўшы 4 кілёмэтры, на скрыжаваньні дарог, сярод лесу, знаходзіцца пункт лясной варты „Сецішча“. Мае ён адну хату, пры якой гародчык, студня і гаспадарчыя будовы. Тут-жа стаіць Смалакурня, якую трымае арцель з 5 асоб. Вырабляюць шпігінар ніжэйшага гатунку і дзёгаць. За Сецішчам характар мясцовасьці пачынае зьменьвацца. Дарога праходзіць праз ланцуг невялікіх пяшчаных узвышшаў, якія, чым далей, робяцца буйнейшымі, пераходзячы ў значныя ўзгоркі. Насельніцтва вакольных вёсак усю гэтую мясцовасьць называе „Горы“. Праз нейкі час лес драбнее і радзее. Па пяшчаных узгорках відаць тонкія гарэлыя хвойкі, прычым узгоркаватасьць чарадуецца з балотлівымі доламі, парослымі хвойнікам з падмешкай бярэзьніку. Пераходзім з узгорка на ўзгорак. А вось пры дарозе стаіць каменны крыж—помнік старых часоў. Ён парос мохам і напалову ўвайшоў у зямлю. Далей дарога павышаецца і ідзе ўгару. З самога высокага месца нашае падарожы, з верхавіны гары адчыняецца шырокі кругавід на вакольную мясцовасьць.

Пакінуўшы ўбаку пункт лясной варты „Дубавое“, падыходзім да мясцовасьці пад назвай „Гарэлы Мост“. Тут ужо канчаецца ўзгаркаватасьць і сыпучыя пяскі, пачынаюцца балотлівыя нізіны.

„Гарэлы Мост“—гэта кавалак дарогі, пракладзены праз топкае балота, парослае маленькімі, крывенькімі хвойкамі і недарослымі каравымі бярозкамі тундравага тыпу. Назву сваю „Гарэлы Мост“ атрымала мясцовасьць дзеля таго, што ў старыя часы праз топкае дрыгвяное балота абшарнікам была пракладзена высокая грэбля з бярвеньняў. Невядома з якой прычыны, грэбля згарэла. Цяпер тут пракладзена новая, добрая дарога, з высокім насыпам, абаплеценым прутамі ад осыпаў. Цягнецца „Гарэлы Мост“ з вярсту. Добра дагледжаная дарога працягваецца далей; усюды пастаўлены кілёмэтражныя слупы і паказальнікі напрамкаў. За „Гарэлым Мостам“ мясцовасьць нізінная, балотлівая, парослая невялікім лесам, часамі высечаным. Першым паселішчам, якое сустрэлася, быў засьценак Рудзіца ў 15 двароў. Вуліца шырокая, абсаджана дрэвамі, хаты амаль усе новыя, дзе-ні-дзе аздобленыя орнамэнтам. У засьценку засталіся толькі дзеці, ды дзяды, дарослыя мужчыны працавалі на сенажаці, а жанчыны пад песьні зажыналі жыта. Троху адпачнуўшы і падмацаваўшыся малаком і хлебам, чорным як зямля, ад прысутнасьці ражкоў, пайшлі далей. Калісь навакол засьценку быў значны Рудзіцкі бор. Глеба ўсюды дрэнная, сенажаці таксама, нейкія грудаватыя з невялічкай балотнай травой. За Рудзіцай ня больш як з вярсту, абапал дарогі раскінуўся пасёлак Вобчава ў 25 хат прыблізна. Далей дарога праходзіла праз засьценкі

Ельнікі, Круглае і вёску Асавец. Дарога да Асаўца мае прыемны выгляд, сустракаюцца прыгожыя ляскі, шмат дзе на дрэвах відаць вульлі. Вёска Асавец маленькая—18 хат. Тут упяршыню прышлося пачуць поўнае здавальненьне як глебай, сенажацямі, так і добрым ураджаем гэтага году. І запраўды жыта з пшаніца, і іншыя расьліны ўдалыя. Ад Асаўца да Шчыткавіч 5 кілёмэтраў, якія праходзім добрымі збожжавымі палямі.

Прыходзіцца сьпяшацца, бо з паўночнага захаду пасоўваюцца цёмныя хмары, чуваць глухія грымоты. Прысьпешаным маршам праходзім праз вялікія пасёлкі Маліна̄ўку і Вішнёўку, якія зьяўляюцца быццам прадмесьцем Шчыткавіч, амаль зьліўшыся ў адно вялікае паселішча. Жыхары апошніх — высяленцы—Шчыткавічане. Пад першыя кроплі дажджу, пад грымоты і бліскавіцы ўвайшлі ў Шчыткавічы і накіраваліся ў сельсавет шукаць сабе прытулку.

**Вёска Шчыткавічы і яе ваколіцы.**

З сельсавету накіроўваемся да настаўніка Лабаноўскага, дзе нас чакая самая шырокая гасьціннасьць.

Раніцай пайшлі аглядаць вёску і знаёміцца з яе жыцьцём. Шчыткавічы распаложаны на ўзгорку паўночна-заходняе часткі групы досыць значных узвышшаў. Узвышаецца вёска на 78 саж. над роўнем мора. Хат —больш за сотню. Нядаўна яна была куды большаю вёскай, але частка сялян выселілася на пасёлкі, як прыкладам: Вішнёўка, Малінаўка, Някрасаўка і інш. У вёсцы дзьве вуліцы і, ня гледзячы на сваё ўзгаркаватае месцапалажэньне, яны досыць гразкія. Выгляд вёскі чыста палескі, хаты крытыя пераважна драніцамі з шматлікімі прыбудоўкамі, лікам да шасьці. Амаль усюды адсутнічае аздабленьне хат, а таксама расьліннасьць. Наогул выгляд нудны, шэры, Насельніцтва ў пераважнай частцы беларусы, за выключэньнем 10 сямей яўрэяў землябаў і саматужнікаў. Сярод насельніцтва ёсьць адзін кітаец, які зусім абеларусіўся і толькі па выгляду можна здагадацца аб яго нацыянальным паходжаньні. Займаецца ён земляробствам, а таксама шые боты. Прозьвішча яго Ля-ван-хэ, а імя такое складанае і цяжкае для вымаўленьня, што саляне назвалі яго проста Мішай. Глеба ў Шчыткавічах добрая, лёгкі суглінак, амаль заўсёды атрымоўваюцца ўраджаі вышэй сярэдніх. Сеюць: жыта, пшаніцу, проса, авёс; сенажаці таксама добрыя. Займаецца насельніцтва выключна земляробствам. Завуць яны самі сябе і вакольную насельнасьць паляшукамі, але апошнімі ў гэтае слова ўкладаецца іншы сэнс, што абазначае: цёмны, несьвядомы, цяжкі да ўсялякіх навін і культурных начынаньняў.

Шчыткавічы маюць сваю асаблівасьць, адзначаную самой прыродай. З даўных часоў заўважана, што пры чыстым, бясхмарным небе, калі здавалася нельга чакаць навальніцы, над Шчыткавічамі раптоўна зьбіраліся хмары, пачыналіся грымоты з навальніцамі кожны раз прыносячы пажары і людзкія ахвяры. Раней сялянства было пераконана ў тым, што бог за іх асаблівыя грахі пасылае кару, але людзі больш адукаваныя сталі тлумачыць, што справа не ў асаблівых грахох Шчыткавічан, а ў чымсьці іншым. Так цягнулася шмат гадоў, пакуль ня прыехала спэцыяльная камісія і пасьля досьледаў выявіла, што пад Шчыткавічамі залягае пласт магнэсавага жалязьняку, які прыцягвае электрычнасьць. Цікава адзначыць, што радыюс плошчы, у якую найчасьцей ударяюць пяруны, абмяжоўваецца нязначнай тэрыторыяй у

напрамку на поўнач і паўночны захад. Прыкладам, у в. Ляўкох адлегласьцю 4 вярсты ад Шчыткавіч на ўсход выпадкаў пажару і ахвяр ад пяруна не наглядалася. Страты ад пяруноў—балючае месца Шчыткавічан: літаральна ўсе іх размовы пачынаюцца і канчаюцца на гэтым. Апавяданьняў са здарэньнямі такога характару набралася вельмі многа. Як толькі надыходзяць хмары, сяляне хаваюцца па хатах, кожную хвіліну чакаюць сьмерці і толькі тыя, хто знаходзіцца пад аховай громаадхілаў, адчуваюць сябе больш спакойна. У вёсцы ёсьць 4 громаадхілы, пастаўленыя дзякуючы настойлівасьці настаўніка Лабаноўскага, якому шмат прышлося патраціць энэргіі, каб пераканаць у іх карысьці паляшукоў. Спачатку сяляне не згаджаліся і толькі пасьля таго, як адразу забіла 4 чалавекі, дружна злажаліся па рублю і паставілі громаадхілы. У час нашага прыходу 28 ліпня, прыблізна а 10 гадзіне ўвечары, здарылася навальніца, якая не абышлася без ахвяр. У пасёлку, адлегласьцю ня больш вярсты, пярун ударыў у хату, разьбіў на кавалкі печку і кантузіў траіх чалавек да страты прытомнасьці. У Шчыткавічан выпрацаваўся шматгадовай практыкай адзіны і досыць радыкальны спосаб ратаваць людзей ад удару пяруна. Пацярпеўшага перш за ўсё закопваюць па грудзі ў зямлю, а потым на працягу некалькі гадзін льлюць на галаву кіслае малако, пакуль пацярпеўшы не адчыне вачэй. Тады адкопваюць, кладуць на зямлю і льлюць малако на грудзі. Праз некаторы час пачарнелы твар бляднее і чалавек пачынае мычаць, тады спыняюць паліваньне, кладуць хворага ў халоднае месца, трымаючы датуль, пакуль хворы не стане на ногі. У звычаях Шчыткавічан засталося шмат старасьветчыны. Вось, напрыклад, як некаторыя будуюць сабе печкі: бяруць плашкі пэўнае велічыні, аблепліваюць іх глінай і потым з гэтых чурбакоў складаюць печку, тоўста абмазаўшы глінай. Калі печка збудавана і гліна высахла, у яе напіхаюць дровы і паляць датуль, пакуль плашкі ўнутры стлеюць. Такім чынам дасягаецца пабудова печкі нібы з паленай пустой цэглы. Яшчэ дагэтуль шмат хто замест газы ўжывае карчы. Па хатах зрэдку дзе можна спаткаць дашчатую падлогу, у большасьці земляная, прычым сенцам даюць нейкую перавагу; тут можна сустрэць падлогу, кладзеную з розных дручкаў і абзолу.

У рэлігійным жыцьці назіраецца шмат супярэчнасьцяй; з аднаго боку вераць розным забабонам, з другога ігноруюць царкву і праваслаўныя абрады. Напрыклад, палякі ў час адступленьня спалілі царкву і вось, ня гледзючы на самую ўпартую агітацыю папа, сяляне і слухаць ня хочуць аб пабудове царквы. Яны кажуць, што царква ім зусім непатрэбна, а грошы лепш загнаць на мэліорацыю. А вось нешта процілеглага характару. За могілкамі ў мясцовасьці, дзе быў Барысаў гай, аднэй жанчыне ў часе зьбіраньня грыбаў нібы зьявілася „пані з дзіцем" і параіла ёй паставіць на гэтым месцы крыж. Яна не паслухала. Пасьля гэтага ў яе забалелі вочы; і вось другі раз паўтарылася тая-ж гісторыя. Жанчына адгаварвалася тым, што сын яе ня ў поўным розуме і няма каму паставіць крыжа. „Пані" сказала, што крыж паставіць той, каго першага сустрэнеш. Такім чалавекам быў лясьнік і крыж нарэшце паставілі. За сваю паслухмянасьць яна вылячылася. На тым месцы, дзе быў крыж, на зямлі нібы застаўся сьлед ніжняе часткі цела „панінага дзіцяці". Але на гэтым ня скончылася справа. Адзін рабочы з млына, хворы на белую гарачку ад ужываньня сьпірытусавага піцьця, каб у самы хутчэйшы час пазбавіцца ад хваробы, пабудаваў на тым месцы капліцу, пасьля чаго пачалося паломнічаньне

ня толькі сялян вакольных вёсак, але нават такіх далёкіх, як Пясочнае ля Копыля. Пясок лічыцца цалебным спэцыяльна ад жаночых і вочных хвароб. Тут да сучаснага моманту ў кожную маладзіковую нядзелю прыяжджае поп і адбываецца набажэнства. Спосаб „лячэньня“ ад хвароб раней быў такі: кожная асоба, жадаючая быць здаровай— ставіла крыж, а на крыжы прыбівала скрыначку для ахвяраваньня грошай. Скрыначкі спаражніваў поп, а іншыя ахвяры, якія клаліся пад крыжы, забіралі невядомыя асобы. А вось яшчэ адзін прыклад сялянскай цемры. Гадоў сем таму назад невядома адкуль зьявілася дрэсіраваная малпа, якая шмат нарабіла спалоху. Насельніцтва было пераконана,



Скураны пояс з шабетай. Вёска Лёўкі Стара-Дароскага раёну.

што гэта чорт. Спачатку малпа пачала кідаць у студні розныя рэчы, потым прыбілася да хаты грамадзяніна Максіма Баравіка, які жыў у лесе, і пачала вытвараць розныя фокусы: у адсутнасьці гаспадароў уваходзіла ў хату шукаць ежы, вымала з калыскі малых дзяцей, забаўляла іх, потым падружылася з дзяўчынкай, якая пасьвіла скаціну. Спачатку малпа адбірала харч ад яе, а потым пабратэрску дзялілася напалам. Спалоханыя сяляне пастанавілі прыняць належныя крокі супраць „чорта“. Склікалі з усёй акругі шаптуноў і знахароў. Тыя крапілі, шапталі, але „нячысты“ яшчэ больш стаў жартаваць, зьяўляючыся раптам там, дзе яго не чакалі. Нарэшце зьвярнуліся да бацюшкі, які пасьля набажэнства крапіў усюды сьвятой вадой, але малпа яшчэ больш хуліганіла. Даведзены да распачы селянін Баравік хацеў пакінуць хату для „нячысьціка“, але надышла зіма і малпа дзесь загінула ад марозу.

У Шчыткавічах ёсьць наступныя ўстановы і грамадзкія арганізацыі: сельсавет, коопэратыў, двухкомплектная школа, пажарная дружына, мэліорацыйнае таварыства, дзіцячая пляцоўка. Дзейнасьць некаторых устаноў варта асаблівай увагі. Асабліва вызначаецца крэсткам, якім кіруе настаўнік Лабаноўскі. Крэстком на ўсебеларускім конкурсе атрымаў першую прэмію за ўзорную працу. Яму былі дадзены: малатарня, сячкарня, веялка, плугі, бароны і інш. с.-г. прылады. Наагул трэба адзначыць, што з культурным уздымам вёскі шчыльна зьвязана імя Лабаноўскага, які сярод сялян карыстаецца пашанай і аўторытэ-

там. Гэта запраўдны грамадзкі дзеяч. У валаданьні крэсткому, у адлегласьці 2 кілёмэтраў ад вёскі, у былым панскім маёнтку знаходзіцца цагельня, якая працуе ўжо 2 гады і ў сучасны момант атрымала значныя заказы са Старых-Дарог і Менску. Гліна знаходзіцца тут-жа, якой хопіць гадоў на 10. З кожнае печы, пасьля 12-дзённага выпальваньня, атрымліваецца 30.000 цэглы двух гатункаў. Дровы ўжываюцца самыя танныя—асіна. Мяркуюць пашырыць вытворчасьць пабудовай другой печы. Дзейнасьць коопэратыву таксама варта ўвагі, тавару мае дастаткова, здавальняючы патрэбы сялян. У падняцьці дабрабыту насельніцтва значную ролю адыгрывае мэліорацыйнае Т-ва. Справа ў тым, што наўкол Шчыткавіч знаходзяцца значныя балотныя масывы, якія давалі вельмі мала карысьці. Адзін з такіх масываў займае плошчу ў 15 кілёмэтраў даўжыні і $2^{1}/_{2}$ клм. шырыні. Пасьля доўгае агітацыі і пасылкі дэлегатаў у Старобіна і Менск на балотную станцыю для пераконаньня, сяляне дружна пачалі паступаць у Т-ва, выпісалі гідратэхніка. З мая месяца і да 30 ліпня было пракладзена 200 кілёмэтраў асушальных канаў, уключаючы галоўную магістраль. Грамадзкая праца ў Шчыткавічах пастаўлена на належную вышыню. Па самаабкладаньні сяляне пачалі будаваць новы вялікі будынак для школы. Пажарны сарай забясьпечаны належным абсталяваньнем для гашэньня пажараў. Асабліва Шчыткавічане ганарацца каланчой, якую наладзілі на высокай хвоі. У час нашага побыту ў Шчыткавічах прышлося быць сьведкамі сялянскага сходу па пытаньнях колектыўнагаспадарчага жыцьця. На гэтым сходзе пастанавілі купіць трактар. Паслаць хлопца на вучобу, каб мець свайго мэханіка, асьвятліць вёску электрычнасьцю, пашырыць і ўдасканаліць пажарную справу. Гэтак у цёмнай Палескай вёсцы будуецца новае жыцьцё. Азнаеміўшыся са Шчыткавічамі, накіраваліся ў вёску Леўкі, якая ляжыць убаку ад вызначанага маршруту, але вельмі цікава з краязнаўчага боку.

Праходзілі спачатку вузкай сьцежкай сярод ураджайных Шчыткаўскіх палёў, а затым пачаліся нудныя, безрасьлінныя пясковыя ўзгоркі з вялікім лікам каменьняў—гэта ўжо палі Леўкоўцаў. Ураджаньне цяжкае: там-сям тырчаць паасобныя каласкі. Вось такімі ўзгоркамі, палеткамі і проста загонамі, на якіх шмат гадоў нічога ня сеяна, падыходзім да Леўкаў.

Вёска досыць значная, мае 140 хат, распаложаных па дзьвюх вуліцах. Выгляд няпрыемны, адсутнічае расьліннасьць, хаты нейкія цёмныя, крытыя гонтамі, драніцамі. Вуліцы гразкія, па бакох у некаторых мясцох прарыты канавы з бруднай вадой. Ня гледзячы на свой нудны выгляд і агульную беднасьць, Леўкі запраўды могуць ганарыцца багацьцем орнамэнтаў, якімі аздабляюцца хаты; у некаторых з іх гэтыя аздабленьні дасягаюць значнай мастацкай вартасьці, як напрыклад, аздабленьне згары вакна селяніна Пятра Вераб'я. У вёсцы ёсьць вялікі новы будынак двухкомплектнай школы. Насельнасьць складаецца з беларусоў і 4-х сямей яўрэяў-саматужнікаў і земляробаў. Вёска наогул старасьвецкая, закінутая сярод балот, каменьняў і пяскоў. У сялян захавалася шмат старых звычаяў. Старажытнасьць праглядвае і ў вопратцы, якая тут шыецца з матар'ялаў выключна хатняга вырабу. Сяляне носяць доўгія палатняныя кашулі, з адкладнымі каўнярамі, завязаныя матузочкам, белыя порткі і лапці. Падпярэзваюцца паясамі саматканымі каляровымі ў 4 фарбы; носяць яшчэ старажытныя скураныя паясы, шырынёй вяршкоў з два з прыборам, які завецца „шабета“. Пры паясе на раменчыку вісіць „сьцізорак“, а на

баку—скураная сумачка „шабета", у якую хаваюць розныя дробныя рэчы: красала, крамень, люльку, тытун, грошы і г. д. Старыя носяць круглыя шапкі, зробленыя з нейкай тканіны, падобнай да плюшу, колеру гнілавата-зялёнага, быццам мох. Жанчыны апранаюцца ў адзеньне багата вышыванае, а старыя бабкі ўбіраюць галаву наміткамі. Адсутнасьць ужываньня крамніны, выклікае пашыранасьць ткацтва, якое дасягае ў Ляўкох высокай якасьці, асабліва паясы. У гаворцы сялян наглядаецца аканьне, прычым ужываюць шмат слоў, мала знаёмых для нас, прыкладам, гладыш—завуць вусьвіца, саган—чаус, чапяла—ёмка. Агледзеўшы вёску і зрабіўшы патрэбныя замалёўкі, вярнуліся ў Шчыткавічы, адкуль на другі дзень наведаліся ў в. Дражна, якая знаходзіцца ў адлегласьці 12 вёрст ад Шчыткавіч, але тут нам непашанцавала, пайшоў праліўны дождж, які перашкодзіў што-небудзь зрабіць. Дражна вёска вялікая, мае сельсавет, двухкомплектную школу, прыпынак пошты, Крэдытнае Т-ва. Насельніцтва займаецца ральніцтвам і патроху саматужніцтвам.

(Канец будзе).

---

Ул. Жук і П. Панкоў.

# Санітарна-бытавы нарыс вёскі Дубровы, Лельчыцкага сельсавету, і раёну, Мазырскае акругі.

Вёска Дуброва распаложана на роўным месцы. З паўднёвага боку яна прылягае к балоту, якое называецца „Круглым балотам". Яно, маючы шырыню ад 1—1,5 клм., цягнецца ўдоўжкі да ракі Убарць на 7-8 клм. і мае схіл на ўсход. На паўночным захадзе, на адлегласьці 0,5 клм. ад вёскі таксама знаходзіцца балота, а на поўначы ў 1,5 і 3 клм. знаходзяцца два невялічкіх азяркі. Вышэйпамянёная рака Убарць (прытока Прыпяці) зьяўляецца самай бліжэйшай больш-менш значнай ракой. Вёска з усіх бакоў абкружана лесам, у якім сустракаюцца нізіны і балоты. З парод дрэў асабліва пашыраны: хвоя, бяроза, дуб, па нізінах вольха, таксама сустракаецца елка, але вельмі рэдка і ў нязначнай колькасьці.

Пашыраны „багун"—невялічкі кустоўнік, з прыгожымі белымі кветкамі і моцным пахам, які насельніцтва ўжывае як сродак процiў чужаедаў (блашчыц).

Глеба каля вёскі пераважна супясковая, у некаторых, мясьцінах пападаецца суглінак, але рэдка. Каменьняў на палёх нідзе не пабачыш і вакольнае насельніцтва для гаспадарчых патрэб прывозіць яго з іншых мясцовасьцяй. Сыстэма паляводзтва па раскарчоўках пераложная, а навакол вёскі зямля ніколі ня гуляе. Па гнаі сеюць бульбу, на другі год—жыта, пшаніцу, авёс, на трэці—грэчку.

Акруговы цэнтр гор. Мазыр знаходзіцца ў 87 клм. ад вёскі, таксама далёка знаходзіцца і бліжэйшая чыгуначная станцыя—Ельск (64 клм.). Раённы цэнтр і сельсавет знаходзяцца ў 8 клм., у м-ку Лельчыцы. Самы бліжэйшы завод—цагляны знаходзіцца ў 8 клм.

Сама вёска ляжыць на роўным сухім месцы, якое мае схіл на поўдзень да балота. Вёска складаецца з двух вуліц і 2-х завулкаў. Адна вуліца ідзе з усходу на захад, а другая з паўдн. ўсходу на паўночны захад. Абаронай ад пануючых вятроў, якія тут дзьмуць з заха-

ду і поўн.-захаду, служыць лес. Ёсьць дзьве грамадзкія плошчы: адна школьная, распаложаная сярод вёскі, а другая выган у заходнім канцы яе. Вуліцы нябрукованыя, бяз усякіх насьцілаў, дрэў няма і наогул трэба адзначыць, што вуліцы гразкія, асабліва ўвосень. Ёсьць штук 4 або 5 асабліва нізкіх месц (лужын), якія ў часе дажджоў робяцца „вазёрамі". Двароў у вёсцы налічваецца 214; усе яны разьмяркованы абапал вуліцы. Садоў і палісаднікаў вельмі мала (7). Прычым сады ўсе невялічкія і ў гаспадарцы прамысловага значэньня ня маюць. З пладовых дрэў разводзяць яблыню, ігрушу, сьліву.

Дзеля таго, што ракі каля вёскі няма, то ўсе вадазборы ў вёсцы—гэта закрытыя студні, якіх налічваецца—34. Пабудованы яны проста драўляным зрубам. Знаходзіцца студня на вуліцы, ці на дварэ каля вуліцы і карыстаюцца ёю звычайна некалькі гаспадарак, але ёсьць невялічкая колькасьць (7) такіх, якімі карыстаецца толькі адна гаспадарка. Ваду дастаюць крукам, або каперам, агульнага вядра для ўсіх няма. Студні ненакрытыя, няшчыльныя. Дзякуючы таму, што яны знаходзяцца недалёка ад хлявоў і каля іх адбываецца вадапой жывёлы, яны забруджваюцца. Спосабаў абароны ад забруджваньня амаль што няма ніякіх, зрэдку толькі каля студні насыпяць пяску, каб ня было гразі каля яе. Глыбіня студняў у сярэднім 5 мэтраў. Пры капаньні, як апавядае насельніцтва, сустракаюцца наступныя пласты: глеба, пад глебай пясок, жвір, гліна і пасьля гліны ідзе ваданосны пласт. Ваданепранікальны пласт—гліна (другі пласт яе),—ваданосны пясок. Вады для патрэб насельніцтва ў студнях ёсьць досыць. Існуючыя вадазборы мала прыгодны для гашэньня пажараў з прычыны труднасьці доставы яе. У часе сьпешкі ўсе студні заграмаджаюцца спушчанымі вёдрамі, што перашкаджае правільнаму і своечасоваму іх скарыстаньню.

Мінімальныя запатрабаваньні санітарнай аховы студняў вымагаюць пабудовы покрывак над студнямі і забрукаваньня плошчы зямлі навакол студні, дзеля таго, каб яны не забруджваліся сьцекамі з вуліцы і хлявоў.

Па якасьці вада наогул добрая *), але ўвясну альбо ў часе дажджоў, яна робіцца мутнай ад павярхоўнай вады, якая цячэ ў студню. У хатах вада захоўваецца ў вёдрах, альбо ў цэбрах і стаіць там на працягу 6—8 гадзін адкрытая, дзякуючы чаму яна забруджваецца пылам. У гаспадарцы ў сярэднім кожны дзень разыходзіцца ўзімку—22 вядры вады, а ўлетку—8. На хатнія патрэбы сям'і ўжываецца 6—8 вёдраў, а на гаспадарчыя і на вадапой жывёлы—14—16 вёдраў. Залежнасьці паміж вадакарыстаньнем і страўнічна-кішэчнымі хваробамі не назіраецца.

Насельніцтва ў вёсцы налічваецца 1026 чалавек, з іх мужчын 488, а жанчын 544. Сямей налічваецца 214. Па нацыянальным складзе ўсе беларусы. Ёсьць толькі адна яўрэйская сям'я, ды і тая перабіраецца ў м-ка Лельчыцы. За апошні год памёрла—42, нарадзілася—37 чал. Шлюбаў было—4, разводаў—2.

Асноўным заняткам насельніцтва зьяўляецца ральніцтва, з пабочных заробкаў трэба адзначыць: узімку рубку, вывазку, а ўвясну сплаў лесу і пілаваньне дошак. Гэтыя заробкі значна дапамагаюць насельніцтву: пры іх дапамозе гаспадарка выконвае ўсе падаткі і імі займаецца амаль што ўсё насельніцтва. Саматужнікаў у вёсцы вельмі

*) Такое азначэньне не характарызуе якасьці вады; трэба хаця-б адзначыць яе празрыстасць, смак. І. Ц.

мала: 2 кавалі, 3 шаўцы, 2 краўцы, 1 столяр. Кавалі і краўцы сваім заробкам значна падтрымліваюць гаспадарку, а што датычыцца іншых саматужнікаў, то прыработак іх вельмі малы.

Ворнае зямлі налічваецца 661 дзесяціна, сенажаці—183 дз.; лесу няма, няўжыткоўнай зямлі—50 дз. Ураджайнасьць палёў, прымаючы пад увагу прымітыўнасьць немашыннай апрацоўкі—сярэдняя. З буйнай жывёлы налічваецца: валоў—230, кароў—300, коняй—86[1]). Дробнай жывёлай вёска забясьпечана слаба. Што датычыцца сельска-гаспадарчых прылад (плуг, барана), то імі забясьпечана насельніцтва ў патрэбнай меры. Беднякоў налічваецца—80 гасп., серадн.—122, замож—12 гасп. Уласнага коопэратыву ў вёсцы няма, а ёсьць аддзяленьне Лельчыцкага спажывецкага т-ва, пайшчыкаў якога на ўсёй вёсцы налічваецца каля 100[2]). Прыватным гандлем ніхто не займаецца. Адзіным месцам продажы жывёлы, якая зьяўляецца галоўным даходам насельніцтва зьяўляюцца кірмашы ў м-ку Лельчыцах, яны адбываюцца 1-га і 15-га кожнага месяца.

Агульная плошча сядзібы і двара ў вёсцы наступная:

| | Макс. | Мінім. | Сярэд. |
|---|---|---|---|
| Сядзібы . . . | 972 кв. м. | 320 кв. м. | 596 кв. м. |
| Двара . . . . | 448 кв. м. | 72 кв. м. | 263 кв. м. |

Забудоўля двароў сустракаецца розная; найчасьцей можна пабачыць забудоўлю літарай „Г“, „П“, а таксама чарадой. Падзелу двароў на чыстыя і брудныя няма. Двор чысьцяць раз у год вясною, калі возяць гной, то падграбуць сьмецьце і вывязуць яго на поле, ды і то ня ўсе гаспадары, а толькі некаторыя. Будынкі звычайнай сярэдняй гаспадаркі наступныя: хата з сенцамі і каморай, адрыны 2—3 (для коняй кароў і авечак), гумно, варэўня—(патутэйшаму—„сьцёпка“) для схову продуктаў і сьвінячы хлеў. Будаўнічы матар'ял—дзерава. Адрыны звычайна будуюцца з верхавін дрэў бяз моху і няшчыльна; дзьверы прымацованы няшчыльна, а часам іх няма зусім, а ёсьць толькі завёрткі; столі няма; дах насланы гальлём, а пасьля зьверху накрыты саломай, якая зьверху прыціснута апоўзьнем. Абароны ад зімніх халадоў амаль што няма ніякай, толькі часамі заткнуць дзіркі саломай, каб не надзьмувала ў адрыну сьнегу. На ўтрыманьне будынкаў не зьвяртаюць належнай увагі: часам працякае, але іх не папраўляюць.

Хаты пераважна стаяць абапал вуліцы, але часамі стаяць і на дварэ. Двор заўсёды распаложаны з усходняга боку, толькі калі на адным дварэ жывуць два гаспадары, дык ён знаходзіцца паміж хат.

Паводле пабудоўлі тыпы хат наступныя: чатырохсьценка (большасьць), пяцісьценка і хаты з дзьвёх палавін. Чатырохсьценка будуецца зрубам з чатырох сьцен, да яе бываюць прыбудованы сенцы бяз моху і бяз столі; частка іх адгароджана пад камору. У пяцісьценцы

[1]) Трэба было для экономічнае характарыстыкі насельніцтва паказаць падворную забясьпечанасьць зямлёй і быдлам.—І. Ц.

[2]) Лічбавыя даныя ў экономічнай характарыстыцы маюць каштоўнасьць, калі яны дакладныя, і таму азначэньне „каля 100“ можна разумець і 70 і 80 і г. д. І. Ц.

замест сенцаў прыбудована другая палавіна хаты, у якой ёсьць печ і столь. Хата з дзьвюх палавін складаецца з двух чатырохсьценак, якія злучаны халоднымі сенцамі, у задняй частцы якіх адгароджана камора. Тыпы хат з дзьвюх палавін ужо больш ня будуюцца. Хто пазаможней, той будуецца „дамком“, г. з. звычайнай пяцісьценкай. Хаты будуюць з дзерава, ставяць іх без падмурку, проста на зямлі, падкладаючы пад куты штандары. Сьцены ад вільгаці глебы нічым не ізолююць. Куты робяць „расійскія“. Дзьверы робяць ашалёванымі ў форме елкі, клеткі ці радкамі. Столь робіцца наступным чынам: першы рад дошак кладзецца няшчыльна, на 2—3 вяршкі адна ад аднае, зьверху шчыліны закрываюць аполкамі. На столь насьцілаюць салому або мох, закрываючы няроўнасьць кладкі, а пасьля насыпаюць пяску таўшчынёй 1—2 вяршкі. На дахі ідзе дранка, гонты, або звычайныя дошкі. Укладка падлогі ардынарная, яна кладзецца на адлегласьці 20—30 см. ад зямлі; вэнтыляцыі падпадложжа няма, а для цяплыні зруб абсыпаюць па-за сьценамі зямлёй. У сенцах столі ў большасьці хат няма, а падлога кладзецца проста на зямлю. Чатырохсьценкі будуюцца квадратам або простакутнікам, прычым даўжыня ня больш шырыні, як на адзін аршын. У правым куце ад дзьверы знаходзіцца печ, якая займае $^1/_6$ частку плошчы падлогі. Перагародак ніякіх няма. За печкай да пярэдняй сьцяны—пол. У хаце звычайна тры вакна, у бакавой сьцяне да двара—2 і прадоўжнай да вуліцы—адно.

Пяцісьценка мае чатыры знадворныя сьцены і адну нутраную. Звычайна бывае тры дзьверы: адны знадворныя, другія нутраныя з аднае хаты ў другую, трэція—у камору. Печы ёсьць ў абедзьвюх палавінах. У хаце з дзьвюх палавін—адна палавіна звычайна большая. Памеры хат паводле асобных тыпаў характарызуюцца наступнымі лічбамі.

| Тыпы хат | Унутры хат | | | Знадворку | | | Лік вакон | Размер выразу | Плошча падлогі | Кубатура | Адносіны выразу вакон да падлогі | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ш. | д. | в. | ш. | д. | в. | | | | | | |
| Пяцісьценка . . | 5,2 | 8 | 2,8 | 6 | 8,7 | 3,4 | 6 | 1,8 | 41,6 кв.м. | 116,48 км. | 0,23 | меншая |
| „ | 6,5 | 10 | 3 | 6,8 | 10,5 | 4 | 7 | 1,8 | 65 | 195 | 0,2 | большая |
| „ | 5,6 | 10,7 | 2,8 | 6,5 | 11 | 3,2 | 5 | 0,54 | 59,92 | 157,8 | 0,05 | сярэдняя |
| Чатырохсьценка | 2 | 2,7 | 2 | 2,5 | 3,5 | 2 | 2 | 0,16 | 5,4 | 10,8 | 0,03 | меншая |
| „ | 4,5 | 5 | 2,5 | 5 | 5,5 | 3,2 | 3 | 0,48 | 22,5 | 56,25 | 0,06 | сярэдняя |
| „ | 6,5 | 5,5 | 2,5 | 7,1 | 6,4 | 3 | 3 | 0,63 | 35,75 | 89,37 | 0,05 | большая |
| З дзьвёх палавін | 4,9 | 12 | 2,7 | 6 | 13 | 3 | 5 | 0,42 | 58,8 | 158,8 | 0,04 | сярэдняя |
| „ | 4,5 | 11 | 2,9 | 5,5 | 12 | 3,1 | 5 | 0,54 | 49,5 | 143,5 | 0,05 | меншая |
| „ | 5,5 | 13 | 2,8 | 6,5 | 14 | 3,4 | 6 | 0,63 | 71,5 | 200 | 0,05 | большая |

*Увага:* У хатах з дзьвёх палавін чацьвертая частка падае на няжылое памяшканьне—сенцы і камору.

У сярэдзіне хаты пераважна атынкованыя, але ў бяднейшых хатах часамі замазваюцца глінай толькі шпары і беляцца. Форма вакон-

ных рам шасьцішыбная, таўшчыня бывае звычайна роўна 0,75 вяршка. Падвойныя рамы сустракаюцца рэдка; яны ёсьць толькі ў больш заможных гаспадароў. Фортак нідзе няма. Звычайна ў хаце ёсьць 2 вакны створчатыя, а трэцяе глухое, якое не адчыняецца. Вокны расположаны на ўсход і поўдзень. Зімою іх закрываюць матамі, але ня ўсе гаспадары, а толькі некаторыя. Увечары хата асьвятляецца лучынай на комінах („пасьветах"), якія знаходзяцца пасярэдзіне хаты і маюць дымаход, выведзены ў трубу над стольлю. У сьвяточныя вечары хаты асьвятляюцца лямпамі.

Печы пабудованы наступным чынам: робяць драўляны зруб вышынёй каля мэтру. Унізе яго ёсьць дзірка, куды зімою заганяюць кур (падпечак). На зруб насьцілаюць аполкі, на якія насыпаюць пяску, а потым кладуць цэглу. У ва ўсіх хатах звычайныя рускія печы, якія робяць альбо з чыстай гліны, толькі з цагляным комінам, альбо цалком з цэглы. Плошча падлогі занятая печкай роўна 4 кв. мэтрам, а кубатура—8 кб. мэтр. Дзякуючы таму, што шмат паляць у печы, хаты ўзімку бываюць адносна цёплыя. Але ў нашчыльныя вокны і дзьверы, асабліва там, дзе яны без сянец, у часы вятроў мароз забіраецца ў хату. Грыба-дрэванішчыцеля ў хатах няма, а вільгаць ёсьць заўсёды, дзякуючы таму, што ўся гаспадарчая праца (гатаваньне пойла, параньне мякіны і г. д.), дае багата пары на хату, чаму паветра заўсёды бывае вільготным. У хаце звычайна жыве адно сямейства, рэдка два. Сем'і ў сярэднім у 5 чалавек, што пры агульнай сярэдняй плошчы падлогі ў 25 кв. мэтраў, дае на кожную душу па 5 кв. мэт. карыснае жылое плошчы.

Абсталяваньне хаты складаецца з наступных рэчаў: стол, які стаіць у пярэднім куце, каля стала дзьве шырокія лавы са сьпінкамі (канапы), 1—2 услонаў і некалькі столкаў, пол альбо ложкі; апошнія сустракаюцца там, дзе малая сям'я і больш заможная. Зроблена ўсё гэта з хваёвага дрэва, работа даволі сьціпная. У хаце на заслоне стаяць вёдры, звычайна два, каля іх цэбар, пад лавай кошалі з картопляй, ночвы, на лаве дзежка, на сьценцы вісяць посітак, рашота, паліца з рэчамі гаспадарчага ўжытку (гаршкі, місы, ложкі і г. д.). У сенцах стаяць бочкі са збожжам, карыта для кармленьня сьвіней, с.-г. прылады і некаторыя іншыя рэчы.

Узімку мужчыны амаль што ўвесь дзень знаходзяцца на двары, жанчыны 1-2 гадзіны, а дзеці цэлы дзень сядзяць у хаце. Прычыну гэтага трэба шукаць ва ўмовах працы для дарослых, а адносна дзяцей недастачай абутку і адзежы.

Насельніцтва большую палову году ўжывае для ежы продукты расьліннага пахаджэньня. Мяса і сала ўжываецца мала. Калі разглядзець продукты, якія большасьцю ўжываюцца па часьцінах году, то атрымаем наступны малюнак. Увосень — „печанкі" (печаная картопля), „кіяхі", каша з гарбузом, бараніна. Зімой — капуста і гуркі салёныя, мяса, сала. Увесну малако кіслае (салодкае ўжываецца вельмі рэдка), шчаўе, розныя крупы. Улетку больш жывяцца продуктамі гароду (бацьвіньне, гуркі і г. д.). Мяса, сала і наагул жывёльных продуктаў не хапае. Хлеба ў некаторых таксама мала і за ўсё адказвае картопля. На зіму картопля хаваецца ў капцох, ямах і варэўнях. Капусту і гуркі соляць, буракі пад весну квасяць. Сала, мяса хаваюць у каморы. Аснаўныя стравы ўжывае насельніцтвам наступныя: боршч, (капусьцяны альбо бураковы), бліны з грачанае мукі, пшонная каша, печаная альбо вараная бульба. У часе рэлігійных пастоў: раніцой — печаная картопля

з расолам гуркоў альбо качанамі квашанае капусты, на абед — боршч з грыбамі або ўюнамі, фасоль альбо каша з алеямі. Увечары — картопля печаная ці вараная. У каго ёсьць мёд, варацъ аўсяны кісель з мёдам. Пякуць пшанічныя пампушкі з алеямі.

Гарачая страва ўзімку ўжываецца 3 раза, а ўлетку — 2. Продуктаў жыўленьня купляюць мала, больш прабаўляюцца сваімі. Бяруць цукру ў год 2 кгр., солі — 50 кгр., селядцоў — 3—4 кгр., рыбы — 3—4 кгр., сала (мала хто купляе), алей.

Пасуда ў кожнай хаце аднолькавая, розьніца толькі ўколькасьці. Ёсьць міскі, гаршчкі (гліняныя, міскі бляшаныя, чыгуны вялікія, талеркі (1—2 шт.), корац бляшаны, кубак, сподачкі, макотра гліняная, тарка бляшаная, слоікі, гладышкі гліняныя, лыжкі драўляныя. Усё гэта хаваецца на паліцы і нічым не пакрыта.

Месцам спаньня ў хаце служаць пол, ложкі, лавы, прыпечак, печ; апошнімі карыстаюцца выпадкова, калі холадна альбо недахоп месца. Пасьцельныя рэчы наступныя: сяньнік, посьцілкі, коўдры, падушкі (у незаможных замест коўдры служыць дзяруга, а падушкі з чаротавым пухам). Пасьцельная бялізна зьмяняецца 4 разы на год, перад вялікімі сьвятамі да і то ня ўся, а толькі посьцілкі, наўлечкі. На палу сьпяць усёй сям'ёй разам: бацька з маткаю з аднаго боку, малыя дзеці пасярэдзіне, дарослыя дзеці з другога. Узімку дарослыя сьпяць каля 9 гадзін, дзеці да 12. Улетку дарослыя 6—7 гадзін, дзеці, і якія працуюць у гаспадарцы (пастухі), таксама 6—7 гадзін, а меншыя 9—10 гадзін. Устаўшы раніцай, дарослыя ўмываюцца, але бяз мыла толькі твар і рукі. Дзеці звычайна ўмываюцца пасьля яды, дый то, калі запэцкаюцца стравай, а калі не, дык і так дзень праходзяць. Умывальнікаў няма; умываюцца з корца над цэбрам, або ходзячы па хаце (змачваюць падлогу, каб ня было пылу). На працягу дня мужчыны мыюць рукі перад ядой, а жанчыны тады, калі запэцкаюць іх, завіхаючыся каля печы. Рушнікі супольныя з ільна альбо каноплі; карыстаюцца імі цэлы тыдзень. Улетку дзеці купаюцца ў канавах, а дарослыя, дзякуючы таму, што няма ніводнае лазьні, усё цела амаль што ніколі ня мыюць. Нацельная бялізна складаецца ў мужчын з сарочкі і нагавіц, у жанчын з сарочкі з затыкай у падале і перабіранымі чырвонай гарынай рукавамі. Дзеці да 5 год ходзяць у сарачках; старэй пяці год — дзеўкам надзяюць спадніцы-андаракі, а хлопцам штаны. Матар'ял бялізны звычайнае палатно хатняга вырабу, льняное, альбо канаплянае. Мужчынская сарочка шыецца са зборамі, каля каўнера, які вышываецца, рукавы шырокія таксама са зборамі з паркалю. У жанчын фасон сарочкі такі-ж самы, толькі каўняры з брыжамі з паркалю і з вышыванымі чахламі. Бялізну зьмяняюць раз у тыдзень, у нядзелю. Мыла ў год на сям'ю разыходзіцца ня бялей 0,5 кгр. Большасьць яго ідзе на мыцьцё бялізны паркалёвай, а таксама каўняроў і брыжоў да сарочак.

Хата падмятаецца ў дзень 1 або 2 разы. Дакладная чыстка хаты адбываецца 3-4 разы ў год, перад вялікімі сьвятамі. Складаецца яна з бяленьня сьцен белай глінай і мыцьця падлогі. З чужаедаў асабліва распаўсюджаны блохі (яны ёсьць амаль што ў кожнай хаце), блашчыцы (клапы), прусы рэдка. Змаганьня з чужаедамі не вядуць ніякага, акрамя хіба з галаўнымі вошамі, якія гінуць пад кіпцямі кожную нядзелю.

Для адбываньня фізыолёгічных патрэб ніякай пасудзіны ў хаце няма.

Усе гаспадарчыя процэсы, як прыгатаваньне пойла, паранкі, мякіны, апрацоўка валакна, шчапаньне лучыны, пляценьне пасталоў забруджваюць хату і пагаршаюць яе санітарнае становішча. Дапамагаюць гэтаму трыманьне зімой курэй пад печкай, ягнят і цялят у часе зімніх халадоў, а таксама кармленьне сьвіней у хаце.

Пачатак плоцьцевага жыцьця прыходзіцца ў хлопцаў на 17-18 год, у дзяўчат на 16-17 г. Сярэдні ўзрост уступаючых у шлюб—19-20 год. За апошнія чатыры гады ёсьць 12 выпадкаў нараджэньнях дзяцей да шлюбу.

Аборты сустракаюцца нярэдка. Робяць іх хатнім способам самі, у больніцу зварачаюцца рэдка. Акрамя абортаў, спосабаў проці цяжарнасьці іншых ня ўжываюць. Дзяцей родзяць у хаце; бываюць выпадкі нараджэньня на полі за працаю. Пры родах прысутнічае „баба“, а часам роды праходзяць і без яе. Умовы гадаваньня дзяцей дрэнныя, негігіенічныя.

Штучна пачыняюць карміць з узросту трох месяцаў. Кормяць жаваным хлебам з цукрам (завінаюць яго ў шматку і даюць смактаць), параным малаком з бутэлькі, горла якой завязана шматкай. Сьмяротнасьць у сувязі з родамі нязначная; хваравітасьць пасьля радоў бывае часта. Інваліднасьць і калецтва маюць месца ў вёсцы з прычыны вайны. Усяго інвалідаў налічваецца 5 чалавек. Агульны лік непрацаздольных 12 чалавек. Жанчын старэй 50 год—55, мужчын старэй 55 год—38.

Мэдычнай дапамогай насельніцтва забясьпечна слаба. Мэдыцынскі пункт знаходзіцца ў м-ку Лельчыцы. Дзейнасьці мэдыка-санітарных установ у сэнсе аздараўленьня вёскі амаль што ніякай не назіраецца. Пры хворасьці дзяцей перш за ўсё зварачаюцца да „баб“ (шаптух), а потым, калі ўжо нічога не памагае, зварачаюцца за дапамогай у больніцу.

Пісьменных, якія вучыліся да вайны, налічваецца 125 чалавек, пасьля вайны—97 чалавек. Дзяцей школьнага ўзросту—149. Школай дзеці ахоплены на 45%. Да вайны крыніцай пісьменнасьці зьяўлялася школа, а зараз яшчэ дабавілася вачэрняя школа ліквідацыі няпісьменнасьці. Літаратуры ў насельніцтва амаль што ніякай няма, акрамя газэт, якія выпісвала невялічкая частка насельніцтва. З культурна-асьветных установ ёсьць толькі школа, якая зьмяшчалася ў нанятым памяшканьні. Цяпер у вёсцы будуецца новая школа, якая будзе адпавядаць патрабаваньням школьнае гігіены. Насельніцтва два разы ў год ладзіць п‘яныя сьвяты, на якіх бывае разьліўное мора самагону. Дый наогул кожнае больш-менш значнае рэлігійнае сьвята вызначаецца п‘янствам, дракамі і хуліганствам. Як праявы новагу быту трэба адзначыць 1 выпадак чырвонага вясельля і 2 выпадкі акцябрын.

У вёсцы ёсьць 2 ячэйкі: Мопр‘у і Асоавіахіму, у якіх налічваецца па 17 членаў. Ёсьць пажарная камісія з 2-х чалавек, санітарная, дарожная, але яны не працуюць і існуюць толькі на паперы. Адміністрацыйных установ і партыйных організацый у вёсцы нямя. Ступень політычнай пісьменнасьці насельніцтва нізкая.

В. Буланчыкаў.

# Апісаньне Валынецкага кірмашу.

*(31 студзеня 1928 г.).*

Кірмаш у м. Валынцох адбываецца кожны тыдзень па аўторках. Да Кастрычнікавай рэволюцыі кірмаш гэты ня меў асаблівага значэньня ў экономіцы суседніх вёсак, якія больш бывалі на кірмашох у г. Дзісьне, што зараз знаходзіцца пад Польшчай. Пачатак кірмашу адносіцца да 1907 г., у які быў дадзены дазвол на яго правядзеньне. У часе нямецкай окупацыі кірмашы гэтыя ня зьнізіліся, а нават і павялічыліся. Былі перад імпэрыялістычнай вайной досыць вялікія кірмашы, асабліва ў некаторыя сьвяточныя дні. Пачынаючы з 1922 г. кірмаш пашыраецца. Шмат сялянства зьяжджаецца з продуктамі сваёй сельскай гаспадаркі. Мясцовыя саматужнікі-сяляне прывозяць свае вырабы—колы, драўляную пасуду, з 1923-24 году кірмаш прыняў надта буйныя разьмеры. Ён заняў першае месца сярод кірмашоў, якія бываюць у г. Дрысе ў 13 вярстах ад м. Асьвеі ў 25 вярстах ад Валынцаў і наогул у радыюсе 30 вёрст. Кожны аўторак шмат сялян прыбывае на кірмаш. Едуць ня толькі з Валынецкага раёну, але і з суседніх — Дрысенскага, Ветрынскага, Асьвейскага, Расонскага. Прыяжджаюць на кірмаш нават за 100 і больш вёрст. Якіх толькі тавараў ні прывозяць на рынак—і збожжа, і лён, і драўляныя вырабы, палатно і сукно сялянскае, каровы, коні, малочныя продукты і г. д. Уся базарная плошча застаўляецца конямі, вазамі і рознымі таварамі.

Дзень, у які зроблена было абсьледваньне, быў спрыяючы для гандлю, марозны, ціхі.

Абсьледваньне дало наступныя вынікі:

Зарэгістравана было 4265 чалавек.

### Збожжа і гароднiна.

| | Пудоў | Цэны на возе | Даюць |
|---|---|---|---|
| 1. Жыта . . . | 50 | 1 р. 30 к.—1 р. 80 к. | 1 р. 25 к.—1 р. 60 к. |
| 2. Ячмень . . . | 27 | 1 р. 50 к.—1 р. 70 к. | 1 р. 40 к.—1 р. 60 к. |
| 3. Авёс . . . | 42 | 1 р. 50 к.—1 р. 70 к. | 1 р. 30 к.—1 р. 45 к. |
| 4. Боб. . . . | 10 | 1 р. 40 к.—1 р. 80 к. | 1 р. 35 к.—1 р. 60 к. |
| 5. Гарох . . . | 14 | 1 р. 30 к.—1 р. 50 к. | 1 р. 20 к.—1 р. 45 к. |
| 6. Віка . . . | 11 | 1 р. 30 к.—1 р. 50 к. | 1 р. 20 к.—1 р. 45 к. |
| 7. Бульба . . . | $36^{10}$ | 40 к.—50 к. | 35 к.—40 к. |
| 7. Цыбуля . . | $1^{30}$ | 7 к.—10 к. | 6 к.—8 к. |

Разам. 192 пуд.

На агульную суму, лічачы па мінім. цане на вагу,—*234 руб. 30 к.*

### Жывая скаціна.

| | Галоў. | Просяць. | Даюць. |
|---|---|---|---|
| 1. Каровы | 100 | | |
| за лепшую . . | | 180 р. | 100 р. |
| сярэднюю . . . | | 120 р. | 80 р. |
| горшую . . . | | 60 р. | 45 р. |

На агульную суму па сярэдняй цане, якую даюць *8000 р.*

| | Галоў. | Просяць. | Даюць. |
|---|---|---|---|
| 2. Коні . . . | 260 | | |
| за лепшага . . | | 350 р. | 280 р. |
| сярэдняга . . . | | 180 р. | 150 р. |
| горшага . . . | | 60 р. | 40 р. |

На суму *45000 руб.*, лічачы ўсіх коняй сярэднімі і цану, якую даюць.

| | Галоў. | Просяць. | Даюць. |
|---|---|---|---|
| 3. Жарабяты . . | 70 | 120 | 100 |

На суму *7000 руб.*

| | Галоў. | Просяць. | Даюць. |
|---|---|---|---|
| 4. Бякі . . . | 15 | | |
| лепшы . . . | | 200 | 180 |
| сяр. . . . . | | 160 | 100 |
| горшы . . . | | 70 | 50 |

На суму *1500 руб.*

| | Галоў | Просяць | Даюць |
|---|---|---|---|
| 5. Цяляты . . | 64 | 10—11 р. | 7 р. 50 к.—8р. |
| 6. Авечкі . . . | 17 | 7—9 р. | 5—6 р |
| 7. Сьвіньні . . | 13 | 20—25 р. | 19—22 р. |
| 8. Подсьвінкі . . | 24 | 10—13 р. | 8—11 р. |
| 9. Парасяты . . | 111 | 2—2½ р. | 1½—2 р. |
| 10. Куры . . . | 21 | 70—80 к. | 50—65 к. |

*На суму 1181 руб.*

**Мясныя і малочныя продукты.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Мяса сьвіное . . . . | $42^{10}$ | 30 к. | 25 к. |
| 2. Сала . . . . . . | $1^{33}$ | 50 к. | 40 к. |
| 3. Кумпякі (сяр. вес на 20 ф.) | 17 шт. | 25 к. | 20 к. |
| 4. Масла . . . . . . | $2^{02}$ | 75 к. | 65 к. |
| 5. Сыр . . . . . . | 2 ф. | 15 к. | 15 к. |
| 6. Малако . . . . . . | 8 кварт. | 10 к. | 10 к. |
| 7. Гусі рэзаныя . . . . | 1 шт. | 3 руб. | 3 руб. |
| 8. Яйкі . . . . . . | 235 | 65 к. | 60 к. |
| 9. Мяса авечае . . . . | 20 ф. | 13 к. | 13 к. |

*на суму 596 р. 30 к.*

**Пасуда драўляная і драўл. вырабы.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Кадкі драўляныя вялікія . | 72 | 1 р. | 90 к. |
| 2. " " сярэднія | 27 | 35 к. | 30 к. |
| 3. " " малыя . | 15 | 25 к. | 25 к. |
| 4. Вёдры драўляныя . | 26 | 35 к. | 35 к. |
| 5. Нячоўкі . . . . . | 29 | 80 к. | 65 к. |
| 6. Калаўроты . . . . | 15 | 4 р.—75 | 4—35 к. |
| 7. Сані драўляныя . . . | 10 | 3 р.—50 | 2 р. |
| 8. Вазкі (простыя бяз молен) | 5 | 7 р.—50 | 6 р. |
| 9. Табурэткі . . . . . | 7 | 50 к. | 50 к. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 10. Колы . . . . . . . . | 36 | 2 р. | 1 р. 50 к. |
| 11. Кашолкі . . . . . | 27 | 75 к. | 60 к. |
| 12. Куфры . . . . . . . | 2 | 8 р.—50 | 7 р. |
| 13. Маслабойкі . . . . | 5 | 60 к. | 50 к. |
| 14. Дугі . . . . . . . | 97 | 1 р. | 60 к. |
| 15. Лыжкі. . . . . . . | 121 | 5 к. | 5 к. |

*На суму 374 р. 40 к.*

### Воўна, адзеньне і інш.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Воўна . . . . . . . . | 20 ф. | 1 р. 30 к. | 1 р. |
| 2. Абуткі . . . . . . | 3 пары | 9 р. | 7 р. |
| 3. Шчаціна . . . . . . | 2 ф. | 1 р. | 80 к. |
| 4. Сукно сялянскае . . . | 70 арш. | 2р.—1р.80к. | 1р.80к.—1р.40к. |
| 5. Палатно сял. тонкае . . | 80 арш. | 25 к. | 20 к. |
| 6. „ „ грубое . . | 25 арш. | 20 к. | 15 к. |
| 7. Валенкі вялікія . . . | 3 пары | 9 р. | 7 р. 50 к. |
| 8. „ дзіцячыя . . . | 7 пар | 4 р. 50 к. | 3 р. |
| 9. Аўчыны перарobленыя . | 15 | 3 руб. | 2 р. 60 к. |
| 10. Сялянск. сук. палатно . | 10 | 15 руб. | 12 р. |
| 11. Паўшубкі . . . . . . | 8 | 20 р. | 15 р.—18 р. |
| 12. Фрэнч суконны . . . | 3 | 6 р. | 4 р. 50 к. |
| 13. Пярына . . . . . . | 1 | 35 р. | 25 руб. |

*На суму 545 р. 35 к.*

А разам каштоўнасьці ўсіх тавараў, лічачы тую цану, якую даюць, складае . . . . . . 64.431 руб. 35 к.

Апрача таго на вучот ня быў узят лён—валакно, які, галоўным чынам, здаецца адразу сялянамі на ільняны пункт Белдзяржгандлю. А трэба сказаць, што гэтай сыравіны выробляецца многа і калі-б магчыма было ўлічыць увесь прывезены ў гэты дзень лён—валокна, то бязумоўна ёмкасьць кірмашу выражалася-б значна вышэй, чым 64 т. р.

*Цэны*, якія былі ў гэты дзень у прыватнікаў і коопэрацыі на самыя галоўныя прадметы спажыўленьня.

| | У коопэрацыі | У прыватнікаў |
|---|---|---|
| 1. Хлеб ржаны 1 фунт . . | 4 к. | 5 к. |
| 2. „ пшонны . . . . | 9 к. | 16 к. |
| 3. Цукер фунт . . . . | 25½ к. | 32 к. |
| 4. Газа . . . . . . . | 5½ к. | 6—7 к. |
| 5. Соль . . . . . . . | 1½ к. | 2—2½ к. |
| 6. Сярнічкі . . . . . | 1½ к. кароб. | 1½—2 к. |
| 7. Махорка—васьмушка . . | 6 к. | 7 к. |
| 8. Селядцы фунт . . . | 21½ к. | 25 к. |
| 9. Крупа грэцкая . . . | 9 к. | 11 к. |
| 10. Мука пшонная 1 сорт . | ня было ў коопэрацыі | 16 кап. фунт |

Абсьледваньне зроблена вучнямі Валынецкай сямігодкі пад кіраўніцтвам старшыні Раённага Таварыства Краязнаўства Б. Буланчыкава.

# ХРОНІКА.

## Усім раённым і акруговым інспэктаром народнай асьветы і ўсім аддзяленьням і мясцовым камітэтам саюзу працаўнікоў асьветы.

Хуткі рост народнай гаспадаркі і ўздым культурнага ўзроўню насяленьня спрыялі разьвіцьцю краязнаўчага руху, накіраванага на масавае вывучэньне вытворчых сіл і культуры мясцовага краю. Колькасьць краязнаўчых організацый па БССР зараз дасягае 300 з 10510 членамі ў іх. Краязнаўчы рух ахапіў значныя пласты насяленьня і стаў неабходнаю зьяваю ў нашым жыцьці; краязнаўчыя організацыі ў шмат якіх раёнах прыцягваюцца гаспадарчымі і культурнымі ўстановамі да прапрацоўкі асноўных пытаньняў мясцовага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. У працы краязнаўчых організацый асабліва зацікаўлены Інспэктарыяты Народнай Асьветы. Краязнаўства зьяўляецца адным з мэтодаў культурна-асьветнай працы сярод шырокіх работніцка-сялянскіх мас. Праца ў краязнаўчых організацыях падвышае іх культурны ўзровень і выкоўвае з іх сьвядомых удзельнікаў краябудаўніцтва; таксама вельмі важнае значэньне краязнаўства як мэтоду пэдагогічнай працы: настаўнікі, працуючыя ў краязнаўчых таварыствах, самі ўзвышаюць сваю кваліфікацыю і здабываюць краязнаўчы матар'ял, так патрэбны для навучальных заняткаў у школе, праз настаўніка ўцягваюцца ў краязнаўчую працу і вучні, якія з малых год набываюць навыкі да нагляданьня і вывучэньня прыродных зьяў і скрыстаньня іх для патрэб чалавека.

Не адзін раз пастановы акруговых раённых выканаўчых камітэтаў зварочвалі ўвагу на канечную патрэбу пашырэньня і паглыбленьня краязнаўчай працы на мясцох, а таксама на скарыстаньне краязнаўчай працы ў справе будаўніцтва краю, але да сяго часу некаторыя інспэктарыяты і мясцовыя профорганізацыі саюзу асьветнікаў мала зважалі на краязнаўства і на скарыстаньне яго як мэтоду пэдагогічнай і асьветнай працы.

Народны Камісарыят Асьветы і Цэнтральнае Праўленьне Саюзу Працаўнікоў асьветы лічаць неабходным значна ўзмацніць увагу Інспэктарыятаў Народнай Асьветы і Мясцовых Камітэтаў Саюзу Працаўнікоў Асьветы, а таксама ўсіх асьветнікаў да краязнаўства, для чаго рэкомэндуюць працаўнікам народнай асьветы прымаць непасрэдны ўдзел у краязнаўчых організацыях, пропагандаваць ідэю краязнаўства і асьвятляць яго задачы ў партыйных, савецкіх, профэсыянальных і грамадзкіх колах і пэрыодычным друку; інспэктары народнай асьветы павінны прымаць актыўны ўдзел у працы праўленьняў краязнаўчых організацый; неабходна таксама дапамагаць пашырэньню сеткі краязнаўчых організацый і падтрымліваць іх матар'яльна, кіраўнікі мясцовых краязнаўчых організацый, абраныя агульнымі сходамі іх, павінны не нагружацца іншаю грамадзкаю працаю, ня ўлічваючы правядзеньня гаспадарчых і політычных кампаній і г. д. Працаўнікі інспэктарыятаў народнай асьветы і асьветнікі наогул павінны ўсвоіць значэньне краязнаўства і зрабіць яго запраўдным масавым рухам для дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву.

Народны Камісар Асьветы А. Баліцкі.

Адказны сакратар Праўленьня Саюзу Працаўнікоў Асьветы М. Мацюкевіч.

Старшыня Цэнтральнага Бюро Краязнаўства А. Казак.

Г. Менск, 14 лістапада 1928 г.

## Усім краязнаўчым організацыям.

Надзвычайна важнаю чарговаю задачаю гаспадарчага будаўніцтва зьяўляецца падвышэньне ўраджайнасьці. Галоўнаю-ж адзнакаю нашага краязнаўчага руху зьяўляецца дапамога мясцоваму соцыялістычнаму будаўніцтву практычнымі вывадамі з вывучэньня свайго краю. Таму і ў даным выпадку, калі ўся савецкая грамадзкасьць напружана змагаецца за падвышэньне ўраджайнасьці, мясцовыя краязнаўцы не павінны заставацца ўбаку ад агульнай чыннасьці ў гэтым кі-

рунку і праўленьні таварыстваў краязнаўства абавязаны організаваць іх працу.

Кожная краязнаўчая організацыя павінна паклапаціцца: а) высьвятленьнем сучаснай ураджайнасьці ў сваёй акрузе, або раёне; б) вызначэньнем мясцовых прычын яе нізкага ўзроўню, што датыча розных культур і в) вылучэньнем катэгорыі культур найбольш ураджайных ва ўмовах данай мясцовасьці.

Усё гэта дазволіць вызначыць конкрэтныя магчымасьці падвышэньня ўраджайнасьці і папулярызаваць апошнія сярод усяго насяленьня для хутчэйшага ажыцьцяўленьня іх.

Пакуль будзе адбывацца само вывучэньне неабходна папулярызаваць уласна ідэю падвышэньня ўраджайнасьці, тым больш, што гэта організуе адпаведную грамадзкую думку навокал справы вывучэньня і створыць спрыяючыя ўмовы для яго.

Папулярызацыйная праца можа адбывацца як дакладамі і паведамленьнямі, так і зьмяшчэньнем адпаведных матар'ялаў у насьценных газэтах, ды пасылкаю інформацый аб ходзе працы ў акруговыя і цэнтральныя газэты. Адначасна вельмі карысна даць адпаведныя матар'ялы для плякатаў і дыяграм у хаты-чытальні і народныя дамы, праца якіх мае асаблівую моц, калі пабудавана на мясцовым матар'яле.

Праўленьні таварыстваў краязнаўства павінны прыцягнуць аграномаў і іншых сельска-гаспадарчых працаўнікоў акругі для дапамогі сабе ў справе організаваньня ўсёй данай працы.

Старшыня ЦБК А. Казак.

Навуковы Сакратар Касьпяровіч.

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 30-11—1928 г.

Разгледжана пытаньне аб кандыдатах у члены - корэспондэнты ЦБК. Прынята пастанова вылучыць па розных акругах БССР цэлы шэраг асоб у ліку 21 чалавека, у якіх запрасіць згоду і адказы аб кандыдатах і ўнесьці на зацьверджаньне конфэрэнцыі. Заслухан даклад т. Жураўскага аб краязнаўчай справе ў Бабруйшчыне. Пастанавілі адзначыць, што краязнаўчая справа ў акрузе апрача Клічаўскага, Слуцкага і Рагачэўскага раёнаў, за апошні час заняпала, як і ў самым акруговым таварыстве, а калі і вядзецца ў некаторых т-вах, як Асіпавіцкім, то толькі адзінкамі. Прапанаваць Бабруйскаму акруговаму т-ву прыняць неабходныя крокі для ажыўленьня дзейнасьці самога акруговага т-ва краязнаўства. Лічыць патрэбным запрасіць прадстаўніка на ўсе дні працы другой Усебел. Краязнаўчай Конфэрэнцыі. Інформацыю т. Жураўскага надрукаваць у „Нашым Краі". Разгледжан плян 12-га нумара „Нашага Краю" за 1928 г. і зацьверджан яго зьмест.

### Пасяджэньне 7-12—за 1928 г.

Заслухан даклад т. Бядулі аб выкананьні пляну выдаваньня часоп. „Наш Край" у 1928 г. і меркаваньнях аб гэтым на 1929 г. Ухвалілі адзначыць, што аддзел артыкулаў і програм запаўняўся ў часопісе неплянова, а аддзел бібліографіі быў пастаўлены вельмі слаба. Даручыць т. Бядулі ўкласьці плян і зьвярнуцца да супрацоўнікаў часопісу з просьбаю вызначаць тэмы і іх памер, якія могуць быць паданы імі ў часопіс у 1929 г. Даручыць т.т. Самцэвічу і Жураўскаму ўкласьці сьпіс програм і рэфэрацыйных аглядаў мэтодычнай літаратуры з галіны вывучэньня прыроды і гаспадаркі, а т.т. Касьпяровічу і Шашалевічу—тое-ж з галіны культурна-гістарычнай. Даручыць рэдкалегіі часопісу ў тыднёвы тэрмін укласьці плян выданьня часопісу на 1929 г. Заслухан даклад т. Азбукіна аб укладаньні географічнай картатэкі. Пастаноўлена прыняць да ведама і раіць краязнаўчым організацыям пасіліць працу ўкладаньня раённых географічных слоўнікаў і прасіць катэдру географіі выдаць географічны слоўнік Мазыршчыны, які зможа служыць узорам для працы краязнаўцаў у іншых месцах Беларусі; прасіць Катэдру Географіі ўкласьці для зьмяшчэньня ў „Нашым Краі" мэтодычны артыкул аб укладаньні раённых географічных слоўнікаў. Пастанавілі распачаць укладаньне картатэкі турыстычных і экскурсыйных об'ектаў БССР, падлік об'ектаў правесьці сіламі краязнаўчых організацый, а апрацоўку—сіламі ЦБК; вынікі падліку друкаваць у „Нашым Краі", даручыць т. Касьпяровічу апрацаваць картку для надрукаваньня ў ліку 2000 экз.

### Пасяджэньне 21-12 1928 г.

Быў заслухан плян часоп. „Наш. Край" на 1929 г. Пастанавілі на працягу 1929 году ў агульным аддзеле часопісу зьмясьціць: 1) з гісторыі краязнаўства на Беларусі—1 арт.; 2) краязнаўчая праца дарэволюцыйнага друку на Беларусі—1 арт.; 3) краязнаўчыя організацыі і дзяржплянавыя органы ў справе вывучэньня краю; 4) краязнаўства ў б. Расіі і РСФСР; 5) краязнаўства ў УССР; 6) краязнаўства і паляўніцтва; 7) пра біоклімат; 8) роля колектыўных форм у гаспадарцы краю; 9) рэв. рух на Беларусі (1863-1920); у аддзеле мэтодыкі краязнаўчай працы: 1) экскурсаваньне; 2) бібліографаваньне; 3) выдавецкая праца краязнаўчых організацый і ўдзел іх у друку; 4) будаваньне музэю; 5) фотографаваньне; 6) як праводзіць краязнаўчую працу ў масавай школе; 7) вывучэньне балота; 8) укладаньне раённага географічнага атласу; 9) програма монографічнага апісаньня вёскі; 10) програма вывучэньня колектыўных форм гаспадаркі; 11) програма вывучэньня мясцовай прамысловасьці; 12) вывучэньне народнай пэдагогікі; 13) вывучэньне раённай літаратуры; 14) вывучэньне мясцовага тэатру; 15) програма зьбіраньня матар'ялу аб узаемаўплывах яўрэйскай і бе-

ларускай культур; у аддзеле з месц: 1) зьмяшчаць маршруты экскурсій; і працы мясцовых краязнаўцаў; у аддзеле бібліографіі: 1) зьмяшчаць бібліографію паасобных акруг; 2) даваць рэцэнзыі на ўсе краязнаўчыя выданьні ў БССР, некаторыя РСФСР і УССР і на некаторыя выданьні БАН; 3) даваць агляды мэтодычна-краязнаўчай літаратуры; 4) даручыць т. Бядулю заказаць артыкулы на азначаныя тэмы.

**Пасяджэньне 4-1 1929 г.**

Пасяджэньне было прысьвечана прагляду тэзісаў дакладаў т.т. Казака і Касьпяровіча на ўсебеларускай краязнаўчай конфэрэнцыі.

**Пасяджэньне 17-1.**

Разглядалася організацыйнае пытаньне. Быў абраны старшынёю ЦБК т. Казак і навуковым сакратаром т. Касьпяровіч. Пастаноўлена склікаць пасяджэньне прэзыдыуму ЦБК раз у два тыдні аўторкамі. Зацьверджаны плян пасяджэньняў прэзыдыуму ЦБК. Зацьверджаны зьмест зборніку програм і інструкцый. Пастаноўлена закупіць 150 экз.. брошуры „Краязнаўства“ для раённых т-ваў краязнаўства і гурткоў краязнаўства.

**Пасяджэньне 31-1.**

Зацьверджаны зьмест № 2 „Нашага Краю“. Быў заслуханы даклад т. Касьпяровіча аб програме ўкладаньня раённага географічнага слоўніка ўкладзенай т. Крукоўскім. Пастаноўлена зьмясьціць програму ў зборнік програм і інструкцый, які выдае ЦБК. Пастаноўлена прыняць удзел у ўсеукраінскай экскурсыйна-турыстычнай выстаўцы. Пастаноўлена камандыроваць т. Жураўскага ў Аршанскую акругу і т. Шашалевіча—у Мазырскую. На Заслаўскую раённую конфэрэнцыю камандыраваць т. Жураўскага.

**Пасяджэньне 12-2.**

Быў заслуханы даклад т. Вінаградава аб курсах краязнаўства пры Б. Дз. У. Пастаноўлена прызнаць організацыю курсаў вельмі патрэбнай і своечасовай; проект програмы зацьвердзіць; ад ЦБК вылучыць прадстаўніком у прэзыдыум курсаў т. Жураўскага; каштарыс на 65 р. зацьвердзіць. ЦБК вылучыць з сваіх сродкаў 35 руб. на выдаткі па курсах; лічыць карысным перад адчыненьнем курсаў склікаць нараду прадстаўнікоў краязнаўчых організацый Менску для абмеркаваньня пытаньняў аб курсах; раіць Менскаму Акруговаму т-ву Краязнаўства прыняць актыўны ўдзел у справе організацыі курсаў, вылучыўшы і адпаведныя сродкі на іх. Заслуханы даклад т. Жураўскага аб выніках і пэрспэктывах фэнолёгічных нагляданьняў у БССР. Пастаноўлена паслаць т. Сьмірнову фэнолёгічнае абагульненьне фэнназіраньняў за 1928 г. і прасіць яго даць артыкул у „Наш Край“. Працу камісіі фэнол.назіраньняў працягваць далей у вызначаным камісіяй кірунку. Тав. Касьпяровіч прачытаў проект ліста ўсім раённым т-вам краязнаўства аб удзеле ў кампаніі падвышэньня ўраджайнасьці. Пастаноўлена гэты ліст зацьвердзіць і паслаць яго краязнаўчым т-вам адначасна з тэзісамі агранома Сьцяпуры. Заслуханы даклад т. Жураўскага аб падліку краязнаўцаў 1927 г. Пастаноўлена адзначыць, што матар'ялы падліку 1927 г. няпоўныя і не дазваляюць рабіць правільныя абагульненьні па ўсёй БССР і прызнаць матар'ялы вельмі каштоўнымі і захаваць іх для даведак у ЦБК; зьмясьціць аб іх інформацыю ў „Нашым Краі“. Заслуханы даклад т. Касьпяровіча аб пашырэньні краязнаўства сярод комсамольцаў і моладзі наогул. Пастаноўлена: I. Адзначыць, што краязнаўчая праца: а) як паказала практыка зьяўляецца неабходнай для комсамольцаў і гарадзкой і вясковай моладзі наогул; б) далучае моладзь да культурна-навуковага будаўніцтва і в) зьяўляецца адным з галоўных сродкаў у справе падрыхтоўкі сьвядомых будаўнікоў жыцьця на соцыялістычных падставах. II. Констатаваць, што пачынаньні комсамольцаў у краязнаўчай працы: а) часта былі вельмі ўдалымі, але выпадковымі; б) ня мелі належнага організацыйнага падтрыманьня як з боку ЦК ЛКСМБ, так і з боку ЦБК і мясцовых краязнаўчых організацый і в) ня мелі інструкцыйных і дапаможных матар'ялаў наогул; III. У мэтах зьліквідаваньня адзначаных недахопаў і належнага організаваньня справы прасіць ЦК ЛКСМБ: а) зьвярнуць асаблівую ўвагу на значэньне пашырэньня краязнаўчай працы комсамольцаў з вышэйпаданых меркаваньняў, а таксама зважаючы на тое, што гэтая праца для многіх зьявіцца вышэйшым культурным адпачынкам у вольны час; б) даручыць „Чырвонай Зьмене“ популярызаваць краязнаўства сярод комсамольцаў і моладзі зьмяшчэньнем адпаведных мэтодычных артыкулаў і пэўных заданьняў у газэце і выдаць для моладзі падручнік мэтодыкі і тэхнікі краязнаўчай працы моладзі ды памятку комсамольцу-краязнаўцу і в) даць дырэктыву мясцовым комсамольскім організацыям аб пашырэньні краязнаўчай працы комсамольцаў і, пад іх кіраўніцтвам, усёй моладзі наогул, а таксама організаваць мэтодычна-краязнаўчую конфэрэнцыю комсамольцаў і піонэр-організатараў Менску; IV. З свайго боку: а) зьвярнуцца да ўсіх краязнаўчых організацый з заклікам асаблівую ўвагу зьвярнуць на стварэньне спрыяючых умоў для краязнаўчай працы моладзі; б) у часопісу „Наш Край“ популярызаваць пытаньні краязнаўчай працы моладзі і прыватна падрабязна апісаць практыку такой у адным з раёнаў і в) забясьпечыць „Чырвоную Зьмену“ мэтодычнымі матар'ялам аб краязнаўчай працы моладзі, для абмеркаваньня пытаньняў зьместу і памеру якіх склікаць камісію ў складзе т.т. Касьпяровіча, Гершмана, прадстаўніка ад выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ і прадстаўніка ад рэдакцыі газэты „Чырвоная Зьмена“; V. Прасіць ЦК ЛКСМБ заслу-

хаць даклад тав. Казака і садаклад тав. Гершмана аб стане краязнаўства і краязнаўчай працы моладзі.

## Што атрымала ЦБК і рэдакцыя час. „Наш Край" у сьнежні-студзені м-цах 1928-29 г. г.

Ад краязнаўчага гуртка *Рагачэўскага пэдтэхнікуму*—314 слоў-картак жывой мовы.

Ад гр.-на *П. Котава* (м. Езарышча) 250 картак-слоў жывой мовы Езарышч. р.

*Ад Слуцкага раённага т-ва краязнаўства*—600 картак-слоў, сабраных вучнёўскімі гурткамі.

Ад гр. *Палікарповіча* (в. Кароўчына, Лупалаўск. р.)—21 карт-слоў жывой мовы.

Ад гр. *Юр'ева*(в. Дуброўка—Лупалаўск. р.) 57 картак-слоў жывой мовы.

Ад *Ветрынскага таварыства краязнаўства*—90 картак-слоў.

Ад гр. гр. *Я. Нарбута*, *В. Вашкаўца*, *В. Трэціма* (Талач. р.), *Н. Навіцкай*, *К. Хайноўскага* (Гарад. р.), *П. Шляхты*, (в. Міхалкі, Мазырск. акр.), *І. Краўчанкі*—(Нараўлянск. р.)—запоўненыя програмы асаблівасьцяй гаворак.

Ад *С. Пухоўскага* (Буда-Кашал. р.) запісі народных казак на 10 стар.

Ад *Чэрвенскага раён. т-ва краязнаўства* ў 25 сшытках: песень—140, казак—10, прыпевак—480, прыказак—56, прымет—53 і інш.

Ад *М. Лухверчыка*—апавяданьні аб паўстаньні.

Ад *Цешкаўскага краязнаўчага гуртка* (Пухав. р.)—прыказак 251.

Ад *А. Казлоўскага* (Астраш. Гар. р.) песень—13.

Ад *В. Самцэвіча* (Барыс. р.)—песень—14, благаславенстваў—2, казак—3, прыпевак—145.

Ад *Краязнаўчага гуртка Талачынскай 7-мігодкі* — песень—406, прыпевак—90, казак—12.

Ад *Брагінскага раённага т-ва краязнаўства*—песень—8.

Ад *С. Пратасені* (Староб. р.)—песень—8.

Ад *Слуцкага раённага т-ва краязнаўства* — сьпіс паселішч Слуцкага р. з адзначэньнем мясцовых націскаў у назвах.

Ад *В. Пракаповіча* (Коханава) арт. „Краязнаўчы запіс аб Коханаўскім раёне".

Ад *Слуцкага т-ва краязнаўства* (Р. Пацэвіч, У. Мікіцінскі і П. Ажэўскі) арт. „Краязнаўчы рух на Случчыне" і „Дванаццаць дзён краязнаўчага вандраваньня" з 10 фотогр. і 12 малюнкамі.

Ад *Т. Кулакова* (Азарычы) арт. „Нарыс эканомічнага стану Азарыцкага раёну".

Ад *М. Гохфельд* (Мазыр) арт. „Разьвядзеньне шаўкапрадаў на Мазыршчыне" і „Праца па вывучэньні Мазыршчыны".

Ад *А. Мікалаева* (Гомель) артыкул „Гомельскі Дзяржаўны Культурна-Гістарычны Музэй".

Ад *У. Даўгатова* (г. Белы, Смал. губ. арт. „Аб фэнолёгічных і мэтэоролёгічных наглядальньнях у Бельскім т-ве краязнаўства".

Ад *В. Г. Красьнянскага* (Віцебск) артыкул „Стары Віцебск.--Гістарычна-этнографічны і бытавы нарыс".

Ад *Ул. Падарэўскага* (Масква) артык. „Праца краязнаўчых організацый у кальцаваньні птушак".

Ад *І. Мірскога* (Магілеў) арт. „Матарялы да вывучэньня рабоча-сялянск. руху на Магілеўшчыне ў 1903—1910 г."

Ад *К. Гурвіча* (Менск) арт. „Беларуская Краязнаўчая літаратура".

Ад *Шапіры* (Слуцак) арт. „Жыльлёвае становішча г. Слуцку".

Ад гр. *Сваяка* (Слуцак) арт. „Расьцем, узмацняемся".

Ад *П. Кацярыніча* (Слуцак) арт. „Белапольская окупацыя ў Слуцку".

Ад *К. Касьцюка* (Случчына) арт. „Юбілейныя даты і Случчына".

Ад гр. *Жываглота* (Слуцак) артыкул „Стан сельскай гаспадаркі ў Слуцкім раёне".

Ад *П. Ажэўскага* (Слуцак) арт. „Прыгожыя куткі ў Слуцкім раёне".

Ад *Р. Пяцэвіча* (Слуцак) арт. „Дзесяцігодзьдзе краязнаўчага руху на Случчыне".

Ад *У. Мікіцінскага* (Слуцак) арт. Помнікі старой культуры на Случчыне" і „Слуцкі краёвы музэй".

Ад *І. Крыцкага* (Слуцак) арт. „Будаўніцтва калгасаў".

Ад *І. Карандзея* (Полацак) арт. „Матар'ялы да вывучэньня помнікаў старасьветчыны на Полаччыне".

Ад *Марыновіча* (Віцебск. р.) арт. „Орнітолёгічныя экскурсіі па раёнах Віцебскім, Межанскім і Сураскім".

Ад *Хв. Шынклера* (Асіпавічы) арт. „Наш раён—часопіс краязн. гуртка Асіпав. чыгун. 7-сямігодкі".

Ад *А. Гарбача* (Менск) арт. „Рысы старога быту ў жыцьці беларускіх сялянак".

Ад *Т. Шыбко* (Узда) арт. „Задачы культурнай рэволюцыі — задачы краязнаўчай працы".

Ад *Ів. Сяржаніна* (м. Любань) арт. „Да знаходкі савы-сіпухі ў нашым краі".

Ад *К. Гурвіча* (Менск) артык. „Беларуская народная мэдыцына".

Ад *С. Баркоўскага* (Менск) арт. „Аб краязнаўстве ў дзіцячым малюнку".

Ад *І. Даўгашова* (г. Белы, Смал. г.) арт. „Бельскае т-ва краязнаўства за 5 гадоў".

Ад *М. Касьпяровіча* (Менск) арт. 1) „Віленскі музэй" 2) „Куды і як вадзіць экскурсіі ў Менску і Віцебску" і 3) „Ліквідацыя краязнаўчай няпісьменнасьці".

Ад *М. Валасэвіча* (Менск) арт. „Па родных абшарах"—Апісаньне вучнёўскай краязнаўчай экскурсіі.

Ад *Д. М. Васілеўскага* (Орша) арт. „Тарас на Парнасе"—у краязнаўчым асьвятленьні.

Ад *Л. М. Балкавец* (Менск) арт. „Каротакі нарыс расьліннасьці Баншараўшчыны“.

Ад *В. Міхайлоўскай* і В. Зьверавай (Менск) арт. „Да веснавой флёры Лошыцы“.

Ад *У. Ўладзімірава* (Барысаў) арт. „Рачны рак“.

Ад *В. Самцэвіча* (Менск) арт. „Літаратура для вывучэньня гор. Барысава і Барысаўскага р.“.

Ад *І. Шпілеўскага і Л. Бабровіча* (Менск) арт. „Сучасны стан Койданаўскага Замку“.

Ад *М. А. Войтка* (Менск) арт. „Калядная нядзеля“ — (бытавы нарыс в. Мглё, Смал. р.).

## Краязнаўчы гурток пры Менскім Белпэдтэхнікуме.

Праца краязнаўчых організацый пры навучальных установах сама-па-сабе мае двацісты характар: гэта тэорытычная падрыхтоўка, якую мы маем на працягу навучальнага году, і краязнаўчая праца на вакацыях, калі студэнцтва едзе на сваю радзіму і робіць першыя практычныя, праўда незаўсёды сьмелыя, крокі.

Гурток пры Менскім Белпэдтэхнікуме мае ўжо вядомы стаж. У сёлетнім навуч. годзе праца яго распачалася пры 60 сяброх. З гэтага ліку 28% хлапцоў і 72% дзяўчат (у тэхнікуме дзяўчат-студэнтак 63%). Палову сяброў гуртка складаюць студэнты III курсу.

На працягу першага паўгодзьдзя 1928-29 нав. году адбылося 6 агульных сходаў гуртка і 2 пасяджэньні праўленьня, якое складаецца з 5-ці сяброў.

Праца за гэты час насіла пераважна мэтодычны характар. Былі прачытаны наступныя даклады: „Географічныя нагляданьні ў краязнаўчай працы“—Азбукіна, „Краязнаўства за межамі“—М. Касьпяровіча, „Гістарычнае вывучэньне краю“—С. Ліхадзіеўскага (студэнт тэхнікуму) і інструкцыйны даклад аб працы на будучых зімовых вакацыях.

Уся праца працякала пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве працаўнікоў ЦБК т. т. Жураўскага, Шашалевіча, Касьпяровіча, Азбукіна і інш.

У пачатку году высоўвалася пытаньне аб падзеле на сэкцыі, але гурток пераважнаю большасьцю гэта адхіліў, грунтуючыся на тым, што ў нашых умовах спэцыялізавацца ў тэй ці іншай галіне эшчэ рана, што настаўнік павінен быць у краязнаўстве некаторым унівэрсалам. І запраўды, падзел на сэкцыі пры нязусім значным ліку сяброў не мэтазгодзен.

У мэтах больш сталае падрыхтоўкі і набыцьця практычных навыкаў гуртком мяркуецца выданьне пэрыодычнага краязнаўчага часопісу (тэхнікумаўскага маштабу). Часопіс і павінен будзе выхаваць і выпрацаваць у студэнтаў-краязнаўцаў самастойнасьць у працы, зьмясьціўшы першыя практычныя вопыты. Выданьне часопісу выклікаецца часам: сябры гуртка ўжо больш-менш выраслі, і іх ня можа здаволіць адно пасыўнае запісваньне народнае творчасьці ці што іншае.

З масы маладых краязнаўцаў гурток вылучыў больш актыўных і жадаючых атрымаць мэтодычную падрыхтоўку, якія і будуць працаваць пад кіраўніцтвам ЦБК.

За пройдзены-ж час была праведзена экскурсія ў Зоолёгічны Музэй Беларускай Акадэміі Навук.

Апрача гэтага пры гуртку мяркуецца організацыя фото-аддзяленьня; фото-здымкі ў краязнаўстве іграюць вялікую ролю.

С. Ліхадзіеўскі.

## Школьная краязнаўчая праца ў Чэрвеншчыне на Меншчыне.

Яшчэ ня так даўно організаваўся краязнаўчы гурток пры Чэрвенскай беларускай сямігодцы, а ўжо разгорнута вялікая праца пад кіраўніцтвам двох прадстаўнікоў ад Раённага таварыства краязнаўства: т. Г. У. Катлінскага і У. М. Дземяшкевіча. Гурток мае сваёй мэтай усебаковае вывучэньне Чэрвеншчыны як у яе мінулым (гістарычныя ўспаміны, курганы і д. т. п.), так і ў цяперашнім (нагляданьне над пагодай, апісаньне культурнага стану вёсак і інш). У сучасны момант гурток складаецца з 104 асоб, якія вельмі зацікавіліся працай і ўзяліся выконваць краязнаўчыя заданьні адпаведна сваім жаданьням і нахілу. Такі спосаб краязнаўчай працы, як відаць з практыкі мінулых год, зьяўляецца найлепшым, бо той ці іншы вучань, калі ён узяў для выкананьня якое-небудзь заданьне, то напэўна яго выканае.

Найбольшы лік вучняў запісаўся зьбіраць фольклёр. Іншыя ўзяліся пісаць успаміны з часоў паншчыны, паўстаньня 1863 г. і інш.

Гурток ужо атрымаў цікавыя весткі аб тым, што ў Хутарскім сельсавеце знаходзіцца многа старасьвецкіх курганаў. Старыя людзі гавораць, што ў сорак першым кургане знаходзіцца воз золата; бяда толькі, што ня ведаюць з якога пачаць лічыць...

Агульны сход гуртка пастанавіў вясной пайсьці краязнаўчай экскурсіяй па раёне, каб бліжэй пазнаёміцца з ім.

Гурток мае некалькі членаў-мастакоў, якія ўзяліся зарысоўваць мясцовасьці.

На апошнім сходзе гуртка было выраашана пытаньне аб скліканьні першай вучнёўскай краязнаўчай конфэрэнцыі, дзеля ажыўленьня краязнаўчай працы сярод маладога пакаленьня, якое хоць ня мае сталай навуковай падрыхтоўкі, але ўсё-ж зможа даць багатыя краязнаўчыя матар'ялы, карыстаючыся добрым кіраўніцтвам. Гэта першая вучнёўская краязнаўчая конфэрэнцыя адбылася ў Чэрвені 9 сьнежня 1928 году. Яна мела вялікае значэньне ў справе пад'ёму краязнаўчай працы ва ўсім раёне. Конфэрэнцыя дала штуршок да заснаваньня шмат якіх новых краязнаўчых гурткоў, якія пры адпа-

ведным кіраўніцтве таксама змогуць даць цікавыя краязнаўчыя матар'ялы. Тады-ж адчыніўся Раённы краязнаўчы музэй. Конфэрэнцыя праходзіла вельмі жыва пры актыўным удзеле дэлегатаў.

З вёсак раёну прысутнічала 57 прадстаўнікоў. Першым абмяркоўваўся даклад на тэму „Вучань і краязнаўства" т. Дземяшкевіча. Ён добра высьветліў сутнасьць краязнаўства, яго значэньне, а таксама вельмі дакладна расказаў аб тым, што вучні могуць зрабіць у справе пазнаньня свайго раёну. Пасьля дакладу ў спрэчках выказалася некалькі вучняў і настаўнікаў. Конфэрэнцыя скончыла сваю працу аглядам Раённага краязнаўчага музэю.

Фактычна чэрвенскі музэй пакуль што зьяўляецца толькі зародкам будучага вялікага музэю, які вырасьце ў выніку нашай працы.

Абсталяваньне яго ішло без ніякіх інструмэнтаў, як кіраўнікам Дземяшкевічам, так і праўленьнем краязнаўчага гуртка пры першай чэрвенскай беларускай сямігодцы. Ня гледзячы на ўсе цяжкасьці і перашкоды, гэты першапачатковы збор краязнаўчых матар'ялаў мае шмат цікавага: дзьве мамантавыя косьці, гістарычна-рэволюцыйныя докумэнты і асабліва багаты аддзел старадаўніх грошай, які складаецца больш чым з 300 медных і срэбных монэт. Музэй упрыгожвае некалькі чучал зьвяроў, якія калісьці жылі ў лясох нашага раёну.

Трэба адзначыць, што частку краязнаўчых матар'ялаў: пасьцілкі, паясы і інш. далі вучні, якія прышлі на конфэрэнцыю. З Замастоцкай школы быў прадстаўлены сшытак з падрабязным апісаньнем вёскі Замасточы. Усё гэта служыць довадам таго, што краязнаўчая праца і дагэтуль вялася, а першая вучнёўская раённая краязнаўчая конфэрэнцыя толькі дала магутны штуршок да далейшага разьвіцьця гэтай важнай справы.

Такім чынам краязнаўчая праца Чэрвеншчыны ўсё шырыцца і шырыцца. Можна чакаць ад яе вялікай дапамогі ў навуковым дасьледваньні нашай роднай старонкі.

Іван Касьпяровіч.

## Праца Горацкага Раённага Таварыства Краязнаўства ў 1928 годзе.

У 1928 годзе Таварыства мела 8 агульных сходаў і 3 пасяджэньні праўленьня. На агульных сходах падвадзіліся падагульненьні працы актывістых у іх дакладах. Гэтыя даклады галоўным чынам закраналі пытаньні сучаснасьці і савецкага будаўніцтва. 1) *Ліцяга* далажыў аб цукровай прамысловасьці ў БССР. Паводле гістарычных даных відаць, што яшчэ ў царскія часы на абшарах Беларусі і ў прыватнасьці ў Горацкім павеце былі пастаўлены спробы з культурай цукровых буракоў. У запісках Ленінградзкага Тэхнолёгічнага Інстытуту ёсьць на гэтую тэму артыкул Іваноўскага. Цяпер па думцы профэсараў Беларускай С.-Г. Акадэміі Шкацелава і Ключарова трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на цукровае пытаньне на Беларусі таму, што продукцыя цурку з Беларускіх буракоў, лічыцца ня меншай і нягоршай, як з украінскіх. 2) *Гуржы* ў сваім дакладзе „Садавіны і ягады Горацкага раёну як матар'ялы для вінаробства" праводзіў тую думку, што выраб безалькогольнага піва, ці малаалькогольнага, зьяўляецца да пэўнай меры барацьбой з п'янкай. Ён падрабязна азнаёміў сход з асаблівасьцямі розных садавін і ягад, а таксама з пробнымі вінамі, якія рыхтуюцца ў асобнай лябораторыі пры акадэміі, дзе прымае ўдзел ў працы сам дакладчык. 3) *Савельеў* высьвятліў практычна цікавае пытаньне ў сваім дакладзе „Крытычная вільгаць ў жыцьці культурных расьлін на розных тыпах глеб Горацкага раёну". 4) Проф. *Васількоў* у сваім дакладзе паказаў склад 84 атрутных расьлін Горацкага раёну. Веды аб такіх расьлінах маюць вялікае практычнае значэньне, з аднаго боку таму, што сярод гэтых расьлін ёсьць каштоўныя лекавыя, а з другога боку—сярод іх знаходзяцца шкадлівыя для хатняй жывёлы. 5) *Дзянісаў* апісаў мхі Чапялінскага балота Горацкага раёну. На сходзе ён паказваў розныя мхі, тлумачыў іх ролю ў жыцьці балота і таксама высьветляў шляхі, пахаджэньня балота. Гэтае пытаньне мае практычнае значэньне ў сувязі з правільным высьвятленьнем тарпяной справы. 6) *Шымкевіч* растлумачыў сучаснае становішча вэтэрынарнай справы ў Горацкім раёне. 7) Проф. *Салаўёў* далажыў аб сваіх працах па вывучэньні мясцовых рачкоў. 8) У сваім дакладзе *Ратноўскі* даў вынікі нівэліроўкі сажалкі пры акадэміі, якую з біолёгічнага пункту погляду вывучае проф. Салаўеў (цэркарыі) і Навіцкая (калаўраткі). 9) *Цытовіч*, адзін гісторык у т-ве, зрабіў даклаў аб падзеях, якія мелі месца ў Горках і павеце напярэдадні 1863 году. 10) Проф. *Лунгэрсгаўзен* паведаміў аб сваіх уражаньнях пасьля сваёй паездкі ў Нямеччыну. 11) Проф. *Салаўёў* паведаміў аб тым, які ўдзел прымалі Горкі ва Ўсесаюзным Гідролёгічным Зьезьдзе, які адбыўся вясною.

На вялікі жаль, ня выканаў дагэтуль сваёй працы д-р *Рысін*. Ён яшчэ 28 студзеня даў згоду на распрацоўку даручанай яму т-вам тэмы—„Санітарнае становішча вёскі Горацкага раёну". Але вялікая нагрузка не дала яму магчымасьці, нават падыйсьці да гэтай працы. Таксама яшчэ ня скончана досыць цікавая праца члена т-ва *Разенгаўза*, які займаецца навуковым аналізам злачыннасьці ў раёне.

У справе пашырэньня краязнаўчай працы ў 1928 годзе т-ва зрабіла наступнае:

Проф. *Салаўёў* рабіў даклады аб сутнасьці краязнаўчай працы наогул, а таксама аб умовах працы Горацкага таварыства прэ-

зыдыуму Горацкага Райвыканкому (11 лютага), агульнаму сходу студэнтаў Горацкага Рабфаку (6 сакавіка), паляўнічаму гуртку пры Беларускай с.-г. акадэміі (10 красавіка). Ён-жа ў пачатку году зьмесьціў у насьценнай акадэмічнай газэце артыкул—„Тры гады працы Горацкага раённага таварыства краязнаўства“, а вясной распаўсюдзіў друкаваную адозву „Да моладзі раёну“ з заклікам да аховы птушак.

Ён-жа прымаў удзел на розных краязнаўчых конфэрэнцыях (Ворша, Магілеў і інш., дзе выступаў з дакладамі на краязнаўчыя тэмы.

Проф. *Люнгэрсгаўзен* прачытаў лекцыю (24 сакавіка) удзельнікам Горацкой раённай настаўніцкай конфэрэнцыі аб геолёгіі раёну. Ён-жа надрукаваў у VI томе „Запісак с.-г. акадэміі артыкул—„Нарыс дзейнасьці Навуковага Т-ва за 1925—27 годы“. Проф. *Васількоў* (7 красавіка інструктаваў кіраўнікоў дзіцячымі с.-г. клюбамі аб фэно-батанічных назіраньнях. Ён-жа надрукаваў у VII томе „Запісак с.-г. акадэміі“—„Пералік насеньня, якое прапануецца да абмену батанічным садам Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі с.-г.“ (1230 назваў). *Фэдарака* прадставіў т-ву працу пад назваю: „Вынікі фаўністычнай экскурсіі на поўдзень Бельскага павету Смал. губ.“ На пасяджэньні паляўнічага гуртку пры с.-г. акадэміі 10 красавіка ён зрабіў даклад аб мясцовых паляўнічых зьвярох і птушках, а таксама 5 сакавіка зрабіў даклад на пасяджэньні Культкамісіі профкому акадэміі аб уцягненьні студэнцтва ў краязнаўчую працу. *Ратноўскі* наладзіў сувязь паміж Т-вам і фотогуртком пры с.-г. акадэміі, які даў 10 здымкаў для краязнаўчай выстаўкі ў Менску. *Сьвірскі* даставіў фэнолёгічныя назіраньні. *Сраговіч і Ратноўскі* ад імя т-ва ўдзельнічалі на Горацкай раённай настаўніцкой конфэрэнцыі. *Кавалёў* у № 10 „Нашага Краю“ надрукаваў артыкул „Маргель і іншыя карысныя выкапні“. *Савельеў* надрукаваў у „Запісках с.-г. акадэміі“ артыкулы—„Кароткі нарыс якасьці насеньня некаторых расьлін Горацкага раёну“ (т. VI) і „Крытычная вільготнасьць у жыцьці культурных расьлін на розных глебавых тыпах у Беларусі“.

Таварыства атрымала для будучага музэю колекцыю 110 птушыных яек. Яно выпісвала часопісы „Наш Край“ і „Краеведение“ і інш. Лік членаў т-ва звыш ста. Праўленьне т-ва мае наступны склад: старшыня—проф. *Салаўёў*, намесьнік старшыні—проф. *Люнгэрсгаўзен*, скарбнік—проф. *Васількоў*, сакратар—студэнт акадэміі *Фэдарака*, члены праўленьня *Яўменаў*, *Цітавец*, *Сраговіч*—настаўнік; два кандыдаты—*Агееў*—студэнт і *Ратноўскі*—лябарант.

Галоўным недахопам працы т-ва—ня ўсе члены яго ўдзельнічаюць у практычнай краязнаўчай працы. Сэкцыя школьнага краязнаўства, у якой павінны працаваць раённыя настаўнікі, нічым сябе ня выявіла. Дзеля вядзеньня фэнолёгічных назіраньняў былі організаваны два раённыя фэнпункты, але з боку наглядальнікаў (Лебедзеў і Аляксандраў) на працягу ўсяго году не паступала ў т-ва ніякіх вестак. Такія самыя адносіны былі з боку музэйнай камісіі. Таксама шмат асоб, якія згадзіліся працаваць у т-ве, пакінулі Горкі і раён. Вельмі паказальным фактам зьяўляюцца такія адносіны, што з пачатку году ў т-ва зьвернуты былі незапоўненыя блянкі анкет ЦБК БССР па вывучэньні прамысловасьці і хатніх рамёстваў. Гэткія адносіны яскрава сьведчаць аб тым, што пры такіх умовах нельга чакаць плянавага разьвіцьця краязнаўчай працы. Працуе толькі невялічкі актыў.

Профэсар Салаўёў.

## Краязнаўчая праца на Рагачэўшчыне.

Таварыства краязнаўства на Рагачэўшчыне налічвае ў сваіх шэрагах каля 100 асоб, з якіх 70 (50 студэнтаў і 20 настаўнікаў) прыходзіцца на пэд. тэхнікум. Усе-амаль 100 асоб—цяперашнія або будучыя настаўнікі; прадстаўнікоў іншых саюзаў дагэтуль уцягнуць, за 3—5 выключэньнямі, не ўдалося. Слаба пашырылася краязнаўства і на вёсцы: гурткі ёсьць у Азяранах, Гарадцы і па 3—5 іншых вёсках адзіночкі—настаўнікі, якія вядуць працу ў індывідуальным парадку. Гарадзкія краязнаўцы, апроч настаўнікаў і студэнтаў пэд. тэхнікуму, таксама працуюць індывідуальна, атрымліваючы заданьні непасрэдна ад праўленьня.

На чале т-ва стаіць праўленьне ў складзе 7 асоб; для сувязі з РВК і саюзам паляўнічых у праўленьне выдзелены ад іх прадстаўнікі.

Найбольш актыўнымі працаўнікамі зьяўляюцца студэнты і 8—10 настаўнікаў: рэшта асаблівага ўдзелу ў краязнаўчай працы ня прымае. Праца вядзецца па наступных разьдзелах: вывучэньне прыроды, культуры і экономікі Рагачэўшчыны. Вывучэньне прыроды за год мае наступныя вынікі: на працягу ўсяго году вядуцца сталыя мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні, праведзена зьбіраньне і часткова праверка народных прымет на пагоду; у Вікове (форма тэхнікуму) заложан пітомнік і жывы гэрбары дрэў і хмызьнякоў Рагачэўшчыны (ужо пасаджана каля 40 відаў); праводзіцца вывучэньне расьлін раёну, у выніку чаго складзены гэрбары з 300 прыблізна відамі і каля пэдтэхнікуму ўтвораны жывы гэрбары з 200 прадстаўнікамі расьлін Рагачэўшчыны; распачата вывучэньне кузурак: жукоў, матылькоў і інш.; праводзіцца сталае вывучэньне шляхоў пералёту птушак, якія жывуць і пралятаюць праз Рагачэўшчыну, прычым тых і іншых зарэгістравана звыш 130 відаў; вывучэньне рыбнае фаўны Дняпра (надрукавана ў часопісу „Наш Край“. Т-ва прымала ўдзел у археолёгічных і геолёгічных

разьведках ЦБ Краязнаўства. Організаваны фэнпункты пры цэнтральных школах кожнага сельсавету. Вывучэньне культуры і быту заключалася ў наступным: вывучалася жывая мясцовая мова, запісваліся народныя песьні, прыпеўкі, казкі, запісваліся абрады, загавары і г. д.; зьбіраліся розныя ўзоры народнага мастацтва, вышыўкі, помнікі мінулага: старыя монэты, выпіскі з старых царкоўных кніжок. Праведзена санітарна-бытавое абсьледваньне вёскі Збароў (паслана ў друк); вывучаецца сетка культасьветных установ Рагачэўшчыны, заканчваецца вывучэньне гісторыі б. Рагачэўскай настаўніцкай сэмінарыі. Вывучэньне экономікі раёну складалася з наступнага: абсьледваны картонная фабрыка і лесапільня Рагачэву (адасл. ў друк). Заканчваюцца карты глеб, карысных выкапняў, лясоў вытворчых прадпрыемстваў; праведзена абсьледваньне саматужных прадпрыемстваў г. Рагачэву, некалькі разоў рабілася абсьледваньні коопэрацыі, рынку і інш.

У сучасны момант праўленьне концэнтруе сваю ўвагу на наступныя пытаньні:

1. Укладаньне невялічкага зборніку „Наш Раён", які служыў-бы падручнікам для нашых школ, дзеля гэтага вызначана камісія, якая заканчвае распрацоўку пляну зборніка і анкет для зьбіраньня матар'ялаў для яго.

2. Ваенна-географічнае апісаньне Рагачэўшчыны: разам са штабам брыгады распрацавана і разаслана анкета па ўсіх падраённых гуртках; частка матар'ялу будзе скарыстана для зборніку „Наш Раён".

3. Уцягненьне ў працу працаўнікоў іншых саюзаў і ў першую чаргу працаўнікоў дасьледчых с.-гасп. установ, саўгасаў, лясьніцтва, агрономаў, якія могуць прынесьці надзвычайную карысьць у справе вывучэньня экономікі нашага раёну. Гэтая праца, як відаць з справаздачы, дзеля адсутнасьці спэцыялістых, дагэтуль не разгарнута дастаткова.

4. Вывучэньне гораду Рагачэву, як соцыяльна-экономічнага організму.

5. Вывучэньне кірмашу на „Зімняга Міколу" і што горад бярэ ад вёскі і дае ёй. Апошнія дзьве працы праводзяцца студэнтамі выпускных курсаў у парадку абавязковай практычнай працы.

6. Укладаньне раённага слоўніка мовы і географічнага разуменьняў.

7. Канчатковае афармленьне гурткоў краязнаўства пры 7-годках і ўцягненьне іх у практычную краязнаўчую працу.

8. Укладаньне бібліографіі Рагачэўшчыны.

9. Вывучэньне рэволюцыйнага руху на Рагачэўшчыне. С. Вялішчанскі.

## Краязнаўчы музэй у Чэрыкаве.

*(Магілеўшчына)*

31 сьнежня 1928 г. ў Чэрыкаве адбылося адчыненьне раённага краязнаўчага музэю. Адчыненьне было прыстасавана да 10-годзьдзя агалашэньня БССР.

Думка аб утварэньні музэю падымалася ў т-ве яшчэ ў 1926 г., але об'ектыўныя ўмовы (часта мяняліся сябры праўленьня, адсутнічала сталая, плянавая праца і інш.) не давалі магчымасьці да гэтага часу апрацаваць той матар'ял, які быў у т-ве і пакласьці пачатак існаваньня музэю.

Значны штуршок у справе заснаваньня музэю зрабіў інструктар ЦБК т. Жураўскі, які ў мінулым годзе пры аглядзе краязнаўчых т-ваў організацыйна аформіў заняпаўшае Чэрыкаўскае т-ва. Перавыбары праўленьня значна ажывілі настрой сяброў т-ва і накіравалі самую працу на пэўны шлях. Актыў т-ва на чале з старшынёй праўленьня т. Зыкавым ставілі сабе мэтай у працы на 1928 г. заснаваньне музэю: прывялі ў парадак і сыстэму краязнаўчы матар'ял; былі нарыхтаваны экспонаты мясцовай фаўны і флёры; пры дапамозе РВК дасталі памяшканьне для музэю (3 пакоі пры мясцовай бібліотэцы); набылі абсталяваньне, апал і інш.

Адчынены музэй ня можа пакуль што пахваліцца багацьцем экспонатаў, але-ж значную музэйную вартасьць у ім маюць грашовая колекцыя, рэчы старасьветчыны (4 крамнёвыя малаткі), матар'ял па экономічным апісаньні Чэрыкаўскага раёну і інш.

Праўленьне прымае энэргічныя крокі да павялічэньня экспонатаў музэю. З гэтай мэтай прыцягнуты да зьбіраньня краязнаўчага матар'ялу краязнаўчыя школьныя гурткі гораду і вёскі, сябры т-ва і аматары краязнаўства.

У справе павялічэньня музэю вялікую ролю адыграла-б тая маёмасьць б. Чэрыкаўскага павятовага музэю, якая ў 1924 г. была перададзена Акрмузэю Калінінщчыны. Зараз з скасаваньнем Калінінскай Акругі музэй Калінінщчыны страціў сваё акруговае значэньне. Рэчы, узятыя для Акрмузэю былое Калінінскае Акругі, варта-б было зьвярнуць у Чэрыкаўскі Краязнаўчы музэй.

Можна спадзявацца, што з адчыненьнем краязнаўчага музэю ў Чэрыкаве, праца т-ва значна ажывіцца. Паказчыкам гэтага зьяўляецца агульная зацікаўленасьць і шчырасьць да працы, выяўленая ў апошні час з боку як саміх сяброў т-ва, таксама партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый гораду і раёну. С. Зыкаў.

## Краязнаўчая справа на Бабруйшчыне.

*(Паводле абсьледваньня інструктара Цэнтрал. Бюро Краязнаўства С. Жураўскага 10—25/XI-28 г.).*

Краязнаўчая справа, як організаванае ўсебаковае вывучэньне краю ў добраахвотна-грамадзкім парадку, на Бабруйшчыне распачалася ў 1925 г. Ва ўсіх раёнах заснаваліся раённыя таварыствы краязнаўства, а ў горадзе—акруговае. Галоўнай масай краязнаўцаў зьяўляліся настаўнікі. Некаторымі раён-

ными таварыствамі праароблена значная праца па зьбіраньні розных матар'ялаў (слоўнага, фолькльорнага) і вестак, якія скарыстоўваліся галоўным чынам Інбелькультам. У Бабруйску 2 гады назад быў заснаваны краязнаўчы музэй, па сваім зьместу і працы лепшы ў Беларусі.

За апошні год краязнаўчая праца занепала, а ў апошнія месяцы (з ліпня м-ца) у акруговым т-ве зусім спынілася, і праўленьня фактычна ня было. Адсутнасьць кіраўніцтва з акругі адбілася і ў раёнах. Раённыя т-вы: Стара-Дароскае, Любаньскае, Сьвіслацкае і Парыцкае, як выявілася з дасьледваньня, амаль ніякай працы не праводзілі і нават організацыйна не аформіліся пасьля разьезду сяброў ранейшых праўленьняў. Ніякіх збораў матар'ялаў, або краязнаўчых музэяў ці куткоў у іх няма. У Асіпавіцкім раёне, які вызначаны 1-м усебеларускім краязнаўчым зьездам як ударны ў вывучэньні, праца за апошні год праводзілася толькі асобнымі працаўнікамі-адзінкамі (наст. Немцаў). Тут ёсьць добры краязнаўчы музэйчык, але ён носіць школьна-прыкладны характар і месьціцца пры Чыгуначнай 7-годцы. Толькі ў Слуцку адчуваецца некаторы рух і ёсьць вынікі дзейнасьці. Ёсьць досыць багаты па зьместу і добры па экспоноўцы музэй з краязнаўчай бібліотэчкай. К пяцігодзьдзю існаваньня т-ва рыхтавала выданьне зборніка „Случчына". Улетку т-ва шырака разгарнула падарожніцка-экспэдыцыйную справу. Рабіліся даклады па краязнаўству на рабочых сходах. Зарэгістраваны помнікі старасьветчыны раёну, складзены карты і інш. Але сувязі з акруговым т-вам Слуцкае т-ва нямае. З ЦБК сувязь падтрымліваецца праз часопіс „Наш Край".

У час дасьледваньня выявілася, што краязнаўчая зацікаўленасьць на мясцох ня зьнікла. Краязнаўчыя нарады, праведзеныя ва ўсіх дасьледваных раёнах, прыцягвалі шмат мясцовых актывістых-настаўнікаў, служачых і моладзь. На сходах былі адноўлены праўленьні т-ваў, пастаноўлена перарэгістраваць усіх сяброў. Вызначаныя конкрэтныя заданьні разьмеркаваны паміж асобнымі працаўнікамі і групамі іх. Галоўнае краязнаўчае заданьне—апісаньне свайго раёну—разьмеркавана асобнымі тэмамі між рознымі працаўнікамі: настаўнікамі, агрономамі, дактарамі і інш. Другое актуальнае пытаньне—заснаваньне раённых краязнаўчых музэяў (дзе іх няма)—вырашана станоўча і конкрэтна вызначана зьбіраць розныя матар'ялы для музэю. Прыняты і іншыя прапановы: аб вывучэньні карысных выкапняў, сельскай гаспадаркі, коопэрацыі; вядзеньне фэнолёгічных і мэтэоролёгічных нагляданьняў; складаньне археолёгічных карт і д. г. п. Пастаноўлена пашыраць „Наш Край" і наладзіць сувязь з акругай.

Можна лічыць, што настрой да працы на мясцох склаўся, організацыйныя і мэтодычныя пытаньні вырашаны, але для падтрыманьня справы і для рэалізацыі высунутых заданьняў неабходна належная ўвага, дырэктывы і садзейнічаньне з боку як акруговых, так і раённых партыйных і савецкіх органаў і ўстаноў.

Для ажыўленьня і пашырэньня краязнаўчай працы і сьвядомасьці як у горадзе, так і ў раёнах, патрэбна наступнае:

1) Пастаноўка дакладаў аб дзейнасьці краязнаўчых т-ваў у РВК.

2) Выступленьні з дакладамі на конкрэтныя краязнаўчыя тэмы на сходах рабочых і сялян.

3) Заснаваньне і адчыненьне для агляду музэяў раёнаў (пажадана злучыць іх з агрономічнымі габінэтамі).

4) Організацыя краязнаўчых гурткоў пры сельсаветах, школах (7-мігодках) і інш. установах.

5) Вызначэньне корэспондэнтаў у мясцовую і цэнтр. газэты, дзе краязнаўству адведзена месца.

6) Скарыстаньне камандыровак на раёны розных акруговых працаўнікоў (інспэктары асьветы, агрономы, інструктары АВК і інш.) для абуджэньня працы, дзе яе няма.

7) Выпіска часопісу „Наш Край" і іншай краязнаўчай літаратуры.

## Чырвонаслабодзкае Раённае Таварыства Краязнаўства.

*(Бабруйская акруга).*

Гэтае т-ва організавана ў 1926 г. ў ліку 33 асоб, але праца амаль не праводзілася. З часам амаль усе сябры праўленьня выбылі, а склад праўленьня не папаўняўся. Праводзілася праца толькі ў сямігодках, дзе сабраны пры дапамозе вучняў зельнікі мясцовых расьлін, некаторыя прадметы старажытнасьці, колекцыі мінэралаў і моноліты мясцовых глеб.

У маі 1928 г. праўленьне было адноўлена. Усяго сяброў таварыства налічваецца 41 чалавек. З іх: настаўнікаў—33, служачых савецкіх устаноў—6, 1 агроном і 1 мэдпрацаўнік. Яны падзелены на 4 сэкцыі: гістор. рэволюцыі, прыродазнаўства, экономічную і слоўную. За гэты раз абсьледваны вадазборы раёну, вядзецца фэнолёгічнае назіраньне ў Семянове і Чырвонай Слабадзе. Для лепшага кіраўніцтва працай утвораны на раёне краязнаўчыя гурткі. Апрацаваны програмы працы сэкцый і раённага краязнаўчага музэю, якія разасланы па гуртках. На сабраныя сяброўскія адлічэньні выпісана „Бібліотэчка" краязнаўца і часопіс „Наш Край" для Праўленьня. З 1-га студзеня г. г. выпісваецца для раёну 7 экз. часоп. „Наш Край" тэрмінам на год. Пачалі організаваць краязнаўчы раённы музэй.

Перашкодамі ў працы зьяўляецца адсутнасьць належнага кіраўніцтва з боку вышэйшых краязнаўчых організацый, няма стала падрыхтаванага працаўніка. Да апошняга часу ня было краязнаўчай літаратуры. З мяс-

цовымі організацыямі сувязь ёсьць, але дапамогі з іх боку пакуль што ня было.

У далейшым мяркуецца зьбіраць фольклёрны матар'ял, а вясною скласьці зельнік мясцовых расьлін, сабраць моноліты глеб раёну, мінэролёгічную колекцыю і г. д.

## Праца Вяліка-Летчанскага Ботанічнага Саду за 1927-28 г. *).

Вяліка-Летчанскі Ботанічны Сад мае вялікае навуковае і практычнае экономічнае значэньне. Да 1928 г. сад знаходзіўся ў запушчаным выглядзе: шмат вельмі каштоўных расьлін было раскідана па ўсім садзе, ня было пэўнага пляну далейшага разьвіцьця Саду, некаторыя расьліны ня мелі азначэньняў. Сад ня меў належнага абсталяваньня, штату і сродкаў на абсталяваньне лябараторыі, набыцьцё літаратуры і г. д.

Вельмі цяжкія матар'яльныя ўмовы, у якіх знаходзіўся Ботанічны Сад, прымусілі Кіраўніцтва яго зьвярнуць галоўную ўвагу на стварэньне пэўнай экономічнай базы, якая дала магчымасьць разгортваць у далейшым навукова-дасьледчую працу ў Садзе. З гэтай мэтай закладзены пладовы рассаднік, організаваны пчэльнік (21 сям'я), дэкорацыйнае квятнярства (разьвядзеньне руж, якія маюць добры збыт), зроблена пяць сажалак для разьвядзеньня карпаў. Запасны фонд зямлі паступова будзе выкарыстоўвацца для пашырэньня засеву садовых расьлін. Гаспадарка Саду моцная і дае магчымасьць разгортваць працу і ўтрымоўваць пэрсонал пры вельмі слабым бюджэце.

Упарадкаваньне ботанічнай часткі Саду выявілася ў наступным: 1) зроблена 1200 ботанічных градак для перасадак расьлін з старых ботанічных градак, парослых пустазельлем, 2) перасаджана і заэтыкетавана каля 500 відаў розных расьлін і 163 стракаталісных расьлін, знойдзеных у гэтым годзе на тэрыторыі Ботанічнага Саду, 3) павялічаны ў 2 разы рассаднік садовых дрэў, 4) саброна больш за 1000 відаў расьлін для гэрбарыя, 5) дабудавана цяпліца і г. д.

Апрача таго, пасаджана 20 гатункаў суніц, закладзены помалёгічны пладовы сад (96 дрэў), прышчэплена каля 150 парод розных пладовых дрэў, у пладовы выхавальнік пасаджана да 10 тыс. дзічкаў і інш. Разам з гэтым праведзены шэраг мерапрыемстваў гаспадарчага парадку для палепшаньня становішча Саду.

Ботанічны Сад вядзе і грамадзка-карысную працу сярод вакольнага насельніцтва. Так, напр., сіламі Ботанічнага Саду ўвесну былі праведзены двухтыднёвыя сельска-гаспадарчыя курсы, якія ахапілі 30 слухачоў-сялян. Сад даваў для насельніцтва рассаду палепшаных гатункаў капусты, караньплодаў і інш.

Супрацоўнікамі Ботанічнага Саду падрыхтоўваюцца некаторыя працы для друку.

В. С-іч.

*) Знаходзіцца ў Вялікіх Летцах пад Віцэбскам, організованы вядомым ботанікам аматарам У. У. Адамавым.

## Праца Азярышчанскага Раённага Т-ва Краязнаўства.

*(Віцебская акруга).*

Быў выпрацаваны пляны прац на год. Галоўныя моманты пляну: вывучэньне экономічнага становішча раёну, складаньне слоўніка мовы раёну і організацыя краязнаўчага музэю. Праца вялася плянава, але ў гэтым годзе плян быў выкананы ня больш, як на 60% па розных прычынах об'ектыўнага характару: дажджлівае лета часткаю парушыла пляны, ад'езд з раёну асоб, на працу якіх разьлічвалі пры складаньні пляну і інш.

Галоўнейшая перашкода, якая значна затрымлівала працу—гэта поўная адсутнасьць літаратуры інструкцыйнага характару. У гэтых адносінах поўнае задавальненьне змогбы даць „Наш Край". Але высокая цана яго перашкаджае мабыць нашым краязнаўцам набыць хоць-бы па адным экзэмпляры на сельсавет.

Зараз вядзецца сталая systэматычная праца па зборы матар'ялу для слоўніка мовы раёну. Таксама зьбіраюцца экспонаты для раённага краязнаўчага музэю. Выпраўляецца географічная карта раёну і складаецца археолёгічная карта. Ідзе запіс фольклёру. Ёсьць некалькі запісаных народных мэлёдый. Запоўнена 3 анкеты—програмы асаблівасьцяй мовы. Вядзецца сталае мэтэоролёгічнае назіраньне, а таксама вызначана і два пункты фэнолёгічных назіраньняў. Вось галоўныя моманты працы нашага Т-ва.

Хв. Макараў.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Віцебшчына**, *непэрыодычны зборнік Віцебскага Акругова Таварыства Краязнаўства, т. II. Віцебск, выд. таварыства. 1928 г., стар. 203, тыраж 1000 экз. 8⁰, цана 2 руб.*

Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства за чатыры гады свайго існаваньня зрабіла шмат карыснае працы: яно выдала некалькі асобных монографій (І. Фурмана, А. Шлюбскага), краёвы слоўнік (М. Касьпяровіча), два тамы непэрыодычнага зборніка „Віцебшына".

Разгледзім другі том зб. „Віцебшына", які нядаўна вышаў з друку. З боку зьместу ён надзвычайна багаты. Падзяляецца на тры разьдзелы: 1) экономічны, 2) прыродазнаўчы і 3) культурна-гістарычны. Цікавы і багаты розным матар'ялам разьдзел першы — экономічны. Асабліва артыкулы Лур'е М. І. „Цэнзавая прамысловасьць Віцебшыны да вайны" і ў часе рэволюцыі (стар. 17—32), „Кірмашы"

(стар 67—81), а таксама Ярусава „Насяленьне Віцебшчыны".

Другі разьдзел — прыродазнаўчы, зьмяшчае багата спэцыяльнага матар'ялу, які мае непасрэдную цікавасьць для асоб, што вывучаюць флёру і фаўну Віцебшчыны. Тут трэба памянуць два артыкулы А. І. Радкевіча „Стрэлкі Віцебшчыны (Odonata)", „Ільняны чарвяк (Plusiagamma) і некалькі прыкладаў барацьбы з ім" і артыкул К. Васільлева „Паляўнічыя птушкі і зьвяры" (стр. 97—109).

Мы-ж пераважна спынімся на трэцім разьдзеле—культурна-гістарычным, гэты разьдзел займае палову зборніка (стар. 115—204). Пераважаюць у ім артыкулы, прысьвечаныя апісаньню рознага мастацкага багацьця г. Віцебску, што і зразумела: у XXI—XVIII в.в. ён быў цэнтрам, дзе адбывалася рэлігійная барацьба паміж прадстаўнікамі розных рэлігійных напрамкаў. Вось чаму групы, вёўшыя паміж сабою барацьбу, разумелі, які ўплыў мае малярства на масы, а адсюль багацтва помнікаў, якія прыцягваюць увагу краязнаўцаў. У гэтых адносінах цікавы артыкул М. М. Шчакаціхіна „Матар'ялы да гісторыі беларускага малярства XVIII ст." (стар. 147—167). (Пачатак яго зьмешчаны ў I томе „Віцебшчыны", што быў выдадзены ў 1925 г.). У ім аўтар на падставе некалькіх экспонатаў, што належаць Віцебскаму музэю (экспонаты пераважна ўзяты з б. Увядзенскай царквы г. Віцебску) робяць вывад аб існаваньні на Беларусі пэўнае іконапіснае школы, якая па сваім композыцыйным афармленьні рэзка адасаблялася ад наўгародзкай, і маскоўскай. Яна значна болей мела агульнага з украінскай іконапіснаю школай, што аўтар часткова і доводзіць.

Два наступныя артыкулы: І. Гаўрыса „Возрабнае мастацтва ў г.Віцебску" і І. П. Фурмана „Віцебскія мастакі-гравёры" прысьвечаны падзеям і фактам, што мелі месца ў жыцьці гораду ўжо ў нашыя дні. Першы з іх у кароткіх рысах разглядае этапы разьвіцьця мастацтва ў Віцебску, пачынаючы з 1918 г. Аўтар спыняецца на эволюцыі, што парушыла акадэмічнае разуменьне мастацтва і вызвала да жыцьця „Вышэйшыя дзяржаўныя вольныя мастацкія майстэрні", іх далейшай рэорганізацыі і тэй формальна-мастацкай барацьбе, што адбывалася паміж Віцебскімі мастакамі. Шмат хто з мастакоў і іх вучняў у выніку гэтае барацьбы пакінулі Віцебск і выехалі за межы Беларусі. З далучэньнем Віцебшчыны да Беларусі, мастацкае жыцьце яе стала зусім на іншыя шляхі.

Другі артыкул спыняецца выключна на трох віцебскіх ксілёграфах, гэта Юдовіне, Мініне і Гарбаўцы. Тут аўтар коратка кранаецца зьместу іх творчасьці, пералічвае, у якіх выстаўках кожны з іх прымаў удзел сваімі гравюрамі, называе літаратуру, дзе пісалася аб гэтых мастаках, і дзе былі зьмешчаны іхныя гравюры. Артыкул надзвычайна цікавы і каштоўны для кожнага краязнаўцы; ён паказвае, як трэба зьбіраць і апрацоўваць матар'ял такога характару.

Заслугоўвае ўвагі пастаўленае пытаньне М. В. Анцавым у яго артыкуле „Беларуская народная песьнятворчасьць" (стар. 184—196). У ім М. В. Анцаў спыняецца на беларускім фольклёры. У пачатку ім даецца кароткі агляд тых этнографаў, што зьбіралі беларускія песьні; тут памінаюцца працы Чочота, Янчука, Нікіфароўскага, Раманава, Насовіча, Бяссонава ды інш. Прыходзіцца пашкадаваць, што аўтар ня даў крытычнае ацэнкі працам памянутых аўтараў. У другой частцы свайго артыкулу, аўтар высоўвае пытаньне аб народнасьці песьні, якое ён лічыць вельмі важным. Тут ён зазначае, што песьню неабходна ўсебакова дасьледваць, як з боку тэксту, так і мэлёдыі, і адкінуўшы тыя песьні, якія не зьяўляюцца народнымі, адабраць самае тыповае, пералажыць іх на музыку, надрукаваць і зрабіць ужыткам шырокіх грамадзкіх гушч. Пытаньне заслугоўвае сур'ёзнае ўвагі з боку нашых сучасных зьбіральнікаў фольклёру.

У артыкуле Я. Васілевіча „Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй" падаюцца кароткія агульныя весткі аб гісторыі заснаваньня музэю, яго шасьці аддзелах і аб тых колекцыях, што ў іх уваходзяць. Тамсама аўтар пералічвае і тыя крыніцы, з якіх Віцебскі музэй склаўся. Яго чарговая задача— гэта сыстэматызаваньне і інвэнтарызаваньне свайго фонду, складаньне пуцяводніка і дасьледваньне экспонатаў важнейшых груп.

Крыху асобна стаіць артыкул А. К. Супінскага „Прыгонная Віцебшчына" (стар. 117—146), у ім аўтар кранаецца пытаньня народнае гаспадаркі ў XVIII в. Назва артыкулу абяцае даць малюнак прыгону па Віцебшчыне за досыць значны час. У працы-ж мы знаходзім невялічкі пэрыод, прыблізна— апошнія 10 год XVIII в., дый той высьвятляецца на падставе вельмі нязначнага ліку і досыць беднага архіўнага матар'ялу. Аўтар амаль не скрыстоўвае актаў, што былі выдадзены Віленскай Археогр. Комісіяй. Таксама адсутнічае і літаратура (калі ня лічыць трох ссылак на Сапунова і Каяловіча). Пададзеныя ім у працы табліцы (да 10 штук), ня робяць сур'ёзнага ўражаньня. м ня верыш; папершае — ня відаць, на падставе чаго яны складзены, падругое — яны не заўсёды пацьвярджаюць тое, што хоча сказаць аўтар. Бязумоўна, аўтарам закранута адно з цікавейшых пытаньняў з гісторыі народнае гаспадаркі на Беларусі, але яно ім слаба распрацована. Заслуга аўтара, як дасьледчыка у выяўленьні таго нязначнага матар'ялу, што быў невядомы нашаму чытачу. І толькі.

У заключэньне трэба адзначыць, як станоўчы факт, што рэцэнзуемы намі том „Віцебшчыны" значна адрозьніваецца ад першага тому, як з боку падбору матар'ялу, так і з тэхнічнага боку. Выдадзены вельм ўдала (формат, папера, здымкі, карты). Прыходзіцца пашкадаваць толькі, што ў зборніку

адсутнічае матар'ял па гісторыі асьветы Віцебшчыны, рэволюцыйным руху ды інш., але нам здаецца, што наступныя тамы „Віцебшчыны", якраз выправяць гэты недагляд. У далейшым трэба зьвярнуць увагу і на друкарскія памылкі, бо ў гэтым томе іх аж занадта. С. Баркоўскі.

**І. П. Фурман.** *Віцебскія мастакі-гравёры.* Выданьне Віцебск. акругов. таварыства Краязнаўства. Віцебск., 1928 г., стар. 30, тыр. 60 экз. Цана не паказана.

Імя І. П. Фурмана вядома беларускаму чытачу па яго ранейшых працах, як „Крашаніна", „Віцебск у гравюрах С. Юдовіна" ды інш. У вывучэньні мастацтва аўтар удзяляў шмат увагі беларускай ксілёграфіі (гравюра на дрэве), у прыватнасьці яе разьвіцьцю за апошнія гады.

Рэцэнзуемая намі новая праца І. П. Фурмана зьяўляецца матар'ялам да гісторыі беларускай ксілёграфіі. Аўтар зазначае ў першай частцы сваёй працы, што Віцебск сваімі ксілёграфічнымі сіламі займае адно з першых месц ня толькі ў Беларусі, але ва ўсім Саюзе. Віцебскія ксілёграфы ў сэнсе афармленьня кнігі зрабілі шмат карыснае працы.

Яго праца падзяляецца па сваім зьместу, на дзьве часткі: у першай ім даецца кароткі нарыс гісторыі ксілёграфіі, разьвіцьцё, якое цесна было зьвязана з разьвіцьцём кнігі. Другая частка працы прысьвечана творчасьці трох ксілёграфаў — С. Б. Юдовіна, Е. С. Мініна і З. І. Гарбаўца. Тут аўтар, гаворачы аб кожным з іх паасобку, спыняецца: 1) на характарыстыцы (скарэй тэматычнасьці) іх работы, 2) у якіх выстаўках названы гравёр за апошнія гады прымаў удзел сваімі гравюрамі і 3) у якіх выданьнях былі зьмешчаны яго гравюры.

На гледзячы на тое, што ўсе тры памянутыя ксілёграфы бяруць матар'ял для сваёй мастацкае творчасьці ў адным горадзе, кожны з іх да аднаго і таго-ж падыходзіць па-рознаму. Кожны з іх надае сюжэту сваю трактоўку ў разуменьні гравюрнае пабудовы.

С. Б. Юдовін тэмаю сваіх гравюр узяў быт яўрэйскага мястэчка. Тут мастаку ўдалося перадаць ня толькі конкрэтныя рысы гэтага быту, але нават і самую акольную абстаноўку, якая прапітана рэлігійнымі традыцыямі і забабонамі, якімі дыхала яўрэйская бедната ў эпоху матар'яльнага і культурнага ўціску, у эпоху царскае рэакцыі. Гравюры Юдовіна застануцца помнікамі нядаўнага яўрэйскага „гетто". Аб яго гравюрах нядаўна выдадзена цікавая кніжка „С. Юдовін, гравюры на дереве. Текст И. Иоффе и Э. Геллербаха" (Лен. 1928 г.). Пераважная большасьць сюжэтаў другога гравёра Мініна— архітэктурныя помнікі г. Віцебску. І, як правільна зазначае аўтар, яго працы ў краязнаўчых адносінах маюць вялікую каштоўнасьць. Поруч з гэтым Мінін першы зрабіў спробу стварэньня беларускага кніжнага знаку. (М. Касьпяровіч, А. Шлюбскі, і М. Мялешкі). Трэці з іх, З. І. Гарбавец, па сваім формальным напрамку—гравёр портрэтыст. Яго портрэты характэрны тым, што рельефна перадаюць індывідуальныя рысы асоб. Зьмест яго творчасьці—ваколічнае жыцьцё г. Віцебску. Адрозьніваецца ён ад Юдовіна і Мініна падыходам да выбару матар'ялу (уздоўжнае дрэва). Яго працы, як зазначае І. П. Фурман, атрымалі надзвычайна добрыя водзывы ў мастацкіх колах Масквы. Вось кароткі зьмест пададзенае кнігі.

Роля падобных кніжак аграмадная. Адбіваючы ў гравюрах пэўную эпоху, архітэктурныя помнікі і бытавыя зьявы—мастацкая кніга разам з тым набліжае мастацтва да таго, хто не заўсёды можа быць у музэі і на выстаўцы. Гравюра—адно з самых дэмократычных мастацтваў Добра выдадзеная кніжка з гравюрамі можа замяніць шырокім гушчам насельніцтва самы твор; яна адначасова з тым разьвівае і густ і эстэтычнае пачуцьцё ў таго, хто яе чытае. Прыходзіцца пашкадаваць, што мала выдадзена (60 экз.).

Заканчваючы нашу рэцэнзію, нам-бы хацелася яшчэ спыніцца на тэхніцы выданьня названае кнігі. Вокладка, застаўкі і канцоўкі, а таксама выбар і разьмеркаваньне шрыфту і малюнкаў — усё гэта пакідае прыемнае ўражаньне. Прыходзіцца дзівіцца, як гэта беднае акруговае таварыства краязнаўства, пры адсутнасьці сродкаў, можа выдаваць такія тэхнічна дасканалыя кніжкі, якія, нам здаецца, наўрад ці здолела-б выдаць наша Дзяржаўнае Выдавецтва.

С. Бар.

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

## Ад рэдакцыі часоп. „Наш Край“.

У № 1 часоп. „Наш Край“ за 1929 г. у артыкуле Я. Марука „Краязнаўчая праца і студэнцтва“, па недагляду рэдакцыі, укралася памылка. Надрукована: „*Сяляне-дасьледчыкі, як Мароз, Савіч ды інш. цяпер вядуць свае досьледы пры дапамозе Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна*“.

Як выявілася, гаспадарка Мароза ня мае з боку навукова-дасьледчага ніякай вартасьці, а зьяўляецца тыповай кулацкай гаспадаркай.

Недагляд Рэдакцыі тлумачыцца тым, што артыкул быў пададзены і выпраўлены да друку рэдакцыяй часопісу раней выяўленьня праўдзівага характару памянёнай гаспадаркі.

